**Карта ЛІТВАНІІ** – нашай прарадзімы ў XY ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага ў часы яе найбольшага росквіту пры князю ВКЛ Вітаўту Вялікаму, які, пражыўшы 80 гадоў, правіў з 1392 па 1430 год.

Летапісы і хронікі

Беларусі




Зьмешчаныя тутака хронікі і летапісы прысьвечаныя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага наагул, а таксама асобных мясцовасьцяў Беларусі. Падзеям, што адбываліся ў Вялікім Княстве, прысьвечаныя дзьве найбольшыя хронікі (Хроніка літоўская і жамойцкая, Хроніка Быхаўца). У двух летапісах (Баркулабаўскі, Панцырнага і Аверкі) паведамляецца ў асноўным пра становішча ў асобных гарадах ці раёнах усходняй Беларусі. Так, летапіс Панцырнага і Аверкі тычыцца пераважна Віцебску, а Баркулабаўскі, дзе надаецца багата ўвагі Берасьцейскай царкоўнай уніі, кажа таксама і пра падзеі канца XVI — пачатку XVII ст. у Магілёве, Віцебску, Полацку і Баркулабаве. Храналягічна зьвесткі, зьмешчаныя ў летапісах і хроніках, ахопліваюць падзеі з часоў легендарных (пачатак нашай эры) і да 60-х гадоў XVIII ст. Найбольш позьнія зьвесткі дае летапіс Панцырнага і Аверкі.

*Мікола Ўлашчык*

**ПАВАЖАНЫ СУАЙЧЫНЬНІК!**
**АДКРЫЙ ДЛЯ СЯБЕ СТАРОНКУ ПРАЎДЫ ПРА БЕЛАРУСЬ**
**(ЭТНІЧНАЯ НАЗВА: ЛІТВАНІЯ)**


# МІКОЛА МІЛАШ




Фота з архіва: аўтару 43 года.

# *НА ХВАЛІ АДРАДЖЭНЬНЯ*

Зборнік твораў пра гістарычную
Спадчыну і адраджэньне Духу нацыі

**Кніга 1-я**


**г.Смаленск**
**2012**

УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)-5
М-22

*“Адданасьцю стукочуць нашы сэрцы*
*З крыніц благаславенных праўду піць.*
*Мінуласьці сьвятой з зямлі не сьцерці*
*І веры ў Бога ў сэрцы не спыніць”.*
**Ларыса Геніюш**

Мілаш **Мікола**
М-22 Кніга 1-ая: **На хвалі Адраджэньня**.
Смаленск: ТДА “Новы сьвет”, 2012, 152 старонкі.

“На хвалі Адраджэньня”– зборнік паэтычных твораў і эсэ пра гістарычную спадчыну і сучасны рух за адраджэньне Духу нацыі праз усьведамленьне Свабоды ў гістарычных пластах народнай памяці роднага краю ў адпаведнасьці з пагодай часу. Асобныя творы гучалі на радыё “*Свабода*” (2007-2010) і публікаваліся ў газетах “Народная Воля”, “Наша Слова” і “Інфа Кур’ер”.

Гэтая кніга спарадзілася ў выніку знаёмства аўтара зь гісторыяй Айчыны з нагоды ўдзелу ў конкурсу па супольнай спадчыне народаў Рэчы Паспалітай, арганізаванага 1-м Сакратаром амбасады Рэспублікі Польшча магістрам Мар‘янам **Семаковічам** ў 2005 годзе.

О. Афармленьне: ГА фонда ім. Фр. **Скарыны**, 2012.
О. Фундатар выданьня: Іван **Даўматовіч.**
О. На пярэднім шмац-тытуле скарыстаны здымак традыцыйнага з 1989 года шэсьця ў Курапаты на Дзяды, якое праводзіцца па ініцыятыве КХП-БНФ. Менавіта ў такіх прыкладна шэсьцях і адраджаецца Дух нацыі.

ISBN

*“Бязь веданьня праўдзівай гісторыі грамацтва сьлепне”*
**Зянон Пазьняк**

Прысьвячаецца змагарам за незалежнасьць Айчыны і адраджэньне Духу нацыі

# Пароль кніжкі

Духоўным паролем кніжкі з’яўляецца адказ на пытаньне:

— Чаго душа жадае мець: **Права ці Свабоду?**

Адказ на яго павінен сёньня гучаць так:

— І **Права!** І **Свабоду!**

І сапраўды, гэтая формула з'яўляецца вобразным увасабленьнем станаўленьня Духу нацыі, бо як не бывае **Правоў** без **Свабоды,** так не бывае і **Свабоды** бяз **Права,** без чаго душа знаходзіцца пад дамоклавым мячом самавольства. Такая форма ўзаемаадносін гэтых катэгорый найбольш яскрава адпавядае сучаснаму становішчу адраджэньня Айчыны, бо як яшчэ ў прадмове да **Статуту Вялікага княства Літоўскага 1588** – самай сьвядомай і паўнавартаснай кнізе аб найсьвятлейшым жыцьці нашага народа – сцьвярджаў апостал **Праўнасьці** канцлер ВКЛ **Леў Сапега**: мы “***з’яўляемся нявольнікамі Правоў дзеля таго***, ***каб карыстацца Свабодай***”.

# Запавет кніжкі

У часы духоўнага заняпаду нацыі, калі забаранялася родная мова, знакаміты запавет паэта-дэмакрата Францішка Багушэвіча гучэў набатам:

— *Не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб не ўмёрлі!*

І сягоньня гэты запавет слушна гучыць вуснамі Народнага паэта **Ніла Гілевіча**:

*Родная мова! Ты воч не расі!*
*Лёс твой – Свабода.*
*Іменна ты незалежнасьць дасі*
*Духу народа.*

# Зварот кніжкі

Як патрэбнасьць часу сёньня нястомна гучыць зварот да народа па прынцыпу змагара за адраджэньне **Духу** нацыі апостала **Свабоды** Кастуся **Каліноўскага**:“*Каго любіш?*” шакспіраўскім пытаньнем:

***-- Быць нам ці не быць нацыяй этнічнай краіны?***

І адказ на яго ў нас павінен быць толькі адзін:

**-- Быць нацыі краіны з назвай Літванія!!![1]** Сімваламі яе былі, ёсьць і будуць Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і герб “Пагоня”**![2]** – сьветач вячыстай памяці вякоў нашай гістарычнай спадчыны, якою сёньня ўлада грэбуе.

І сапраўды, яшчэ наш суайчыньнік Адам **Міцкевіч,** вядомы як паэт-філамат, апостал **Духу** ліцьвінскай нацыі (ён сябе называў **ліцьвінам**) у сваіх творах з павагай і сьвятой любоўю апяваў свой край (з 1795г. пасьля 3-га падзелу **Рэчы Паспалітай[3]** па прыхамаці Кацярыны ІІ наш край сталі называць Беларусіяй, а пасьля 1839г. па царскаму указу зусім забаранілі назву Беларусь, а народ называцца – беларусамі ці **ліцьвінамі:** называлі нас проста – “*тутэйшымі*”), за якіх, ён як рыцар **Свабоды,** аддаў сваё нядоўгае (пражыў толькі 57 год), але яркае жыцьцё. Ён так пісаў аб сваім зьняволеным краю: *”Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое, не цэніш маючы, а страцім залатое – шкада, як і красы твае”.*

---

**1.Літванія** – чытай эсэ “**Наша прарадзіма і яе лёс”** на стар.103.

**2** Пра **Бел-Чырвона-Белы Сьцяг** і герб “**Пагоня”** – чытай камэнтарыі на стар.119.

**3. Рэч Паспалітая** (тоесна **Рэч Публіка –** ў перакладзе з лаціны азначае: грамацкая /**публічная**/ справа). Гэта – форма дзяржаўнага праўленьня, пры якой улада належыць выбарным установам, якія і выконваюць волю народа, абапіраючыся на дэмакратычнае права.У нашай жа краіне гэта форма праўленьня спраўлена пад уладу адной асобы, бо выбраны ”*кішэнны парламент*” – гэта фігавы лісток, якім прыкрываецца абсалютная манархія, дзе выканаўчая і заканадаўчая ўлады і ўся судовая справа знаходзяцца пад уціскам гэтай асобы, а дэмакратычнае права – аддана забыцьцю. Такім чынам, наша дзяржава – ўвасабленьне дыктатуры, хоць і значыцца яна суверэннай дэмакратычнай Рэспублікай Беларусь, якая сёньня знаходзіцца на задворках Еўропы.

## ПРАДМОВА

Паважаны чытач! Калі ты ўзяў у рукі гэтую кніжачку, прызнаючы запавет, што нагадалі нам адраджэнцы адказных часоў і іх найноўшыя пасьлядоўнікі: апостал **Праўнасьці** Леў **Сапега,** апостал **Свабоды** Кастусь **Каліноўскі,** апостал **Славы** і **Волі** Ўладзіслаў **Сыракомля**, апосталы **Духу** нацыі Фрранцішак **Багушэвіч,** Янка **Брыль,** Рыгор **Барадулін,** Ніл **Гілевіч,** Вінцэнт **Дунін-Марцінкевіч,** Ул-мер **Караткевіч**, Якуб **Колас,** Янка **Купала,** Леанід **Лыч,** Адам **Міцкевіч,** Ул-мер **Някляеў,** Анатоль **Сыс,** Ян **Чачот** і др., значыць ты ўжо ачнуўся ад зацятага сну. Твае памкненьні да лепшага жыцьця сталі ісьці побач з тысячамі такіх як ты за самасцьвярджэньне **Духу** нацыі, якое ўзначалілі патрыёты Айчыны апостал руху "***За Адраджэньне!***" **–** Зянон **Пазьняк** і апостал руху "***За Свабоду!***"**–** Аляксандар **Мілінкевіч**, бо як казаў апостал **Сумленьня** Васіль **Быкаў:** *"**Свабода** – галоўная маральная і фізічная каштоўнасьць, якая дадзена кожнай жывой істоце ад нараджэньня".* А загубіць яе – значыць жыць бяссэнсава. А калі яна страчана, то ўваскрашэньне яе з'яўляецца галоўнай справай кожнай сьвядомай асобы.

Але на агністым шляху вельмі многа перашкод, якія існуюць ў якасьці **пошасьцей быцьця і** якія трэба перадольваць. **Па-першае** – гэта **страх** перад уладай, якая рознымі прыёмамі імкнецца прыгнясьці волю чалавека і зрабіць яе падатлівай, як гумавы мячык. **Па-другое** – праводзіцца нахабны **абман** народа, які запаланіў усе сродкі дзяржаўнай інфармацыі і замбіруе народ ў межах "*чаркі са шкваркай*", ажыцьцяўляючы скрыты гена-і лінгвацыд нацыі. **Па-трэцяе** – гэта **здрада,** якая набыла нацыянальны характар дзякуючы ўзрастаньню карупцыі ў маштабе дзяржавы і подкупу кіраўнікоў сілавых структур і чыноўнікаў па вертыкалі. Гэтым праявам жыцьця прысьвечаны паэма "Здрада", балада "Гульні ў зморы", вершы: "Пошасьці быцьця", "Заложнікі Сумленьня" і др.

Але нацыю нельга скарыць і зьнішчыць. Аб гэтым сьведчыць ваяўнічая дзейнасьць нашых суайчыньнікаў – змагароў за **Свабоду** і адраджэньне **Духу нацыі**, як:

**1.** Апосталы **Асьветніцтва:** першадрукар Фр.**Скарына (1490-1555)**; астраном Марцін **Пачобут-Адляніцкі (1728-1810)**; мовазнаўцы аўтар **1-й** Хрэстамацыі беларускай літаратуры Бр.**Эпімах-Шыпіла (1859-1934)** і аўтар **1-га** Лямантара беларускай мовы Вацлаў **Іваноўскі (1880-1943)**; практык нацыянальнага Адраджэньня Вацлаў **Ластоўскі (1880-1943);** грамацкі і дзяржаўны дзеяч Аркадзь **Смоліч (1891-1942);** мова-і літаратуразнавец "*чалавек Адраджэньня*" Адам **Мальдзіс (1932)**; старшыня Таварыства беларускай мовы Алег **Трусаў (1954)** і др.

**2.** Апосталы **Дзяржаўнасьці:** Вялікія князі ВКЛ **Міндоўг (1195-1263)**– заснавальнік нашай этнічнай дзяржавы **Літваніі** і **Віцень (?-1316),** які ў 1296г. узгадніў дзяржаўны герб "**Пагоня**"; піянеры беларускай дзяржаўнасьці – браты Антон **(1884-1943)** і Іван (**1881-1919) Луцкевічы**; нацыянальны герой – генерал Станіслаў **Булак-Балаховіч** (**1883-1940**), Старшыня Вярхоўнага Савета РБ 1991-94 Станіслаў **Шушкевіч (1934)** і др.

**3.** Апосталы **Пісьменства:** мовазнаўцы – заснавальнік нацыянальнага пісьменства Яўхім **Карскі (1861-1931)**, аўтар рэвалюцыйнай (у прэсе яна названа "***контррэвалюцыйнай***") "***Практычнай граматыкі***" Язэп **Лёсік /1883-1940/**, аўтары слоўнікаў Мікалай **Байкоў /1889-1945/** і Сьцяпан **Некрашэвіч /1883-1937/**, аўтар нацыянальнай граматыкі Браніслаў **Тарашкевіч (1892-1938)** і др.

**4.** Апосталы **Гістарычнасьці:** заснавальнік нацыянальнай гістарыяграфіі М.**Доўнар-Запольскі (1867-1934)**; самабытны гісторык, "*Герадот Айчыны*" Мікола **Ермаловіч (1921-2000)**; дасьледчыкі нацыі Мікола **Ўлашчык (1806-86),** грамацкі і палітычны дзеяч Ўсевалад **Ігнатоўскі (1881-1931)**, пісьменьнікі Алесь **Петрашкевіч (н.1930) і** Вольга **Іпатава (н.1945)**; дзеяч культуры Мікола **Несьцярэўскі (н.1931)** – аўтар 84 плакетак з выявамі князёў **ВКЛ** і дзеячаў

Адраджэньня; старшыня **Саюза** беларускіх пісьменьнікаў Алесь **Пашкевіч (1972)** і др.

**5** Апосталы **Галоснасьці:** рэдактары перыядычных выданьняў Ежы **Гедройц (1906-2000**, часопіс "*Культура*"), Іосіф **Сярэдзіч (1949**, газета "*Народная Воля*"), Ал-дар **Уласаў** (**1894-1941**, газ. "Наша Ніва" **1906-14**) і др.

**6.** Апосталы **Навуковасьці:** дасьледчык Чылі філамат Ігнат **Дамейка (1802-89)**, наш Прамятэй гуманіст Барыс **Кіт (1910)**, акадэмікі Гаўрыла **(1900-88)** і Радзім **(1928) Гарэцкія,** паэт і краязнавец Васіль **Супрун (**н.**1926)** і др.

**7.** Апосталы **Рэфармацыі:** дзяржаўны дзеяч ВКЛ Мікалай **Радзівіл**-Чорны **(1515-65)**, правазнавец Андрэй **Волан (1530-1610),** асьветнік Сымон **Будны (1530-93),** вучоны і дзяржаўны дзеяч Генадзь **Карпенка (1949-99)** і др.

**8.** Апосталы **Рэалізму**: грамацка-культурныя дзеячы – старшыня асьв. клуба "*Спадчына*" Анатоль **Белы (1939)**, **жывапісец** Аляксей **Марачкін (1940)**, пісьменьнікі **Ул**-мер **Арлоў (1953) і** Васіль **Якавенка (1936),** тэатральны дзеяч Уладзіслаў **Галубок (1882-1937), журналісты** Ігар **Гермянчук (1961-2002),** Васіль **Гроднікаў (1938-2005)** і др.

**9.** Апосталы **Сумленьня:** дэпутаты сойма **1773 Тадэвуш Рэйтан (1742-80) і** ВС РБ 13-га склік-ння Анатоль **Лябедзька (**н.**1961),** экс-канд. у прэзідэнты Ал-дар **Казулін (1955)** і др.

**10.** Апосталы **Сьвядомасьці:** правадыр адраджэнскага руху Максім **Гарэцкі (1893-1938)**, акадэмік Ал-дар **Вайтовіч (1938)**, грамацкі дзеяч Аляксей **Каўка (1937)** і др.

**11.** Апосталы **Патрыятычнасьці:** нацыянальныя героі Тадэвуш **Касьцюшка (1746-1817),** Якуб **Ясінскі (1761-94)** і Міхал **Валовіч (1805-33)**; грамацкія дзеячы Аляк-дар **Бурбіс (1885-1922)**, Радаслаў **Астроўскі (1887-1976)**, Язэп **Варонка (1891-1952)**, Ларыса **Геніюш (1910-83)**, Пётр **Крачэўскі (1879-1928)**, Янка **Серада (1879-1943?)**, Янка **Філістовіч (1926-53)** і др.

**12.** Апосталы **Праўдзівасьці:** грамацкія дзеячы ў эміграцыі гісторыкі Янка **Запруднік (1926)**, Вітаўт **Кіпель (1927)** і літаратуразнавец Зора **Кіпель (1927-2003)**, дасьледчык гісторыі нацыі Юры **Туронак (1929)** і др.

**13.** Апосталы **Наватарства:** аўтар 1-га слоўніка беларускай мовы Іван **Насовіч** **(1788-1877)**, ініцыятар дзяржаўных перамен на ніве мовы Ян **Станкевіч** **(1891-1976)**, палітычны дзеяч Ал-дар **Цьвікевіч** **(1883-1937)** і др.

**14.** Апосталы **Мужнасьці:** адзін зь кір.паўстаньня **1794** **Тадэвуш Корсак** **(1741-94)**, змагар за незалежнасьць Беларусі Расьціслаў **Лапіцкі** **(1928-50)**, арганізатар Майдана **2006** ў Менску Вячаслаў **Сіўчык** **(1962)**, лідэр **БХД** Павал **Севярынец** **(1976)**, піянеры найноўшага Адраджэньня Міхась **Ткачоў** **(1942-92)** і Юры **Хадыка** **(1938)**, старш. ЦВК Віктар **Ганчар** **(1957-99)**, **рыцар** дэмакратыі Валеры **Шчукін** **(1942)** і др.

**15.** Апосталы **Веравызнаньня:** патрыёты Айчыны, рэлігійныя дзеячы Адам **Станкевіч** **(1892-1949)**, Вінцук **Гадлеўскі** **(1888-1942)**, Вінцук **Адважны** (Язэп Германовіч **1890-1978**), **Уладзіслаў Завальнюк** **(1958)**, Аляксандар **Надсан** **(1926)**, Барыс **Данілюк** **(1923)**, Балеслаў **Слосканс** **(1893-1981)** і тысяча іншых змагароў, у якіх – адна мэта**: адрадзіць Дух нацыі**, **захаваць і памножыць традыцыі спадчыны**, **вярнуць родную мову ў сферу адукацыі**.

Дзейсную дапамогу мне аказалі творы Ўл-ра Арлова, Наталкі Бабінай, Максіма Багдановіча, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Марыі Ганько, Ніла Гілевіча, Анатоля Грыцкевіча, Міколы Ермаловіча, Янкі Запрудніка, Вольгі Іпатавай, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ул-ра Караткевіча, Пятра Краўчанкі, Ігара Кузьняцова, Леаніда Лыча, Вацлава Ластоўскага, Адама Мальдзіса, Ул-ра Някляева, Зянона Пазьняка, Алеся Пашкевіча, Алеся Петрашкевіча, Тацьцяны Працько, Пётра Садоўскага, Анатоля Сідарэвіча, Яна і Станіслава Станкевічаў, Ул-ра Содаля, Ал-дара Тамковіча, Валянціна Тараса, Анатоля Тараса, Алега Трусава, Юры Туронка, Паўла Урбана, Ал-дара Цвікевіча, Цёткі, Вітаўта Чаропкі, Язэпа Юхо, Васіля Якавенкі і іншых гісторыкаў, пісьменьнікаў і паэтаў. Вельмі ўдзячны я былому 1-му Сакратару амбасады Рэспупублікі Польшча магістру Мар’яну **Семаковічу,** што даслаў мне, як удзельніку конкурсу, кнігі па гісторыі Рэчы Паспалітай, у

т.л. “*Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа*”. Менавіта ўдзел у конкурсу пра супольную спадчыну народаў Рэчы Паспалітай спарадзіў мяне на стварэньне твораў на тэму гістарычнага адраджэньня нашай нацыі.

Выказваю падзяку **шэф/гал/**-рэдактарам газет ”*Народная Воля*” (Іосіфу **Сярэдзічу**), “*Товарищ*” (Сяргею **Вазьняку**), “*Наша Ніва*” (Андрэю **Дынько** і Андрэю **Скурко**), ”*Новы Час*” (Аляксею **Каралю** і Алене **Анісім**), ”*Наша СЛОВА*” (Ст. **Судніку**) і др., на старонках якіх былі зьмешчаны гістарычныя матэрыялы як, напрыклад, артыкулы Алеся **Петрашкевіча** “*Змрочландыя*”, Эдуарда **Тобіна** “*Дык адкуль жа наш род і як нас зваць*?” і Вадзіма **Растова** *“Гібель Літвы”,* ”*Успаміны Эдварда **Вайніловіча***” і др. А зборнік *“Летапісы і хронікі Беларусі”* Міколы Ўлашчыка і кніга Юры **Туронка** “*Мадэрная гісторыя Беларусі*” сталі для мяне настольнымі выданьнямі, адкуль я чэрпаю невядомыя мне факты зь гісторыі народа. Думкі знакамітых асоб розных часоў зьмянілі маё ўсьведамленьне пра гісторыю нашага краю. Увогуле мой погляд на наша быцьцё стаў больш сьвядомым і крытычным. Я стаў разглядаць яго з’явы з featureрознага пункту гледжаньня.

Узор іх думак я і скарыстаў для сваіх твораў у якасьці эпіграфаў і выслоўяў, прычым адразу двух ці трох выказваньняў, каб зьнітаваць лёсы гістарычнай справы адраджэньня Духу нацыі, падкрэсьліваючы гэтым самым значнасьць падзей і іх актуальнасьць, якія адбываліся як у часы заняпаду, так і ў часы абуджэньня сумленнасьці мас і ўсьведамленьня ёю нацыянальнай годнасьці. Напрыклад, бальшавізм у свой час цынічна праслаўляў савецкі стыль жыцьця песьняй “*Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек*”, у той час як у турмах і ГУЛАГ-ах за вальнадумства зьнішчаліся мільёны слаўных дзеячаў гэтай “*вольнай страны*”. Гэтую *“вольнасьць”* трэба яшчэ раскрываць.

Багатую палітру ўражаньняў я здабыў пры ўдзеле ў масавых сходах **Волі** і паходах па месцах помных на

“***Дзяды***” ў Курапаты і *“гістарычнай Славы”* ў Слуцку, Грозаве, Вызне, Семежаве і Старых Дарогах, дзе на сядзібе слыннага руплiўца па збору і захаваньню нашай спадчыны Анатоля Яўхімавіча **Белага** створаны адзiны ў нашай краiне па свайму зьместу і каштоўнасьцям сапраўдны **Пантэон** нацыянальнай культуры.

Дарэчы, у турыстычных картах гэты музей не пазначаны. А вельмі шкада. Бо гэты музей надта ўражвае. Ужо перад фасадам сядзібы разьмешчана цэлая галерэя велічных камянёў-помнікаў асьветніцкага клуба *“Спадчына“* /заснаваны ў **1984г**./, кожны зь якіх прысьвечаны гістарычнай тэматыцы. Тут мы бачым камень “***Змагарам за родную мову***”, на якім зьмешчаны 26 партрэтаў слынных дзеячаў з тлумачэньнямі іх прафесійнага крэда, пачынаючы з Фр. **Скарыны** і заканчваючы партрэтам мастака Яўгена **Ціхановіча,** якім ў знак павагі выбіты словы: ”*Наша Вам пашана і прызнаньне*!...”

Высяцца тут таксама камяні-помнікі**: ”*Героям Грунвальда*”; ”*Князям ВКЛ*”;** выдатнаму вучонаму *Міколе* ***Ўлашчыку***, які савецкай уладай за свае сьветапогляды быў тройчы **(1930-35**, **1941-42**, **1949-55)** рэпрэсіраваны; самабытнаму гісторыку *Міколе* ***Ермаловічу,*** які адкрыў сапраўдную гісторыю нашай Айчыны; паэтэсе і празаіку *Ларысе* ***Геніюш,*** якая за сваю дзейнасьць у эміграцыі (сакратар урада БНР) была ў 1949г. прыгаворана да 25 гадоў зьняволеньня, а вызвалена толькі ў 1956г; паэтам: *Натальлі* ***Арсеньневай,*** *Адаму і Максіму* ***Багдановічам;*** *Анатолю* ***Бярозку*** *(М.* ***Смаршчку);*** братам *Антону і Івану* ***Луцкевічам;*** шыльда Памяцi **Рада БНР**, якая была адкрыта 15.03. 2008 з нагоды 90 гадоў яе заснаваньня. Вянчае ансамбль памятны знак *“Героям Слуцкага Збройнага Чыну”*, як ўвасабленьне жыцьцёвасьці справы байцом, які з апошніх сіл спрабуе ўтрымаць крыж Еўфрасіньні Полацкай. Пад знакам надпіс:*“Тым, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына”.* Калі глядзіш на

гэтую выяву, то хочацца верыць, што жыве яшчэ ў народа імкненьне да свабоды.

Менавіта з нагоды адкрыцьця **24.11.2007г.** гэтага памятнага знака (аўтар: Анатоль **Белы)**, які выкананы ў плоскім стылю, мне пашчасьціла пазнаёміцца не толькі з гаспадаром гэтага Пантэона, але і займець мноства ўражаньняў, якія, я ўпэўнены ў гэтым апантаным памкненьні, будуць мною скарыстаны ў сваёй творчай працы. Я вельмі ўдзячны знаёмству са слыннымі дзеячамі нашай Бацькаўшчыны як Мікола **Несьцярэўскі,** Уладз-мір **Каравацкі**, Алесь **Цыркуноў,** Алесь **Пашкевіч,** Вячаслаў **Сіўчык** і др.

Вялікае ўражаньне робіць багацьце музейных экспанатаў, якіх налічваецца каля 5 тысяч экз. Усе яны разьмясьціліся ў 8 тэматычных залах чатырох 2-хпавярховых будынкаў. Тут ёсьць залы аб гісторыі нашай краіны ў карцінах: Язэпа **Драздовіча,** Генадзя **Гракса,** Яўгена **Куліка,** Арлена **Кашкурэвіча,** Алеся **Марка** (Марачкіна**),** Напалеона **Орды,** Міхаіла **Савіцкага,** Улад-ра **Стэльмашонка,** Леаніда **Шчамялёва,** Марка **Шагала,** дынастыі **Ціхановічаў:** Яўгена**,** Валянціна**,** Генрыха**,** Яна і іх сваяка Ўладзіслава **Галубка (**Голуба**)** і др**.**

Уражвае сваім гістарычным значэньнем карціна Алеся **Пушкіна** *"Студэнты Віленскага ўнівэрсітэта (30-я гады)":* Алесь **Барановіч,** Адам **Дасюкевіч**, Анатоль **Бярозка**, Хведар **Ільляшэвіч,** Чэслаў **Найдзюк,** Зоя **Каўшанка**, Барыс **Кіт,** Мар'ян **Пацюкевіч,** Васіль **Пляскач,** Станіслаў **Станкевіч,** Пётра **Сергіевіч,** Вітаўт **Тумаш,** Антон **Шукелойць,** Мікола **Шчорс.**

Лёс студэнтаў, як вядома, раскідваў па ўсяму сьвету: адных – у засьценкі АДПУ, дзе бяссьследна зьнікалі, а другіх (на карціне) – у эміграцыю, дзе праславілі нашу Бацькаўшчыну грамацкай справай і сваімі навуковымі адкрыцьцямі. Калі бачыш іх сьветлыя твары, акрылёныя надзеяй у лепшае жыцьцё суайчыньнікаў, то міжвольна ўзьнікае думка: а колькі палымяных жыцьцяў і колькі

каштоўных адкрыцьцяў загубілі бальшавікі ў часы свайго зьдзеклівага панаваньня?

Тут ёсьць зала *Міколы* ***Несьцярэўскага*** з партрэтамі выбітных гістарычных асоб у жывапісе і ў плакетках. Ёсць зала *Аляксея* ***Марачкіна*** *(Марка)*, дзе поруч з творамі жывапісі разьмешчана каля 600 медальёнаў слынных дзеячаў Айчыны, якія выкананы ў бронзе, пазалоце, шкле ці сілуміне (узважце: у Нацыянальным музеі іх 24) Тут ёсьць і зала нашых вядомых пісьменьнікаў, у т.л. каля 250 партрэтаў "***Нашаніўскага перыяду***" і др., што не можа аставіць наведвальніка быць раўнадушным да пакутнага лёсу нашай спадчыны і гісторыі краю.

Але мяне вельмі ўсхвалявала музейная знаходка, якая ўмацавала маю перакананасьць у тым, што сапраўдная назва нашай краіны – **Літванія**. У геаграфічным Атласе нямецкага картографа Герарда **Маркатара** (1512-95), выдадзеным Е. **Хондыусам** у 1595г у Дуйсбургу (Германія), складзена мапа нашай краіны з назвай "***Літуанія***". Трэба тут зазначыць, што Літванія (тэрыторыя чуць болей сучаснай Беларусі) ў канцы ХУ1 ст. згодна Люблінскай Уніі 1569 уваходзіла ў склад федэратыўнай дзяржавы **Рэчы Паспалітай,** як аб'яднаньне Каралеўства **Польшчы**, куды адносілася з гэтага часу і Украіна, і Вялікага княства **Літоўскага**, якое складалася зь **Літваніі** і **Жамойціі** (кн. Самагіція, сучасная назва – **Летува**), якая ўваходзіла ў склад ВКЛ у якасьці аўтаноміі.

Для мяне наведваньне музея стала важным момантам у маім жыцьці. Вось чаму я схіляю галаву перад апантанасьцю Анатоля Яўхімавіча **Белага.**

Усе гэтыя абставіны абагачаюць веды аб гісторыі нашай краіны, якую ўлада ўтойвае ад народа па сёньняшні дзень, фальсіфікуючы ці замоўчваючы факты, каб толькі народ не апрытомнеў і далей жыў у смузе маны і няславы. Але гэтаму бяспраўю, я веру, скора прыйдзе канец.

**Наступіць час і зажыве наш народ свабодна**, **вольна і шчасьліва!**

## СЬЦЯГ СВАБОДЫ

(Гімн штандару Свабоды)

На гулкай хвалі Адраджэньня
Зардзеўся Воляй наш абсяг!…
Ідзе па краю дух сцьвярджэньня –
**Пагоні** сьвятланосны сьцяг!

Рэфрэн: Няхай жыве народа сталы,
Магутны незгасальны дух!
На ніве мовы хай ўзрастае
Пад сьцягам **Волі** крэўны рух!

Хай сьцяг **Свабоды** нас абудзіць!
Хай рух прыносіць набыцьцё!
У збітай схваццы мы здабудзем
Краіны сьветлае жыцьцё!

Рэфрэн: Няхай жыве …

Дай розум нам, магутны Божа,
Каб праўны спарадзіць статут!…
Хай сьцяг **Свабоды** сілы множыць,
Каб Край пазбавіць ад пакут!

Рэфрэн: Няхай жыве …

На хвалі прыступа нязгоды
Штандарам высьвяцім прастор!…
Хай нас узвысіць сьцяг **Свабоды**,
Каб даць бяспраўнасьці адпор!

Рэфрэн: Няхай жыве народа сталы,
Магутны незгасальны дух!
На ніве мовы хай ўзрастае
Пад сьцягам **Волі** крэўны рух!

2006

# ЖЫВЕ, МОЙ КРАЙ !

або: **Мера сьвядомасьці –“*барометр сьцягу*”**

Верш складзены па матывам эсэ **Зянона Пазьняка** *“Рэч Публіка”*[1] зь кнігі “*Сапраўднае абліччa*”, выдадзенай у 1990г., і прысьвячаецца **Дню Незалежнасьці**, які адзначаецца **25 сакавіка –** дзень аб’яўленьня кріны **Рэспублікай** у **1918**г.

> *“... як ня можа суіснаваць сьвятло і цемра, так і Рэспубліка ня можа быць напалавіну. Таму–* ***жыве Рэспубліка!****”*
> **Зянон Пазьняк**

Калі пад сонцам горда рэе
Пагоні сьвятланосны сьцяг,
Сьвятло сумленьня сэрца грэе –
Жыве сьвядомасьці абсяг!

Калі ж лунаюць сьцягі побач
Пагоні й другасных дактрын,
То сэрца цісьне духу роспач:
Грызе сьвядомасьць цемры грым.

Сьвятло не можа з цемрай разам
Суіснаваць як стан быцьця:
***”Барометр сьцягу”***– знак выразны
Сьвядомай рацыі жыцьця!

Але ж не страчана прытомнасьць,
Хоць і ў дрымоце публіка!
Дый верыць хочацца, вядома:
Жыве, мой край – Рэспубліка!

Дык хай ліцьвінскі сьцяг Пагоні
Сьвятлом падзей асьвеціць кут!
Хай зьдзейсьніць мэту: каб да скону
Народ не страчваў продкаў культ!

2007

---

**1. Рэч Публіка –** чытай камэнтарыі на стар. 6.

# ВЕСЬНІК НЕБА

Паэма прысьвячаецца духоўнай дзейнасьці **Францыска Скарыны –** вучонага-гуманіста, буравесьніка **Адраджэньня,** апостала **Асьветніцтва** і **Друку** (1490-1555). Яго імем названа **Таварыства** беларускай мовы /старшыня: Алег **Трусаў,** першым кіраўніком быў абраны Народны паэт Ніл **Гілевіч**/.

*"Чалавек жыве не толькі хлебам,*
*але найбольш словам".*
**Францыск Скарына**

*"Энтузіаст, спраў кніжных валадар,*
*Наш продак быў асьветнікам з прызваньня.*
*Бы дзьверы ў храм навук, першадрукар*
*Раскрыў мастацтва кнігадрукаваньня.*
*Яго натхніў стваральны рэнесанс:*
*Металам узмацніць "аз-букі-ведзі".*
*За межы пакаціўся рэзананс –*
*Мы ганарымся: б'юць чалом суседзі"*
**Алесь Яжэвіч**

*"Я... з трапятаньнем адчуваю дыханьне майго прашчура, зьменлівае і вечнае слова яго"*
**Уладзімер Караткевіч**

Люд *"жыве не толькі хлебам"*.
Словам ён жыве найбольш.
Слова – слушны весьнік неба,
Слова – ёсць Асьветы соль…

* * *

Змрочны час Сярэднявечча:
Цемра, гнёт – душа баліць.
Клерыкалаў плынь спрадвечна
Прала цемрашальства ніць.

Подых ветру Рэнесанса
Успрыняў душой **Францыск:**
Дух імпэтны дысанансам
Падрываў устояў ціск.

Па узору **Магелана**[1]
Ён да ведаў сьцежку клаў.
Шлях да іх – шыпамі ўсланы:
Лёс яму такі спаслаў.

Зорка Кракава **Францыску**
Стала вешкай у жыцьці.
Тут надзеў ён ведаў мыцку[2],
Сьцежкай зорнай каб ісьці.

За пагодай часу сьледам
Не адзін ішоў ён год ,
Каб набыць істотных ведаў
І надаць ім слаўны ход.

* * *

Скора Прага храмам стала:
Тут знайшоў ён свой прастол .
Для душы пара настала –
Майстраваць пісьменства стол.

Весьці стаў ён слова ў слова
Збор біблейскі пераклад
І... жывой народнай мовай
Продкаў распавёў абрад.

З году ў год *“аз-букі-ведзі”*
Пашыралі гарызонт:
Прынасілі людзям веды –
Далі думкам горды ўзьлёт.

Так яго пуціна-сьцежка
Стала люду – бальшаком.
Маяком – паўстала вешка
Тых… раскованых… вякоў.

---

**1. Магелан –** партугальскі мараплавец, экспедыцыя якога ў 1519-21 ажыцьцявіла першае кругасьветнае плаваньне, даказаўшы шарападобнасьць Зямлі: пралілося сьвятло на цемнату.
**2. Мыцка** –галоўны ўбор студэнтаў Ягелонскага ўнівэрсітэта.

Бліскавіцай неба весьнік
Разрываў памрокі грань.
І... ўзьнялася плыньню весьні
«***Залатога веку***» рань!

* * *

І... пралогам Адраджэньня
Стаў **Скарыны** зорны шлях.
Слова з выспы узвышэньня
Надало пісьменству ўзмах.

Мова спадчыны – люстэрка
Плённых навыкаў жыцьця,
Дзе вячыстай славы мерка
Служыць нормаю быцьця…

Разам з тым зло не драмала,
Супыняла плённы рух:
Душу мучыў гнеў нямала –
Меркнуў мовы роднай дух.

І не раз у час трагічны
Сэрца ціснуў прыкры боль…
Ды змагарскі дух стаічна
Зьберагаў Асьветы соль.

Роднай мовы Таварыства
Ладзіць рэй у чэсьць тварца –
Думкі вобразнай магістра –
Ў сьвет раскуты мудраца!

* * *

Люд *“жыве не толькі хлебам”* –
Словам ён жыве найбольш.
Слова – слушны весьнік неба,
Слова – ёсць Асьветы соль.

2007

# ПОШАСЬЦІ БЫЦЬЦЯ

Верш пра напасьці *“загнанага”* беларускага народа, якія ён зьведвае вось ужо болей 2-х стагодзьдзяў.

“*О, веру, веру, што загнаны*
*Мяне ня здрадзіць мой народ.*
*Але ён цёмны й акаваны*
*І бедны думак яго ўзьлёт*”.

**Янка Купала**

“*...раб заўсёды хваліць ты-*
*рана і моцную дзяржаву*”.

**Генадзь Сагановіч**

”*І далей па пясчаных абшарах*
*Пойдзе скуты народ пад ярмом,*
*Пакуль гнеў зноў зьбярэцца у хмару*
*І ня ўдарыць з маланкаю гром*”.

**Максім Танк**

Бурлівы час раскрыў кон-лёс
“***Загнанага***” народа.
Аднак ён **Долю** не узьнёс
На пастамент **Свабоды**...

Калі на золаку жыцьця
Народ жыў шчырай праўдай,
То сёньня – пошасьці быцьця:
Падман, мітрэнга[1], здрада.

Вядома ж, здрада і мана
Дарогай крочаць поруч,
Бо мэта ў пошасьці – адна:
Здабыць чым болей спору.

---

**1. Мітрэнга** – трывога, неспакой, адчуваньне страху перад абставінамі жыцьця. Сягоньня страхам апанаваны не толькі просты народ, але і ўся ўладная раць. Страх у краіне набыў нацыянальны характар. Кожны сумленны чалавек баіцца страціць працу, а ўладар – сваё права быць дыктатарам.

Мітрэнгу ў сэрцах сее страх,
Што ўлада гоніць прагна:
Сумленьне зводзіцца у прах,
Адказнасьці – ні грана.

Грызе душу паразы ржа
Без сораму, без жалю:
Сьвядомасьць гасіцца сьпярша,
Затым… чало з'язджае.*

Бо ў цемры зручна правадзіць
Жыцьця эксьперыменты:
Пакору ў сэрцах парадзіць,
Каб зьніклі апаненты.

А там... прастора для маны –
Злой пошасьці нягода,
Каб дзейсна ў пастку кабалы
Загнаць душу народа.

Пакуль не можа наш народ
Паправіць лёс заганны:
Нямоглы *"думак яго ўзьлёт"* –
Мітрэнгай дух скаваны.

Але ж напасьці золь-туман
Расьсее час урочны.
Тады й раскрыецца падман
Жыцьця парою змрочнай.

Зьвядзе сьвет волі тлен смугі
І вернецца прытомнасьць.
Народ зноў стане на кругі
Свайго жыцьця сьвядома.

Чэрвень 2007.

---

**Заўвага!: Зноскі*** чытай ў **Камэнтарыях** да адпаведнай старонкі са стар.119.

# ПАРАДА ЯСЬКІ *

Верш прысьвячаецца змагару за адраджэньне **Духу нацыі**, апосталу **Свабоды** Кастусю **Каліноўскаму**, кіраўніку нацыянальна-вызваленчага **Паўстаньня 1863-64**, якому **2 лютага** адзначаецца гадавіна да дня нараджэньня /1838-64/

*"Паўстаў край жывой грамадою*
*І ідзе з **Каліноўскім** ўпярод.*
*Народ нараджае герояў –*
*Героі ўзраждаюць народ!"*
**Мікола Ермаловіч**

*"Бывай здаровы, мужыцкі Народзе!*
*Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе,*
*І часам спамяні пра Яську свайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго."*
(Зь верша **К. Каліноўскага**)[1]

*". . . . .                А будзе ж, будзе*
*Той дзень, калі пачуюць трубы людзі,*
*І помсты львы ў напад памчацца рыкам,*
*Калі пасьля пакут свабоду крыкам*
*Сустрэнуць паднявольныя народы,*
*І нашых слаўных сокалаў чароды*
*Уздымуцца . . . Іх было даволі*
*Тых песьняроў, там па лясах і ў полі,*
*Хоць і не ўзьведзеных на Капітолій."*
(З паэмы **А.Міцкевіча** *"**Пан Тадэвуш**"*)

На абшарах моўнай гоні
Яська вёў жыцьця працяг:
Услаўляў штандар **Пагоні** –
**Волі** неўміручай сьцяг.

За пагодай часу пільна
Ён асочваў руса такт
І за долі лёс няўхільна
Правадзіў змаганьня акт.

---

**1.** Верш быў напісаны ў турме і вынесены на свабоду яго нарачонай Марыяй **Ямант**, якая потым была пазбаўлена волі.

Ды не доўга Яська славіў
Трапяткое веры рай…
Скора непагадзі хвалі
Змылі з мапы родны край...

З выспы вісельні шчымліва
Яська вобразна маўляў:
*”Зажывём тады шчасьліва,*
*Як не будзе маскаля!”…*

Дый не ўцяміў сьмерд парады,
Што Ясь зь вісельні даваў:
Па-ранейшаму дух здрадны
Веру ў шчасьце падрываў.

Люд не можа звычку сьцерці –
Вужам слацца прад царом:
Толькі б не наклікаць сьмерці
Й не назвацца бунтаром.

Не спазнаў ён й лёс заганны –
Сьвятасьць як чужак глуміў,
Як чырвонай плямай слана
Пядзя кожная зямлі.

Зло нявечыць люд зьнямелы –
Толькі б пагасіць агмень,
Толькі б дух стаў амярцьвелым
Й прасьціралася глухмень…

* * *

Не ўзышло **Свабоды Сонца** –
Толькі бачны промня сьцень:
Хмарыць непагадзь бясконца –
Скрыла цьма сьвятла прамень.

15 студзеня 2008

## СКАЖЫ, МОЙ БРАЦЕ?

*“Прыйдуць людзі з Усходу,*
*Прыйдуць з Захаду людзі*
*І спытаюцца нас:*
*– Скуль, якога вы роду?*
*Дзе айчызна у вас?”*
**Янка Купала**

*“Зямля мая, маці мая, няўжо*
*Мы лёс такі заслужылі,*
*Што будзем думаць на мове чужой*
*І песьні сьпяваць чужыя”…*
**Васіль Зуёнак**

*“Беларусам не нараджаюцца, ім –*
*становяцца”. **
**Аляксей Каўка**.

*“Над скатаванай маёй Радзімай*
*Штандар Свабоды ўзьнімі, вясна!”*
**Канстанцыя Буйло**

Скажы, мой браце: “Кім радзіўся?”
Скажы: “Адкуль ідзе твой род?”
Во, бачу – ты не разгубіўся,
Адказ пачуўшы:
*– Скуль народ?*

*Дык мы ж, вядома, – беларусы.*
*Нас называюць так здаўна.*
*А як здаўна? Знаць – не бяруся,*
*Бо ў нас й паданьняў-то – няма.*

І праўда: негадзь ходзіць блізка –
Здаўна няласкавы к нам лёс,
Чало што змусіў хіліць нізка,
Што сьвятасьць продкаў не узьнёс.

Няма паданьняў? – Погань скрала,
Здала і мову у архіў,

І доўга-доўга люд карала,
Каб Край найменьне не насіў.

Люд пад цяжа̀рам гнёту сьцішна
Пакутліва марнуе час.
І боль яго, між тым, – няўцешны:
Душу́ гняце насільля прас.

Калі ў яго аналы глянеш,
Заўважыць цуд даўно пара:
Зямельку родную запляміў
Крывёй нявіннаю сатрап.

І на абшарах моўнай нівы
Разьвіўся говара субстрат.
А д’ябал цешыцца: цярплівы
Душой пакорлівай наш брат…

Няма ў нас годнасьці пачцівай –
Цярпелі доўга мы!…Й цярпім!
І гонар страчваем паціху.
Дык зь кім жа шчасьце строіць?
Зь кім!?

Калісь ***ліцьвінамі*** нас звалі.
*“Тутэйшым”*– нас празваў “русін”.*
Вой, *“беларусам”* мы ўжо сталі.
А ў хуткім часе?…
Будзем кім?

* * *

Скажы, мой браце: “Кім радзіўся?
І скуль ідзе твой крэўны род?…
А можа ты … ўжо прабудзіўся?
І знаеш: дзе да шчасьця брод?”

12 студзеня 2008

# ЗАЛОЖНІКІ СУМЛЕНЬНЯ

Верш прысьвячаецца членам выбарчых камісій ад улады, якія, пад страхам стацца непажаданым, здрадліва прадаюць сумленьне.

*"Смуга-імгла навісла над табой*
*І п'еш ты зноў пакуты чашу..."*

**Якуб Колас**.

*"Прасякліся зь дзяцінства*
*Чужым, дурным, атрутным –*
*І хочам мець ядзінства*
*У гэтым часе скрутным".*

**Ніл Гілевіч**.

Адказны час быў у пары:
Абраць валадара улады…
Сядзяць пакорліва чыны
Дзяржаўнае спагады.

Яны маўкліва, без тугі
Спраўляюць доўг сабачы
І хоць бы цень "*імглы-смугі*"
На тварах іх убачыць.

Што тут маны ідзе падлік[1]
Бяз важкіх слоў электарата,
Што скарыстаны рухавік
Дзяржаўнага фармата.

Тут кожны зь іх свой гонар здаў
Дзялкам праўладнага праўленьня
І як саўдзельнік змовы стаў –
Заложнікам сумленьня.

* * *

Слузе няўцям – над ім лёс кпіць,
Што здрадай ён народ паганіць.
А можа ў ім сумленьне… спіць?
Тады: нашто Край пляміць?

2 студзеня 2008

1. **Маны падлік** – Зноску чытай на наступнай старонцы.

# ДУХ СВАБОДЫ !

Верш прысьвячаецца экс-кандыдату ў прэзідэнты на выбарах **2006**[1], вязьню **Свабоды**, апосталу **Сумленьня Александару Ўладзіслававічу Казуліну**, якому **25 лістапада** адзначаецца гадавіна да дня нараджэньня (нар.1955, г.Менск). Быў арыштаваны 25.03.2006, а вызвалены 16.08 2008.

*"Дух праўды, веры і любві*
*Расьце ў Вас цягам дзён, начэй.*
*А ў некім страх расьце ў крыві –*
*Ды і нашмат хутчэй, шпарчэй.*

*Вам у душу зірне вясна –*
*І павядзе ў бязьмеж-прастор.*
*А нехта вылецiць з акна –*
*Як калісь містэр Фарэстол".*

**Ніл Гілевіч**

Калі абраньня час настаў,
Свабоды дух злу не скарыўся
І супроць **пошасьці** паўстаў –
Не мог з брыдой зьмірыцца.

Ён страх сумленьнем пабароў
І на прастор **Свабоды** выйшаў,
Павёў з сабой сваіх сяброў –
Спыніў дзялка ігрышча.

З прычыны прыкрасьці сьвятой
Задаў турботы ён сатрапу…
Дык загадаў са страху той
Загнаць яго за краты.

Не мог правіцель даравацъ
Яму за тэст: "*Дзе грошы, Сашка?*"
І… ў гневе волю даў правам
Зьляб царсцьвеннай замашкай...

---

**1** Тлумачэньні аб правядзеньні прэзідэнцкіх выбараў 2006 чытай у **Камэнтарыях** на стар 120 /зноска для старонкі-26/

О, дух **Свабоды** – сьвет душы!
Ты на прастор шырокі клічаш:
Табе прызначана вяршыць
Жыцьцё плебея ваяўніча!

* * *

Цярпеньня хопіць да пары:
Наступіць час бяды збаўленьня!
І ухвалююць Вас сябры
Апосталам **Сумленьня!**

2 студзеня 2008

## КУПАЛАЎСКІ ЗАКЛІК

(Трыялет)

*“На сход! На ўсенародны грозны,*
*бурны сход*
*Ідзі, аграблены, закованы народ!”*
*“Час склікаці ўжо грамàду*
*На вялікую нараду,*
*На вялікі сход!*
*Хай рассудзіць, хай разважа,*
*Слова цвёрдае хай скажа,*
*Скажа сам народ!”*
(З твораў **Янкі Купалы,**1918 г)

**Купалаўскі заклік –** матыў вызначальны –
Заве адраджэнцаў на праведны сход.
Хай кліч б’е ў набат!…І абудзіць народ
**Купалаўскі заклік –** матыў вызначальны!

Каб спадчыны лёс зьберагчы ад нягод,
То зьдзейсьніць патрэбна
**Звод правіл маральны:**
**Купалаўскі заклік –** матыў вызначальны –
**Зьбярэ адраджэнцаў на праведны сход!**

4 кастрычніка 2006

# СВАБОДА Ў ПАГОДЗЕ ЧАСУ

Паэма пра гістарычны лёс Бацькаўшчыны прысьвячаецца памяці ахвяр змаганьня за **нацыянальную самасьвядомасьць і адраджэньне Духу нацыі.**

“*Вобразы мілыя роднага краю,*
*Смутак і радасьць мая!*
*Што маё сэрца да вас парывае?*
*Чым так прыкованы я?*”

**Якуб Колас**

*“Краю мой родны! Як выкляты богам–*
*Сколькі ты знаеш нядолі.”*

**Максім Багдановіч**

*“Напачатку была **Свабода**,*
*і **Свабода** была ў руках народа…*
*Памяць аб страчанай намі свабодзе*
*сьвеціць нам у паняволеньні нашым,*
*і няволя не пагасіла ў нас жаданьне*
*свабоды.”* **Вацлаў Ластоўскі**

(“**Патрыятычны малітвеньнік**”)

## 1. Край Пагоні*
## (пралог)

Дзе фанатызм з муроў сягае,
Смуга там сьцелецца маны:
Народ жыцьця сэнс спасьцігае
У шалых зданях кабалы…

І там, дзе нёсься конь **Пагоні**
Шляхамі продкаў па зямлі,
Абраў свой Край народ ягоны
На гонях моўнае ральлі.

Дый **Паспалітай Рэч *–** Дзяржава! –
Расьціць спрыяла Краю род
І постаць к дзеям пабуджала –
Да справы ставіўся народ!

Жылі стагодзьдзямі мы разам.
І мэта ў нас была – адна:
Каб душы не губіць паразай,
Нас подых лучнасьці яднаў.

Ён…нейкі час…быў жыватворны
І **Узвышэньня** – ладзіў рост…
Але стаў разам… дух – пакорны:
Імперскі гнеў дурэў з пагроз.

Падзел, што зьдзейсьнены па-руску,
На два шляхі лёс спарадзіў:
Адзін – узгоднены Пілсудзкім,*
Другі – зьняслаўлены… зусім.

Людзей нямала загубіла
Стыхія молата й сярпа.
Жыцьцё й адступнікам – няміла:
Дурманам здрадным Край прапах.

Не ўсе збыліся мары поўна,
Што ў друку асьвятляў **Гедройц**.*
Але ж яго імідж супольны
Патрэбны нараджаў настрой…

Народаў лёс, чый скарб прызнаны,
Прыняты дружна у сусьвет.
А лёс, што здрадай крыжаваны,
Дастаўся нам… бы запавет.

Чаму так дзеецца на сьвеце,
Што лёс нас здрадай аблажыў?
Напэўна, па жыцьця прыметам,
Нам Юда службу саслужыў.

---

* Тлумачэньні пад гэтай зноскай чытай у **Камэнтарыях** са старонкі 121 па тэксту для адпаведнай старонкі.

Адказ ты знойдзеш, суайчыньнік,
У розных постацях бяды:
Злы дух паразы дзёрзка чыніць,
Каб зьнішчыць памяці сьляды.

Але не ў сілах злобнай зграі
Стрымаць **Пагоні** бег каня:
Яго палёт над родным Краем –
Сьвяты! Зь ім годзіцца зямля!

## 2. Ранак Свабоды

Мой Край, напоены пакутай, –
Твой непамерна сумны лёс.
О, колькі ты сыноў славутых
Да неўміручасьці узьнёс!

Не раз на прыступах нязгоды
Яны змыкаліся ў рады
І панміралі **за Свабоду**,
За долю вольнай грамады…

Гадоў сот дзесяць, можа болей,
На любай продкамі зямлі
Ліцьвіны… ветлыя – на волі
Спаважны лад жыцьця вялі.

Яшчэ **Рагнеда*** й **Прадаслава***
**Свабоду** ў звычай узьвялі.
**Кірыла Тураўскі** * – на славу
Яе ў малітвах усхваліў.

І ўжо **Міндоўг**-князь* на заранку
Старонкі дзейснага жыцьця
Вёў страсны рэй бесперастанку,
Каб Край узьняўся з небыцьця.

І каб трывала мець бясьпеку,
Дух "*рады*" землі аб'ядноаў*–

Парады слушныя давеку
Народ на вопыце спазнаў.

Таму, што мы "шчыруем" сёньня,
Удзячнасьць наша вінна быць
Сьвятыні спадчыннай – **Пагоні,**
Што мусіў **Віцень*** залажыць.

І князь **Альгерд** спагадай брата*
Цяжар улады спраўна нёс!
Ён веліч княства не без страты
На выспу памяці занёс.

А гордасьцю маёй Айчыны
Стаў вобраз **Віта**-ўладара,*
Што апісаў належным чынам
**Гусоўскі*** ў "*Песьні пра зубра.*"

І ў час пагроз на Край прывольны
Ад незлічоных чорных сіл
Адметна баранілі вольнасьць
**Астрожскі**, **Кішка, Радзівіл…***

## 3. На высьпе Свабоды

У нетрах сфер Сярэднявечча
Царыў прыгоньніцтва палон:
Плынь клерыкальная спрадвечна
Душыла творчай працы плён.

Ды подых ветру **Рэнесанса**
Дух прасьвятленьня спарадзіў.
Яго шэдэўры рэзанансам
Узорам сталі творчых ніў.

Сьвятлом душы сьвет Адраджэньня
**Гусоўскі** слушна азараў.
А дух **Скарыны** – абвяржэньнем
Устояў клерыкальных стаў.

Друкарні ў Лоску і ў Нясвіжы
Асьветнік **Будны*** заснаваў.
І…рос паток выданьняў кніжных,
Бо дух **Свабоды** панаваў.

**Васіль*** – іх сябар той часіны –
Праграмы ведаў выдаваў.
Каб скалануць устой руціны,
Ён выспу мовы мацаваў.

Філосаф-рэфарматар **Волан***
Сістэму думак абвясьціў:
У працах пра свабоду **Волі**
Правы на вольнасьць асьвяціў.

Статуты княства* ў век **Скарыны** –
Праваднікa асьветных спраў –
Былі прыступкамі к вяршыні
Народа вольнасьці і праў.

І у сьвятле інфлянцкіх дзеяў[1]
Паміж Масковіяй й Літвой
Узьняўся Рэччу Край…з надзеяй,
Што меней будзе страт ад войн.

Але раздор Расіі з Рэччу*
(Гадоў чатырыста назад)
Паклаў няволі крыж, дарэчы,
На жыватворнай нівы лад.

З тае пары да дзён сёлетніх
Улады цемрашальства культ
Нястомна “славіць” гонар сьвецкі:
О, колькі тут слыве пакут!…

---

**1.** Вынікі Інфлянцкай вайны 1558-70 паміж ВКЛ і Масковіяй за Інфлянты (Задзьвіньскае герцагства) прымусілі ВКЛ ісьці на больш цеснае аб’яднаньне з Рэччу Паспалітай. Яно ўвасобілася ў заключэньні Люблінскай уніі 1569, згодна якой землі Украіны поўнасьцю адыходзілі пад уладу Польскай Кароны.

## 4.Свабода пад імпэрскім абцасам

Грамацкі муж – настаўнік школы,
Якім быў **Полацкі Сымон,***
У Адраджэньні стаў адколам:
Няслушны быў яму палон.

Дый мецэнацтва дух, што славіў
**Алелькаў** род і **Радзівіл,***
Не мог як трэ душу направіць
На дзейнасьць, каб сусьвет зьдзівіць.

Князь **Панятоўскі,*–** змоў аматар,–
Народу вольнасьць даць хацеў.
Але дух здрадніцкі магнатаў
Пазбавіў сілы – сойм зьнямеў.*

Туман паразы зноў з Усходу
Душы прастору ахінаў
І не даваў ён думкам ходу,
Каб факел **Волі** не палаў.

Прыйшоў стан дзейнасьці дзяржавы
У заняпад… на доўгі час:
Знаць **Волю** люта асуджалі –
Імперскі прыціскаў абцас.

За сьмеласьць звацъ сябе ліцьвінам
Жыцьцём плаціўся крэўны род,
Бо цемрашалам уласьціва
Трымаць у цемрадзі народ…

Ваяр **Касьцюшка*** боем жорсткім
Акоў няволі – не парваў
І… палкім клічам **Каліноўскі***
Дух рабскай долі – не ўзарваў.

Народны гнеў, што ўзьвіўся птушкай
І воляй **Плятэр *–** збройным стаў,

Расьсеяны імперскай пушкай:
Час **незалежны** – не настаў.

І меч змаганьня згодай чыннай
Міхал **Валовіч*** паднімаў.
Яго памкненьні без спачыну
Фатальны лёс – не успрыняў…

***“Свабода! Роўнасьць! і Братэрства!”–***
Такі быў лозунг змагароў:
Не меў брат ратнага майстэрства –
Лілася касінера[1] кроў.

Імкненьні іх жылі не дарма –
Не засталіся ў забыцьці.
Яны ўваскрэсьлі сьветлай марай
Сяброў **Свабоды** у жыцьці.

Свой зорны лёс ў часы нягоды
Яны паклалі на алтар,
Каб азарыць сьвятлом **Свабоды**
Старонкі родавы абшар.

## 5. Хвалі абуджэньня

Але не згасьлі сілы **Волі** –
Іх дух **Свабоды** абуджаў.
Да мэты брат ішоў паволі –
Занадта вузкі шлях ляжаў.

**Міцкевіч**, **Ходзька, Зан, Дамейка… –**
**Сяброў навукі*** важакі –
Край абуджалі…чынам нейкім.
Затым… пасад іх – лежакі.

Дый абуджэньню чуць спрыяла
Плынь рамантызму творчых ніў.
Палёт душы яна зьдзяйсьняла,
Каб дух няволі не таміў

---

**1. Касінер –** паўстанец, які быў узброены касой у выглядзе пікі.

**Баршчэўскі**, **Дунін-Марцінкевіч,**
**Манюшка**, **Орда, Зан, Чачот,**
**Ванькові́ч**, **Дамель, Петрашкевіч…**
Далі “***герою часу***” ўзьлёт.*

На новай хвалі Адраджэньня
Прарокам* лёсу клаўся ў твор, –
Для праўды-маткі ўвасабленьня, –
Радзіннай мовы шыр-прастор.

І вось на сьцятых вытам гонях
У асяродзьдзі моладзі
Пачуўся ўрэшце гучны “***Гоман***”*:
Час змрочны – слушна спарадзіў.

Пачын яго ўзьняла суполка*
***“Загляне сонца…”***, каб акно
Ў шырокі сьвет заўсёды з толкам
Было з народам заадно.

І Адраджэньня крылы* ўзьнесьлі
На ніве мовы песьняры:
**Лучына**, **Цётка…** І ўваскрэсьлі
З глыбінь народных змагары.*

**Купала, Колас, Багдановіч,**
**Луцкевіч**, **Лёсік, Галубок,**
**Гарун**, **Гарэцкі…**сталі мовіць:
***“Пара навалы зьме́сьці змрок”***.

І загарэўся факел **Волі***
На схоне цемрадзі гадоў
У прадчуваньні лепшай долі.
Шкада, ён скора згас…ізноў.

На Край сышла нягоды замець:*
Сьвінцом пустошыла душу,
На вогнішчах – зьнішчала памяць,
Каб духу продка не адчуць.

Кругом таптали **Волі** сьвята!* –
Была жахлівая пара:
**Катынь, Цаглянка, Курапаты… –**
Магільны помнік змагара.*

Як на зыры, на строме ўзгоркаў
Стаяць пакут **званы-крыжы:**
Набатны кліч іх долі горкай:
***"Край не павінен згубна жыць!"***

## 6. Праблескі Свабоды

Ды не зламаўся дух народа! –
Не раздавіў насільля гнёт.
О, не пад сілу ўладзе зброда
Стрымаць высокіх дум палёт!

Яны натхнілі абаронцаў
Стварaць рэжыму Супраціў:
То "Чайкі" рух*, то ліст прамоўцы*
Рэжым нягодным абвясьціў.

І ў мроях мару аб **Свабодзе**
**Гедройц-**палітык* падмячаў.
Яго часопіс паўстагодзьдзя
Лёс Адраджэньня вызначаў.

І адрадзіўся рух народны*
Парывам волі змагароў.
Іх шлях да мэты стаў свабодны –
Ад радасьці **бурліла кроў***.

**Зянон Пазьняк,*** як лідэр руху,
Нямала творчых сіл прыклаў,
Каб знаў народ: якую скруху
Яму лёс здрадлівы наслаў.

***"Свабода! Вольнасьць! Адраджэньне!"–***
Такі узняўся "***Фронта***" сьцяг:

***“Спыніць народа вынішчэньне!”***
***“Краіну – ў сонечны прасьцяг!”***

Духоўным радцам Адраджэньня
Стаў **Быкаў*** – гарту волі сплаў:
Ягоны дух – сьвет **Узвышэньня**
Над смрадам выту, бруду, зла.

Гуртоўцы беларусаў сьвету*
Сустрэцца ў шчасны час змаглі,
Каб зьдзейсьніць продкаў нашых мэту:
***Не страціць спадчыну зямлі!***

І знак, што нам пакінуў **Клінтан***
На гонях рэпрэсіўных дзіў,
Усім жывым стаў напамінкам,
***Каб згубу Край – не паўтарыў.***

На **строме часу Адраджэньня**
**Гілевіч*** – роднай мовы гранд –
Даваў параду на сцьвярджэньне:
***“Сябе не дайце ўвесьці ў зман!”***

## 7. Дух Свабоды ў скрусе

У вырашальны час адкату*
Імперскіх сіл ад чорных спраў
Народ паверыў “дэмакрату”
І… ўладаром яго “абраў”.

Але не доўга цешыў душы
Сваёю клятвай гаспадар[1]:
Каб стаў народ яму паслушны,
Ён спарадзіў ***“данайскі дар”.***

---

1.**Гаспадар**: З мэтай займець падтрымку ў расіян для ўмацаваньня ўлады ў 1995г. па загаду ўладара быў праведзены рэферэндум, згодна якому руская мова атрымала статус дзяржаўнай. З таго часу родная мова з ужытку паступова стала сыходзіць. Нацыя губляе твар. Вось такі “***данайскі дар***” (па ўзору данайцаў траянцам) ад уладара атрымаў наш народ.

Народ прыняў яго “дарунак”
Абразай змоўнага ярма.
Цяпер… шукае паратунак,
Бо долі лепшае – няма.

Зь дзён даўніх мара беларуса*
Заняць “*пачэсны свой пасад*
*Народаў між*”… панікла ў скрусе –
Настаў духоўны заняпад.

Сьвядомасьць нацыі – ў загоне:
Падпаў пад зьдзек **Свабоды Сьцяг**.
І мова матчына – ў палоне:
“*Русізмам*” хутаны абсяг.

Прастору Краю ліхасьць хмарыць.
У стане суму “*вертыкаль*”.
Каго – ў нябыт, каго – на нары:
Сатрап у страху правіць баль.*

Таму ў заганны час змаганец
Шукае шчасьце – за мяжой.*
З’яднаны лёсам, там выгнанец
Шануе спадчыну... з душой!

Дый зорак сходы* ў брацкіх гонях
Жыцьцё змаганцам берагуць
І сімвал нацыі – **Пагоню –**
Адняць у Волі не даюць.

**Зянон Пазьняк – апостал Руху,**
Што змагароў з’яднаў у “***Фронт***”,
Быў змушаны пад завіруху
Здалёк свой пасылаць зварот.

І множаць спадчыну Айчыны*
**Запруднік**, **Нàдсан, Кіпель, Кіт…**
Парыў іх творчых сіл – вяршынны:
Дух вабяць, як нябёс блакіт.

## 8. Кайф на зданях Свабоды

Як і ў жахлівы час тэрору,
Калі дух здрадны панаваў,
Таптали **Волю** без дакору –
Аблога зьдзейсьнена правам.

Кантратнік страціў права волі –
Самому лёс свой вырашаць:
“*Монстр*” “Кодэкс выбарчы” ўзаконіў –
Трываць не справіцца душа.

Цяпер народ датэрмінова
Прымушаны галасаваць,
Каб ноччу д’ябал адмыслова
Змог бюлетэні стасаваць.*

Судовых спраў хаўрус няволі
Карае люд нявінны ўсьлед
Падачы спраў манаршай воляй,
Каб зь віду зьнік **Пагоні** сьлед.

За кошт народнай гаспадаркі
“*Свавольнік*” запуск ”БелКі” меў,*
Каб зьняць піяр…
За “*чаркай з шкваркай*”
Народ жа страт – не ўразумеў.

Каб скрыць абсурд абраз-рашэньняў,*
Закрыў эфір “*калабарант*”
Усім, хто здатны на крушэньне
Абманных спраў, хто – не гарант.

Загнаў “*звырода*” ў падполье*
**Валодзі Коласа** ліцэй:
Цяпер браць веды можна…ў полі –
Далей ад здрадлівых вачэй.

Закрыў “*душыцель*” і Саюзы:
Народнай мудрасьці сяброў,

Грамацкіх колаў прафсаюзы,
Суполак польскіх спадароў…

І сродкі масавых выданьняў
Прыкрыў "*манкурты*" ўзмах рукі,
Каб праўды дух апавяданьняў
Не узарваў спакой люцкі.

Народ, зьняважаны абразай,
Не знае праўды пра быцьцё.
Ён існасьць разумее фразай:
Калі ёсьць кайф, дык ёсць й жыцьцё!

* * *

А жальба сэрца рвецца ў неба:
Чаму так многа хіжых дзіў?
Адказ быў скрушны:
– *Так і трэба!* [1]
Лёс горкі – д'ябал спарадзіў.

## 9. Свабода на высьпе памяці

Краіна зноў у змрочным стане –
Прастору праўды скрыў туман.
І ўсё ж: час лепшы ў нас *"настане,
Калі стрымаецца падман"*.*

У скрусе… абаронцы **Волі**:*
Пакуль – няёмкі рэзультат.
Дый не такой жадалі долі,
Хто біў нястомна у набат.*

Але рупліўцы* роднай мовы,
Каб не згасаў народны стыль,
Выданьне ўзьнесьлі ***"Дзеяслова",***
Што зычыў нам пісьменьнік **Брыль.***

---

**1.*"Так і трэба"*** – афарызм Фр. Багушэвіча.

Нясуць мысьлярскі дух й рупліўцы
З пляцоўкі творчае ***“Паміж”.****
Яны вядуць сяброў-зычліўцаў
На выспу памяці… без меж.

***”Свабода!, Праўда!,***
***Справядлівасьць”*** –
Такі сучасны ўзьнят штандар:
Сябрам па духу уласьціва
Трымаць адкрытым праўды твар.

І сёньня зданьне шчаснай долі
Зыходзіць памяцьцю зь нябёс,
Каб не губляўся у няволі
Айчыны **Адраджэньня** лёс.

Аб гэтым гучна **Звон Свабоды***
Ў час абуджальны абвясьціў
І памяць спадчыны з нагоды
Надзеяй сьветлай асьвяціў.

Яна нязгасным духам ходзіць
Шляхамі продкаў па зямлі
І песьню ўзьнёслую заводзіць,
**Каб вартасьць Краю бераглі.**

Гучыць яна на сходах **Волі**,
У месцах помных на ***“Дзяды”…***
**Хай не сьціраюцца ніколі**
**На высьпе памяці сьляды!**

## Эпілог

Я веру: час насільля сыдзе –
Здаровы розум возьме верх!
**Свабоды Сонца Краю ўзыдзе** –
Даверу зьнішчыцца бар’ер!

І дзейсны поступ[1] ***“За Свабоду!”***–
Духоўных сіл рашучы ўзмах –
**Адкрые Ісьціну народу**,
**Расьсее дух маны і жах!**

Выразны крок яго – шырокі
На фоне ўзрушанага дня…
У рупны час… і ў час марокі,
Калі разносіцца хлусьня...

Абудзіць памяць **Волі** сьвята**,**
Акрые песьняй салаўя.
І **распрастае крылы ўзьнята**
**Пакутнай спадчыны зямля!**

Лістапад 2005-лістапад 2006

## РАСЦЬВІЛА ДУША МАЯ
## (Трыялет).

*“Мая душа, як ястраб дзікі,*
*Што рвецца ў неба на простор.”*
**Максім Багдановіч**
*“Край праўды выгляне з-пад плесьні*
*І ўскалыхне жывой душой”*
**Янка Купала**

Праўдай яснай, мовай зычнай
Расцьвіла душа мая:
Верш жыве мой, як і я,
Праўдай яснай, мовай зычнай.

Лёс Айчыны спакваля
Асьвяціў мой погляд звычны:
Праўдай яснай, мовай зычнай
Расцьвіла душа мая.

17 лістапада 2006

1. Рух **“За Свабоду!”** паўстаў пасьля прэзідэнцкіх выбараў падчас вулічнай акцыі 25 сакавіка **2006.** Лідэр – А.**Мілінкевіч**.

# СЬВЯТЛО МОВЫ МАТЧЫНАЙ

Верш прысьвячаецца міжнароднаму **Дню** роднай мовы, які адзначаецц **21 лютага**.

*“Паўтараю,*
*Як словы замовы,*
*Шэпт з мінуўшчыны нашай сівой:*
*Хто не ведае матчынай мовы,*
*Той не любіць матулі сваёй”*

**Генадзь Бураўкін**.

*“Была і мова самай лепшай,*
*Жыла між яваў і між сноў.*
*У ВКЛ была найлепшай,*
*Сьвятая мова ліцьвіноў.”*

**Уладзімер Паўлюкевіч**

*“Ад чаго ж ты на сэрцы, журба:*
*Цьма ў душы, і сьвятла не відно…*
*Мова родная, мова мая!*
*Дзе ты ёсьць? Ну чаму не чутно?”*

**Алесь Ціхаход**

*”Вякамі ёй ходу жыцьця не давалі,*
*Вякамі чынілі насмешкі ды кпіны,*
*Вякамі крыўлялі, глушылі, таптталі*
*Вялікую мову няшчаснай краіны”*

**Ніл Гілевіч**

Я з калыскі ўспрыняў мову матчыну.
Для душы яна – носьбіт сьвятла.
І любоў да яе мной не страчана,
Хоць кругом – чужамоўю хвала.

Не скарыўся мой погляд валошкавы
Ўціску моды, што ў цемру вядзе.
Але мова, што спраўлена продкамі,
Была й будзе крыніцай надзей.

Той крыніцай, чым жывіцца нацыя,
Чым прапітана продкаў зямля,
Чым душа, як Хрыстоваю стацыяй,
Будзе ўзрушана вечна мая.

* * *

Каб любіць нашу родную спадчыну,
Трэба лёс яе горкі спазнаць.
Каб не згасла сьвятло мовы матчынай,
Трэба сэрцам яе успрымаць!

30 кастрычніка 2006

## ДУХ ПРАРОКА

Верш прысьвячаецца сыну Айчыны − апосталу **Духу нацыі**, паэту-дэмакрату Францішку **Багушэвічу**, якому **21 сакавіка** адзначаецца гадавіна зь дня нараджэньня /1840-1900/.

*“Зямля спрадвечная, кушлянская,*
*Свайго ты помніш земляка.*
*Такая блізкая і наская –*
*Зямля Мацея Бурачка”*
(Зь верша **Юрася Сьвіркі**
***“Постаць Прарока”***)

*“Каб ніколі не чураўся*
*Сваёй роднай мовы,*
*У якой узгадаваўся,*
*Хоць забыўся дзеля новай”*
**Янка Купала**

У часы заганы
На зямельцы-маці
Цар сядзеў нязваны,
Як ва ўласнай хаце.

Зь гневам, поўным болі,
Зь верай і надзеяй
Жыў мужык без долі –
*“Бог не роўна дзеле”* [1]

---

**1.** *“Бог не роўна дзеле”* – назва верша Фр **Багушэвіча.**

Кліч, аднак, пачуўся
Каліноўскай ***“Волі”*** *
І… ад сну прачнуўся
Касінер нядолі.

Як прыйшла патрэба –
Быў разгар паўстаньня, –
У руках са стрэльбай
Бой прымаў… настаўнік.

І кружылі каты
Віхрам у вакольлі.
І чакалі краты,
Каб закраціць волю.

У вятрах разгулу
Царсцьвенных наказаў
Віўся морак глуму
Над зямлёй паразы…

Не сумелі здолець
Чужака у схваццы –
Рабскі дух нядолі
Пасяліўся ў хаццы.

Трэ было пабачыць,
Як мужык гаруе,
Як жыццём лядачым
Царскі біч кіруе.

У жыцьці суровым
Мужыку быў братам.
У хадах судовых
Стаў ён адвакатам.

Бараніў і слова
Ў беларускіх межах –
Знаў: гук роднай мовы
Для ***“душы – адзежа”.***

Гаварыў бяз фальшу:
***”Не губляйце ж мовы,***
***Беларускай нашай,***
***Каб*** (зусім) ***не ўмёрлі!”***

Словам павучальным
Ён апісваў стала,
Як мужык апальны
Зьведваў выт нямала.

Ён таксама раіў:
**Ведаць мову – слушна!**
***“Вымятаць бруд з краю”***
**Толькі зь ёю зручна!**

І зайграў ***“Смык***” з ***“Дудкай”***
Ад нуды… да болю:
Загучалі чутка
Песьні па вакольлю.

Лёс іх надта значны –
Сьледам праўды крочыць:
Падымаць ад спячкі
І расплюшчваць вочы.

Час сьвятла настане
Над зямелькай крэўнай.
***“Плакаць перастанем***
***Мы над доляй”*, пэўна!**

* * *

І гучаць зноў песьні
Песьняра-прарока…
І парою весьняй
Пояць веры сокам.

27 студзеня 2006

---

* Выдзеленыя ў двукоссе словы і цытаты скарыстаны з твораў Фр Багушэвіча.

# СВАБОДЗЕ – ЗАРУ!

Верш прысьвячаецца **змагарам за Свабоду***, якія былі асуджаны дыктатарскім рэжымам за лёсавызначальныя ўчынкі па надуманым прычынам. Нарэшце, у сьнежні 2008г. на ніве змаганьня яны легалізаваліся ў рух **“ЗаСвабоду!”** пад кіраўніцтвам экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандара **Мілінкевіча*.**

*«Товарищ, верь: взойдёт она,*
*Звезда пленительного счастья...*
*И на обломках самовластья*
*Напишут наши имена»*

**А .С. Пушкин**.

Сябры волі слушнай!
Я вас пазнаю
Па постаці мужнай
Ў няроўным баю.

Вы сьмела ў час злосны
Ўзышлі на памост
І **Сьцяг** сьвятланосны
Ўзьнялі ва ўвесь рост.

Ён велічна ўзьвіўся
Над прыкрасьцю зла –
Прастор абудзіўся
Зіхценьнем сьвятла.

**Кастусь Каліноўскі**
Зь ім волю каваў.
А **Вацлаў Ластоўскі***
Яму гонар даў.

З выявай **Пагоні**
Вас сьцяг **Волі** ўзьнёс
На родныя гоні,
Каб выправіць лёс.

Пачатак сьвітаньня
Успрыме зямля
І нівай змагаганьня
Ўзрасьце на палях...

Сябры волі слушнай!
Я вас пазнаю
Па постаці мужнай
Ў няроўным баю.

Да скону-спачыну
Я сэрцам бяру
**Кліч зорны Айчыны:**
***“Свабодзе – зару!”***

26 сьнежня 2006

## ХРЭСТ ВЕРЫ

Балада прысьвячаецца памяці паэтэсы-рэвалюцыянерцы **Алаізы Пашкевіч-Цёткі,** якой **15 ліпеня** адзначаецца гадавіна зь дня нараджэньня (1876-1916).

*“Веру, братцы: людзьмі станем,*
*Хутка скончым мы свой сон”.*
(Зь верша Цёткі *“**Вера беларуса**”*)

*“Мей надзею ў сэрцы ясную,*
*Што не век зіма…”*
**Янка Купала**

На скрыжалях жуды і пратэсту,
Калі гулам гудзела зямля,*
Напаткаў паладзін* паэтэсу
І свой ***“хрэст”*** нагадаў спакваля.

Гулкі ***“хрэст”*** чыстым голасам неба
Мовіў ясна, што ***“бой дае плён!…***
***За Свабоду вайну весьці трэба”,***
Каб не жыць на зямлі бабылём!…

І народ кліч пачуў паэтэсы:
Стаў ламаць тыраніі замкі,
Бараніць сваіх дум інтарэсы,
Што прыгонам загнаны ў ціскі.

Але сілы змаганьня – няроўны::
Пахіснуўся ад залпа штандар.
Яму пасьці не даў яго кроўны,
Акрылёны **Свабодай,** змагар.

І пад боскім штандарам **Свабоды**
Яна *“скрыдлы”* арліны ўзьняла:
Каб з народам сустрэцца з нагоды –
Па старонцы з батлейкай* ішла.

І вадзіла зь людзьмі карагоды…
Роднай мовай – быў страсны парыў! –
І трымала прамовы на сходах,
Каб народ немач верай скарыў.

І з ***“Лучынкай”*** па хатам хадзіла,*
Каб сьвятло запаліць у вачах
Маладога дзіцяці, каб сіла
Узрастала ў надзейных плячах…

Але хмары нягоды* кружылі
Па-над лёсам мужыцкім бядой:
Скора рабскага ўціску спружына
Прыдушыла іх душы жудой.

Яркі водсьвет бяды успрыманьня,
Што віруе ў пажары вайны,
Гартаваў яе дух парываньнем
Думкі слушнай з нагод сатаны.

І яна па шляху паладзіна,
Што свой ***“хрэст”*** нагадаў спакваля,
Сьмела шла ў народ і будзіла
Веру ў шчасьце, што годзіць зямля.

* * *

Веры хрэст і сягоньня ў час скрушны,
Што ўласьціва народу ў бядзе,
Ходзіць з вуснаў у брацкія вусны:
**“Да Свабоды хрэст нас прывядзе!”**

Толькі трэба ў дугу не згінацца
Перад зграяй зладзейскага шоў!…
**Веру, братцы! Людзьмі называцца**
**Скора будзем!…Бо час – надышоў!**

16 сакавіка 2006

## ЗВОН СВАБОДЫ*

Верш прысьвячаецца галадаючым, выступіўшых з пратэстам супраць праўнага бязмежжа, з гарадоў: Баранавіч, Бабруйска, Гродна, Дзяржынска, Жодзіна, Ліды, Магілёва, Менска, Мастоў, Нясьвіжа, Салігорска і др.

*“Зазвані моцна звон, загудзі,*
*Каб пачулі цябе на ўвес край,*
*Беларуса хутчэй разбудзі,*
*Хоць цяпер яму спаць не давай!”*

**Міхась Чарот**

*“Братцы! Ачніцеся! Няўжо вам*
*Не чутна, хоць бы і скрозь сон,*
*Як прамаўляе Божым словам*
*Да вашых сэрцаў вешчы звон?*
*Як кліча ён знайсьці свой Кіцеж ,*
*Паўстаць з прадоннай нематы...”*

**Ніл Гілевіч**

Чуеш, брат?: **волі звон** – раздаецца!
Кліча нас: **знішчыць ганьбы кляймо! –**
Давялося ж жуды нацярпецца,
Як зайшлі ў заганы ярмо…

Крочыць зноў здань няволі па Краю.
Зноў у скрусе бязьмернай душа:

Беспадстаўна хаўрусьнік карае
Чэсны люд, міф стварыўшы сьпярша.

Але скора дух змовы панікне –
Голас **Волі** ўнясе прыгавор!
І тады суд адступніцтва зьнікне –
Будзе правіць ім… не дагавор!

**Звон Свабоды** ўспаміны абудзіць
І азначыць сьвядомасьць быцця:
Без раздольля душа не набудзе
Уласьцівага волі жыцьця.

Над уціскам час прыйдзе расправы!
Будзе суд над тыранствам свабод!
Гэта будуць адметныя справы –
Ажывіцца, нарэшце, народ:

Погляд розны на лад – стане фактам,
Паднявольля пазьбегнуць суды,
Пахаваем сістэму кантракта –
Будзе жыць мой народ без жуды!

Час адказны, я веру, настане!
Толькі ты, брат, духоўны – мацуй
Лучнасьць брацкую! Ў вольнасьці стане
**Хай расьце абурэньня ланцуг!**

А пакуль да расплаты час дойдзе,
Дадае боль уціску надзей,
Што сяброў новых водгукам знойдзе,–
Як пратэст,– галаданьне людзей.

Хоць іх кропля маленькая толькі,–
Ўсё ж не гасне бясправую дакор! –
Хай разносіць пратэст гукам звонкім
**Звон Свабоды*: “Даць Волі прастор!”***

5 чэрвеня 2006

# ЗДРАДА

Паэма пра таталітарны рэжым на Беларусі, які ўстаноўлены хцівым да ўлады дыктатарам. Дзеля таго, каб застацца ва ўладзе, кіраўнік дзяржавы груба парушыў **Канстытуцыю,** зьдзейсьніўшы **15 лістапада 1996г. канстытуцыйны пераварот** (гл. **"Народную Волю"** ад **13 лістапада 2008),** і сфальсіфікаваў прэзідэнцкія выбары **2006***. Падман Палішынэля сам жа кіраўнік краіны і прызнаў, прычым – не аднойчы.

*"Вы, што звыклі поўзаць ракам*
*І на задніх танчыць лапках*
*Перад кожным небаракам,*
*Што трымае з маслам "папку"...*
*Месца ваша ў ніцалозьзі,*
*Ганьба вам наканавана,*
*Бо пры вашай дапамозе*
*Бацькаўшчына ўкрыжавана..."*

(Зь верша **Ўлада Дубоўкі**
***"Здраднікам"***)

*"Жывая плынь чужое мовы!*
*Я сам не ведаю, калі*
*Яе канчаткі і асновы*
*Мяне падманам аплялі."*

**Іван Ласкоў**

*"Так! Няўмольны суд спытае*
*З валанцёраў здрады.*
*І ніхто хай не чакае*
*Ад яго спагады".*

( Зь верша **Ніла Гілевіча**
***"І спытае суд высокі"***)

## Пралог

Калі на трон манаршы ад народа
Спадар "*канём траянскім*" узышоў,
То здрады і раскрылася прырода –
Шчымлівае ў калабаранта шоў.

Мяжы не знае жудаснасьць тырана
І ўсё выразьней сутаргі яе:
Павінен быць бязбожнік пакараны! –
Расплаты час за здраду… не міне!

## 1. Жудаснасьць уладара

Хто не верыць у здраду персоны,
Хай успомніць зьмест клятвы ягонай:
Горш няма той істоты паганай,
Чым “*слуга*”, што пужае наганам.

Каб стасункі зь людзьмі былі годны,
Абяцаў кіраваньне прыгодным.
А як зьведаў выгоды ён трона,
То ўладарыць стаў… не без урона.

Каб прыдаць панаваньню значэньне,
Ён ваякам праводзіць вучэньні,
Беспадстаўна дыктуе нататкі
І мяняе чыноў, як пальчаткі.

Каб азначыць жахлівасьць улады,
Ён штодзённа штампуе загады:
Дзе *“кармушку”* адняць, дзе – кантракты,
А дзе трэба – зьняважыць бястактна.

Каб папоўніць рэжыму рэсурсы,
Ладзіць ён разнастайныя курсы:
Як змагацца з *“зубрамі”* ці *“флорай”*,
Як зачысьціць для зьдзеку прастору.

Дзе гаворка ідзе пра “стабільнасьць”,
Трэба ведаць: АМАП сочыць пільна.
А таму, дзе натоўп і дзе людна,
Ходзяць цені іх ноччу і будна.

Рабскі жах ён наводзіць у думках,
Бо няма ад бяспраўя ратунку.
І няма тут адметнага дзейства,
Каб ахвяру пазбавіць ад бедства.

## 2. Абраза народа

Поўны жаху і дух *“вертыкалі”* –
Мы падобнай абразы й не зналі:
Кожны чын, дагадзіць каб уладзе,
Рабалепна сядзіць на нарадзе.

Хто ж такі абавязак забудзе,
Той зьнявагу адразу ж набудзе.
Не пазбегнуць яму і асады
Ці звальненьня з службовай пасады.

Яшчэ горшай чакае нядолі,
Хто пазбаўлены права і волі.
Хто ж з прымусам не мог не згадзіцца –
Выраджэнцам… павінен радзіцца.

Як заўважыш такую абразу –
Зразумееш яе… не адразу:
Дзе служаку халуй не пярэчыць,–
Як звычайна, – адна там галеча.

Дзе патрэбна з парламентам згода –
Указявак… пануе нягода,
Бо, як сказана раз пры народзе:
*“Правіць той, хто стаў богам!”*…
І годзе!

Славалюбу народ і паверыў,
Хоць вачыма падман і не зьмерыў.
А таму… ён на выбарах стратных
*“Перамогу”* здабыў… элегантна*.

Ды не знае народ апантаны,
Як уладай рэсурс скарыстаны:
Вязьняў здрады лёс радужны вабіць,
Хоць і душу прадажную ганьбіць.

## 3. Выняткі тырана

Як да ўлады “*слуга*” надта хворы,
То стаў скрытна тварыць загаворы:
Узгадніў прагматычны парадак,
Што прыдаў справам прыкры асадак;

Праявіў, як дыктатар, свой талент –
Актам ліпавым справіў парламент.
І цяпер: дэпутат нетыповы
Праў – не мае, не знае – і мовы.

Як народныя сродкі збывае?
Чын аб гэтым – нiколькi не дбае.
Варта толькі каму заікнуцца –
За бартом… можа ён… апынуцца.

Так збылося і з тым, хто спытаўся:
*– А чаму “Боінг” стратны... прыдбаўся?*
*Дзе знаходзяцца сродкі... за зброю,*
*Што дасталіся... годнай парою?*

Хто ў камандзе прыкметна праявіць,
Таго хутка… спяшае зьняславіць.
Калі ж *“воран”* яго ўраз спаткае,
То ён тут жа… са зроку зьнікае.

Усё гэта – выдаткі тырана.
Кожны дзень нам ён бачны з экрана,
Адкуль можа пагрозліва трындзіць,
Як “*слугу*” апазіцыя крыўдзіць…

Бессаромна ўладар гоніць замець:
Жах няволі – люцкі гонар ганіць.
Калі ж так успрымаць гэту ўладу,
То не мець нам – ні волі, ні ладу.

## 4. Праявы прагматызму

Адвакаты дыктата няўмольна
Трубяць нам аб жыцьці безумоўным,
Пры якім будаўнік ці даярка
Здавальняецца *"чаркай са шкваркай"*.

Для ўслаўленьня жыцьця агітпропам
Скарыстаны з пагардлівай помпай
Факт, напрыклад, што зьвязаны
з пускам
Газу ў Браславе, Лоеве, Глуску…

Быццам толькі "*слузе*" люд удзячны
За станоўчы зыход справаздачы.
А вот лаўры за хібы *"ўзвышэньня"*
Пажынаюць –*"казлы адпушчэньня"*.

Балаганны праяў прагматызму
Прыдае "*фарысею*" харызмы,
Мужыку ж – шанс чуць мяса адцяці
Ці мукі мерку мець, як дзіцяці…

Рассьцілаецца гніль генацыду
На прасторах улады… Пад відам
Праяўленьня турбот аб народзе
Ставіць крыж ён… ягонай прыродзе.

Пры такой неспагадлівай долі
Шэсцьдзесят тры жыве муж – не болей!
Вось такі ў нас паказчык…
зьмярцьвеньня –
Чалавечага знак вымярэньня!

Побач…тут…з генацыдам фізічным
Існуе генацыд й лінгвістычны:
Каб народы з’яднаць – без адмоўя,
*“Нараўне”* ён узьвёў – рускамоўе…

Так пад покрывам здрады павальнай
Наша нацыя – непазнавальна:
Скрозь растуць дыктатуры заносы
І служыцеляў права дзівосы.

Хто не зьверне на дзікасьць увагу,
Да сябе той пагубіць павагу –
Па-халопску ён будзе…тым часам…
Існаваць пад імперскім абцасам.

## 5. Каб *“народам звацца”!*

Калі глянеш сьвядома навокал,
Дык заўважыш праніклівым вокам:
Да закона павага – загнана,
Чалавечая годнасьць – таптана.

Але ж як ні скрываецца змова,
Абуджае радзіннае слова:
Мова продкаў тлумачыць яскрава,
Як знайсьці на бяспраўнасьць управу.

Яна мовіць, што трэба быць дзейсным!
І, каб мэту пачэсную зьдзейсьніць –
Адрадзіць гонар маці-Айчыны, –
**Узгадняцца мы Мовай павінны!**

Толькі з **Мовай** рашыць справу можна!
Безь яе, брацьця, – будзе трывожна!
І, каб вольным народам нам звацца,
**Трэба з роднаю Моваю знацца!**

Хто не згодзен з такім пастулатам,
Застаецца жыцця сурагатам
Ладу гэтай прадажнай структуры,
Што ўзрадзіў нам рэжым дыктатуры.

Але ж **Сонца** зазьзяе **Свабоды!**
І ўсталююцца прынцыпы згоды!
І не будзе люд мучыць дух здрадны,
Што ўзрасьціў хціва дух неспагадны.

І на зьдзек будзе знойдзена ўправа!
І парламенту вернецца права
Зацьвярджаць пастановы сумесна,
А судам – незалежная дзейнасьць!

## 6. Эпілог

Зрабіць варта станоўча выснову:
**Аднаўляць трэба родную Мову!**
Толькі зь ёю мы можам узьняцца
І народам па праву назвацца!

**Хай гучыць роднай Мовы выказьнік:**
Добрай волі – магутны выразьнік!
Узьнясе хай ён дзейснасьць нарады
Да людзей…без пагарды, бяз здрады!

Каб Айчынай сваёй захапляцца,
Трэба нам ад дыктата збаўляцца!
Бо ніхто за нас дзейства не зробіць!
І ніхто за нас лад не устроіць!

* * *

Каб пазбавіцца долі халопа,
Трэба смела сказаць:
**– Дэспат, хопіць!**
**Досыць годнась прыстойную пляміць**
**І сьвятыні народныя ганіць!**

2006

# ЖЫЦЬЦЯ ЖАДАНЬНЕ

*“Пакуль з пагардаю ад нас*
*Не адвярнуўся дух Купалы –*
*Пільнуйма зьніч, каб не пагас,*
*Каб быў запас агню трывалы,*
*Каб, душы вывеўшы з турмы,*
*Як пад прысягаю, сурова*
*На сьвет на ўвесь сказалі мы*
*Сваё нясказанае слова!”*

**Ніл Гілевіч**

*“Ён, гэты дзень, яшчэ настане*
*І ачуняе старана!”*

**Максім Багдановіч**.

Ахутаў душу сум няволі
І прытушыў у сэрцы гнеў:
Народ не знае лепшай долі –
Туман маны трывала сеў.

Але нягожа трызну правіць
Па лёсу страчаных надзей.
Яшчэ не спраўлены **Звод правіл**[1]**,**
Каб дзейсна абудзіць людзей.

Ён, гэты **Звод маральных правіл,**
Раскрые бруд пустой хвальбы.
Тады ўжо – можна душу й збавіць
Ад несуцешнае журбы.

А по́куль шчэ… хай душу грэе
Надзея ў сьветлае жыцьцё:
**Жыцьця жаданьне...не старэе!** –
**Маны наступіць раскрыцьцё!**

30 кастрычніка 2006

**1.** Пра **Звод маральных правіл** чытай трыялет “**Купалаўскі заклік**” на стар.**28**

## ХВАЛІ ПРАТЭСТУ

Верш прысьвячаецца змагарам, якія зьдзейсьнілі пратэст супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў **19 сакавіка 2006г.**

*“Ахоплена сэрца маё неспакоем,*
*Вялікай, балючай трывогай люцкой”*
**Ніл Гілевіч**

*“Аднім цярпеньнем і пакорай*
*Не скінеш ты зь сябе ярма”*
**Якуб Колас**

*“Дзе гвалт і ўціск – адна там няслава”*
**Дж. Байран**.

У плёскаце хваляў пратэсту
Гартуе сталь волі змагар:
Няможна далей жыць без зьместу,
Калі уракае ўладар…

Было ўладалюба прызнаньне:
*“Не будзе народ добра жыць!...*
*Шмацьцё зь яго толькі і стане,*
*Хто схоча свабодна зажыць”.* *

А слова сваё ён трымае:
Калі час адказны ідзе,
Таго, хто пратэст успрымае, –
Адразу ж на нары вядзе…

І вязьнямі сталі засьценка
Лябедзька, Казулін, Дынько,
Вячорка, Сасім, Бухаленка,
Дашкевіч, Дранчук, Усянок…

Ды многа другіх, хто трымае
**Сьцяг Волі** ў час скрушны заўжды.
Усе яны сэрцамі раяць,
Як збавіцца можна жуды.

І рух не стрымаць сярод люду
На вахту пратэсту ўставаць:

Паўстанцы імкнуцца усюды
**Свабодзе** блакаду ўзарваць.

Мацнее ўсё дух маладосьці –
Вышэй **Волі** ўзносіцца **Сьцяг.**
***“Фронт”*** юных і ***“Зубр”***
сьмела мосьцяць
На **Выспу Свабоды** свой шлях.

То купкай, а то й паасобку
Яны ўсьведамлённа ідуць
На мітынг ці на галадоўку,
Каб мэты сваей дасягнуць.

І **Сіўчык** – змагар **за Свабоду,**
Што справіў Майдан-гарадок,*
Быў змушаны зноў у нягоду
Змаганьня зьдзяйсьняць новы крок,

Каб скінуць цяжар паднявольля,
Каб сэрца ад сну скалануць –
Нягожа зжывацца зь нядоляй,
Калі на душы адна муць.

Пратэсту адметнай выявай
Стаў **БУНТ**а* грамацкі статут:
Даносіць да мас мовай яві
Нямога жыцьця атрыбут.

***“Скідайце няволі аковы!”*** –
Зь пятлі **Каліноўскі** казаў:
Кліч зычны апошняй прамовы
Маланкай прастор праразаў.

Хай кліч той змаганца не збудзе!
Пратэсту хай шырыцца рух!
Нашчадкі – пратэст не асудзяць.
Асудзяць – зьняслаўнасьці дух…

* * *

Хай коцяцца хвалі пратэсту
Па краю, дзе ходзіць нуда!…
**Не будзе ў краіне прагрэсу,**
**Калі скрозь вируе жуда!**

14 чэрвеня 2006

## СЬЦЯНА ЖУДЫ

Назву верша мне віртуальна падказала найменьне фрагмента заходняга муру (Сьцяны **Плачу**), які захаваўся ад комплексу разбураных збудаваньняў Старога гораду ва Іерусаліме, дзе праводзяцца аплакваньні ахвяр вандалізму ў старажытныя часы.

*“Народ! Беларускі Народ!*
*Ты цёмны, сляпы, быццам крот…*
*Збудзіўшысь ад грознай бяды,*
*Увесь поўны смяротнай жуды!…”*

**Максім Багдановіч**

*“Корчмы ды астрогі,*
*Крыжыкі, бярозкі –*
*Гэта наша доля,*
*Доля нашай вёскі.”*

**Янка Купала**

Мой Край! Твой лёс –
бы змрочны сьлед,
Які змог выжыць нейкім цудам…
Нямала тут чынілі бед
Улады чужакоў над людам.

Як цёмны мой народ…заўжды,
Як ты жуды жахлівай – поўны.
Табе ізноў напасьць бяды
Прыйшла зусім па волі *“змоўнай.”*

Ты на сябе ўзлажыў ярмо
І цягнеш лямку горкай долі:
Узьвёў ганебнае кляймо
На лёс Айчыны без патолі…

Яшчэ сто год таму…пясьняр
Цярпець нягоды нам не раіў.
А сёньня…ўраз…”*слуга*”-махляр
Стаў быць усцяж – пагардай Краю:

Сярод чыноў і *“вужакоў”*
Пасеяў здрады дух сумненьня:
О, колькі платных ядакоў
Тамяцца мукамі сумленьня!

Каб больш зрабіць уладных дзіў
І зьбіць народ свой з толку,
Ён без наркозу пасадзіў
Яго на газаву іголку.

Пад зьбітай фразай:***“Я –народ!”***
Укрыта фарысейства хітрасьць:
Каб толькі ўмацаваць свой род!
У ёй – даўно ляжыць…няміласьць.

Пад ім згібаюцца суды…
І паўстае… жыцьця нягода.
“*Слугу*” ж – не зводзіць боль жуды,
Што узрастае з кожным годам.

* * *

Расьце, расьце сьцяна жуды,
Сьцяна ганебнай горкай долі!
Дык хто ж пазбавіцца нуды,
Калі яна падзе ад болю?…

***“Пара навалы зьмесьці змрок!”*** **–**
Так заклікаў пясьняр нyволі.
Дык мо сказаць пара… знарок:
**”Глуміцца над людзьмі – даволі!”**

29 студзеня 2006

# ГОЛАС СУМЛЕНЬНЯ

Верш прысьвячаецца газеце ***“Народная Воля”.*** (Галоўны рэдактар: **Іосіф Сярэдзіч. 1 кастрычніка** адзначаецца гадавіна да дня нараджэньня апостала **Галоснасьці,** нар.1949)**.** Газета выдаецца зь ліпеня 1995г.

*”І калі паклічуць трубы*
*Нас у сонечны прасьцяг,*
*Дружна ўздымем вольналюбны*
*Мы з Пагоняй нашай сьцяг!”*
(Зь верша паэта-дзекабрыста, былага філамата **Міхаіла Рукевіча –** ініцыятара стварэньня ў 1825г. таварыства ***“Ваенныя сябры”***)

*“Народная Воля”,* ты – Волі пашана!
Нясеш людзям праўду пад ціскам жуды.
Твой голас Сумленьня гучыць несціхана
Бяз права ліць слёзы на лёс, без нуды.

О, Воля! Для д’ябла ты – грозная сіла!
Са страху табе ён блакаду ўзгадаў:
Не раз над табой зьдзек улада чыніла
І воблік твой творчы чын здрадна псаваў.

Але не зламаць стойкасьць духу у “Волі” –
Улада не ў сілах зьняважыць яе!
Як вецер крылаты не гасіцца ў полі,
Так голас Сумлення – не гасьне! Жыве!

У час вырашальны ты клічаш сабрацца
Усёй грамадой і стаць шчыльна ў рады,
Сказаць слова ***“Хопіць!”*** **:**
**Людзьмі будзем звацца,**
**Калі пахаваем паразы сляды!**

3 лютага 2006

# МУЗА ПЕСЬНЯРА

Акраверш прысьвячаецца паэту-дэмакрату **Максіму Багдановічу,** якому **9.12.** адзначаецца гадавіна да дня нараджэньня (1891-1917).

*“Вершы, вершы дарагія!*
*Спарадзіў я вас, маленькіх,*
*Ў час, калі мне падымала*
*Грудзі хваля пачуцьця”.*
*“Рушымся, брацьця, хутчэй*
*У бой…, пакідаючы жах.”*
(З твораў **Максіма Багдановіча**).

*“ Зь вершамі Багдановіча*
*Удыхаю цяпло Свабоды –*
*Гэта Мая Свабода…*
*Удыхаю Свабоду веку…*
(Зь верша **Міхаліны** *“На Свабоду”*)

**М**аксіму толькі дваццаць пяць
**А**дмераў лёс душы гарэньня,
**К**аб лірай музы узьнімаць
**С**вітальнае зары тварэньня
**І** ў песьнях каб была апета
**М**агічная душа паэта
**У**зьнёсласьць на непакарэньне…

**Б**ыло пасланьне боскай волі –
**А**двесьці род свой ад бяды:
**Г**арэць і ратаваць ад болю
**Д**ушу жывую горкай долі,
**А**дкрыць у схронах барацьбы
**Н**ястрымны нораў парываньня…
**О,** колькі веры і надзей
**В**ірыць у вершах слушнай музы!…
**І**х гучны строй хай звонам служыць
**Ч**ульлівым постацям для дзей
**У** час за самавыжываньне!

31 студзеня 2006

# ШЧАСЬЦЕ КУПАЛЬЛЯ

Паэма прысьвячаецца **Радаславу Астроўскаму* --** слаўнаму сыну Айчыны, змагару за адраджэньне **Духу нацыі**, ідэолагу Беларускай Цэнтральнай **Рады**[1] ў эміграцыі, якому **6** лістапада адзначаецца гадавіна зь дня нараджэньня /1887-1976/.

Шчасьце – гэта часовае праяўленьне
радасьці ад усьведамленьня дасягнутай мэты. **Аўтар**

*"У глушы, дзе туманы белыя,*
*Дзе жывуць лесуны і трасца,*
*Як заўсёды, шукаюць сьмелыя*
*Кветку-папараць, кветку шчасьця"*

**Уладзімер Караткевіч**

*"Што ж за вогненнае шчасьце:*
*Скошан лёс, як сенакос.*
*Да цябе мне не прыпасьці –*
*Прыпадаю да нябёс".*

**Яўгенія Янішчыц**

У ноч купальскую агмень
Сьвятла сьвятога кола
Расьсейвае ў душы глухмень –
Зрывае цемры полаг.

У яркай магіі сьвятла
Купальля зырыць шчасьце
І не гарыць яно датла,
Калі душа ўся – насьцеж…

---

1. У **90** ю гадавіну абвяшчэньня **БНР** старшыня Рады Івонка **Сурвіла,** якая шукае кветку шчасьця для нашага народа за мяжой, шле адтуль пасланьне:*"Нам усім ведама, дарагія суродзічы, што* ***без Акту 25-га Сакавіка****,* ***без Беларускай Народнай Рэспублікі****,* ***не было б сёньня беларускага народа на гэтай зямлі.*** *Я веру, што пабачу яшчэ вольную і незалежную Беларусь.* ***Адродзім наш цудоўны край. Народ наш пераможа страх!"***

Купальля шчасьце Рад шукаў
У Краю шматпакутным,
Дзе скора кветку напаткаў,
Што ў сьвет вяла раскуты.

Сарваў ён квет і зразумеў
Гаворку дрэў і птушак
І дар празорліўца займеў:
Як справу зладзіць слушна;

Як распазнаць, дзе праўды сьвет,
Дзе продкаў скарб зарыты;
Як іх тлумачыць запавет,
Што лёсам здрадным скрыты.

Народ жа, сьцяты нематой,
Жыцьця як сьлед не зьведаў.
Жыла ў іх трэба: зжыць застой –
Адкрыць старонку ведаў.

* * *

Сьвятлом надзеі трапяткім
Займаўся дзень **Свабоды.***
З ружжа стралялі тут наўскід…
Парою – без нагоды.

Да мэты дзейсна Рад ішоў:
Навокал – сьвет кантрастны.
Час вызначальны надышоў –
Быў сход у зорак ясны.

Была адказная пара –
Мяняўся твар Айчыны.
У схватцы постаць змагара
Вяла належным чынам.

І, акрылёны справаю –
Прыдаць жыцьцю ўзвышэньне, –

Ён мудрасьць праявіў сваю –
Ў канон узьвёў вучэньне.

І моладзь стала на віду
Сталець, – павагі вартай, –
На роднай мове рэй вядуць
І норавам упартым.

Настаў шчасьлівы Краю час –
Гуляла **Воля** ў весях.
І голас боскі стаў вяшчаць
Жыцьцёвасьць з паднябесься.

Народ убачыў шчасьця лік –
Сакрэт раскрыўся кветкі!
І наступіў жыцьця адлік –
Падняўся гонар сьвецкі!

* * *

Але нядоўга славіў Край
**Свабоды** успрыманьне.
Яно сышло… за небакрай –
Адно успамінаньне…

На стрэлцы вогненных пуцей
Узьнікла здань няволі.
Яна паўстала бы сявец*…
На ніве горкай долі.

Яна жыцьця зьмяніла лад,
Калечыць Край – парадна,
З пагардай пошасьці ўзьнясла
На подыум… уладны…

Спавіўся цемрай наш абшар:
Змарнеўся твар – у весях.
Сышоў купальля квет – ў гушчар:
Матыў жалобны…ў песьнях.

27-30 сьнежня 2007

## АБУДЗІСЯ, МОЙ КРАЙ !

*“Такі наш лёс, такая доля.*
*Галовы хілім нізка... Ой!*
*Даволі рабства ўжо, даволі*
*Таварыш любы, браце мой!”*
**Уладзь Дубоўка**.

*“Устань ты, старонка родная маці!*
*Годзе зімовага рабскага сну ...”*
**Янка Купала**

Абудзіся, народ мой карэнны!
Прабудзіся ад *“рабскага сну!”*
Твой вякамі лёс надта быў дрэнны,
Бо прыгон ў тры пагібелі гнуў.

Век дваццаты на зьдзіў быў *“пакутны”*.*
Годнасьць гінула ў пошасьцях зла,
Ты за волю стаяў неадступна,
Ды ж яна… толькі ў вуснах – жыла.

І цяпер, у час здрады павальнай,
Калі Краю рашаецца лёс,
Ты не бачыш: анёл анармальны
Над **Свабодай** меч гібельны ўзьнёс.

Бавяць стала ўсе сродкі ў законе
Аб тваім *“красамоўным”* жыцьці,
Бо не зьведваў ты шчасьця ў загоне:
Адтуль выйсьце – нялёгка знайсьці.

Ты на шчасьце шукаеш прытулак
У прасторах гаворкі… чужой,
Дык павінен жа знаць: паратунак –
У **Свабодзе,** што ўкрыта імжой.

Ты ману чуеш без перапынку
І не зьведаў, што зман – у цане,

Што хаўрусьнік б’е здрадную скрынку,*
Бо сумленьне – прадаў сатане.

Ты не хочаш паверыць у здраду?
Пачуць слова аб праўдзе жыцьця?
Дык калі ж ты прызнаеш параду:
**Не цурацца свабод набыцьця!!**

Ты паддаўся ўладарнаму ўціску –
Цягнеш лямку няволі ярма.
Ды няма табе ўладнага спуску,
Дый сьвятла ў тваей долі – няма...

**Абудзіся, народ! Абудзіся!**
**Прабудзіся ад рабскага сну!**
Ад няволі акоў – страпяніся,
Каб у моры маны не ўтануў!

30 верасня 2006

## СЛОВА ДА НАШЧАДКАЎ
### змагара Слуцкага Збройнага Чыну

Верш-пасланьне прысьвячаецца **Дню Герояў БНР**, які адзначаецца **27 лістапада –** дзень пачатку Слуцкага паўстаньня 1920 года. Першы помнік СЗЧ усталяваны ў 1948г. на нямеччыне ў Баварыі на мяжы зь Швейцарыяй ля возера Лютэнзее. Апошні – ў Стар. Дарогах на сядзібе Анатоля Белага ў 2008г.

*“Пасеклі край наш папалам,*
*Каб панскай вытаргаваць ласкі.*
*Вось гэта – вам, а гэта – нам:*
*Няма сумленьня ў душах рабскіх”.*
**Алесь Дудар**

*“Ідзеш у край, які бязбожна*
*Жыўцом парэзалі на часьці,*
*А брат проць брата стаў варожна*
*І памагае край раскрасьці”.*
(Зь верша **Янкі Купалы** *“**Новы год**”*, **1920**)

*“На бой! – За шчасьце і за волю*
*Народу слаўнага свайго!*
*Браты, цярпелі мы даволі.*
*На бой! – Усе да аднаго!”*
(Зь гімна СЗЧ. Аўтар: Макар **Краўцоў**
/М.Касьцевіч/)

*“На край сышла з Масквы пагроза –*
*Нахрапам скроілі зямлю.*
*Слуцк, Вызна, Семежава, Грозаў…*
*Адпор давалі маскалю:*

*Зрывалі ворага атакі –*
*Паўсюль відаць былі сьляды…*
*Кацапы – тут, а там – палякі.*
*І адступаць – няма куды.*

*Шалёны холад… Неудача…*
*І дзень і ноч гараць агні…*
*Глядзяць: на дапамогу скача*
*Князь Юрый Слуцкі на кані…*

*Пагоня тут жа ўзьвілася:*
*Стральба, сьвіст куль, ліецца кроў–*
*А поўдні бітва пачалася...*
*Рады радзеюць змагароў.*

*У маскалёў было больш сілы –*
*Вядома нам з тае пары…*
*Ля Слуцка курганы-магілы:*
*Ляжаць там Чына ваяры…*

*Забойствы, зьдзекі, катаваньні…*
*Уся бяда нам – ніпачым…*
*Загартаваліся ў змаганьні:*
*Нам прыклад – Слуцкі Збройны Чын!”*
(Верш Ніны **Ярмалінскай “*Збройны Чын*”,** 2008. Публікуецца ўпершыню)

Гуляла па абшарах змова –
Інтрыгай правіў ліхадзей.
Калі ж на Край сышла зьнямога,
Гвалтоўна зрынуўся падзел.

Жыла вялікая надзея,
Што зь цемры вырвецца народ.
Аднак ліхвярства ліхадзеяў
Зьвяла пад корань чынны род.

Таму наказ мой – адназначны:
Не вер, брат, вешчунам маны!
У іх, – яскрава як зазначыць, –
Зламысны воблік сатаны.

**Свабоду** я – крывёю зьмераў…
І духам зьведаў мноства бед.
На сьмерць ішоў я зь цьвёрдай верай,
Што наш пачын пакіне сьлед.

Калі ж урочны час настане,
Хай **крыжа*** будзе напамін:
Правесьці збройнае паўстаньне
Натхніў **Пагоні** паладзін.

Ты воляй цьвёрдаю павінен
Нядолі скінуць полаг цьмы,
Бо жыць у шатах зла – няміла:
Пра шчасьце трэба дбаць, паймі!

Нягожа дух таміць няволяй
І гонар нацыі губляць!
***“Браты, цярпелі мы даволі!”*** –
**Пара Айчыну ратаваць!**

Пачуцьці годнасьці уласнай
Узьніме хай сьвяты пачын,
Каб вера ў шчасьце не пагасла,
Што спарадзіў наш Збройны Чын!

**26** лістапада **2007**

# СЬВЕТ ПЕРАМОГІ

Паэма[1] прысьвячаецца 645-годзьдзю перамогі ліцьвінскага войска над татарамі і вызваленьню паўднёвых славян ад няволі, якую зьдзейсьніў у 1362г. Вялікі князь ВКЛ **Альгерд** на Падольлі ў прытокі ракі Паўднёвы Буг – Сінь Вадзе.

*“З попелу мінуўшых дзён, сьляпых, крывавых*
*Весела узойдзе рунь сьвятлянай славы”*
**Янка Купала**.

На *“Дзікім полі”* здань гула –
Гуляў зьмей-вецер ядраны.
Падольле крыў арды булат:
Ардынскі сьлед – заплямлены.

Тут бруда рой кружыў наўкруг –
Душа маліла помачы.
На слушны шлях ступаў пад Буг
Альгерд бяз страху й роспачы…

Арды ў той час мацунак зьлёг,
Бо хан душой жыў зморанай:
Пыхлівы дух натхніць не змог
Татар на схватку з ворагам.

Дзяметр, Катлуб і Кіцібей
Вядомы справай хітраю,
Бо кожны зь іх, як верабей,
Хваліўся хваткай спрытнаю.

Яны без веры у Хрыста
Ішлі шляхамі пошасьці.
Аднак супроць паразы стаў
Ваяр ліцьвінскай постаці.

Ён хрышчаны лязом мяча
І вольным ветрам пешчаны.

---

**1.** Даведку да паэмы чытай на стар.**113-118.**

Яму – адно: сячы зь пляча
Ці ладзіць Край… завешчаны.

Паніклы погляд крыжака
Паслаў яго ў час суджаны
Да Сініх Вод, дзе важака
Чакаў бой жорсткі й жудасны…

* * *

Вачыма поле – не абняць:
Прастора – неабдымная.
Стаяць у шыхт за рацьцю рацьць –
Харугвы Краю слыннага.

“*Падковай*” сталі шэсць палкоў…
Дружыны справы хвацкае
Былі расстаўлены… з бакоў –
Спрыялі вузы брацкія.

Ва ўзьняты дзідай далягляд
Браты ўплята лі спору ніць:
На долю іх пячаць лягла –
Ў “*мяшок*” татараў заманіць!

Альгерда дбалі доўг сыны:
Андрэй і Ўлад – князь кіеўскі.
Бацькоўскім клопатам яны
Дух мацавалі воінскі.

І Карыят – Альгерда брат –
Сыноў выхоўваў вольнасьцю.
Зь іх кожны ў ратнай справе – хват:
Бліснуць умелі здольнасьцю!

Па фронту сталі ў шыхт *“замка”*
Дружыны з ь Меньска й зь віцьбічан,
З сталічнай Вільні й Полацька,
З Заслаўля, Піньска і з Нальшчан.

*   *   *

Настаў, нарэшце, сечы час –
Збудзіўся стан труб зыкамі,
Зямля пусьцілася у скач
Пад конскімі капытамі.

Панёсься коньніцы паток –
Нястрымна постаць коньніка!
Сыпляліся у жывы клубок
Клінкі зь мячамі… збройнікаў.

Адважны поступ у баю
Душы жывой браценікаў! –
Задумку спраўджвалі сваю:
Ў “мяшок” загнаць праціўніка…

І ў цэнтры воі бой вялі –
Трымалі націск ворага:
Сьцяну бясстрашнасьці ўзьвялі –
Дасьпехі сталі полагам.

Са стойкай вытрымкай яны
Пад стрэламі ўвіхаліся…
І з кушаў[1] шрубкі й камяні
Ва ўпор у цэль кідаліся…

*   *   *

Кіпела бойка… тут і там.
Удачы міг – за спрытнымі:
Вой вызначаўся вопытам
І дзеяньнямі скрытнымі.

Гудзеньне стрэл і звон мяча
Паветра сьцялі сьпёртае.
Нязломнасьць воіна вянчаў
Здабытак хваткі мёртвае…

---

**1. Кушы –** машыны-самастрэлы, зь якіх кідаліся снарады: металічныя шрубкі і камяні з вострымі кромкамі.

На строме бітвы князь Альгерд
Сабраўся сілай дзіўнаю
І хану Кіцібею сьмерць
Паслаў імклівай дзідаю…

Панік у сечы ханскі меч –
У “пастку” ўсё ж папаліся!
Галовы ханаў – сьцяты зь плеч
Й па полю… рассьцілаліся.

* * *

*”Віват!”*–Альгерд. Ты са шчытом
Вярнуўся з поля мужнасьці!
Ты славу барацьбы сьвятой
Узьнёс да неўміручасьці!

Народ твой посьпех авяваў –
Урок даў роду ханскаму!
І “***Лада! Лада!***” [1] прасьпяваў
Па звычаю паганскаму.

Твая агністая душа
Вірыць на высьпе памяці!
Жыцьцёвым клопатам граша,
Ты ўчынак зьдзейсьніў памятны:

Народ славянскі ад бяды
Пазбавіў справай суджанай!
Сьвет перамогі – назаўжды
Адзнакай стаў… заслужана!

Жыве *“сьвятлянай славы”* дух
У поступу насьледнікаў!
Не раз ён постацьцю ў бяду
З’яўляўся лікам вершніка.

Са **Сьцягам Волі** у баях
Пад Воршай, Клецкам, Грунвальдам…

---

**1. Лада –** багіня каханьня і вясновага абуджэньня.

Пракладваў ён цярністы шлях
Да мэты сілай струджанай…

**Пагоні** сьвятланосны сьцяг
Вячыстым сьветам паўстае,
Сваім сьвятлом збудзіў абсяг:
**Час уславуленьня – настае!**

Чэрвень 2007.

## ПАЛЕСКІ СКАРБ

Верш прысьвячаецца гораду **Салігорску,** жыхары якога **10 жніўня 2008г.** адзначалі **50-годзьдзе зь дня яго заснаваньня.**

На ўскрайку слыннага Палесься,
Дзе воды ў вечнасьць Случ нясе,
Абсяг збудзіўся звонкай песьняй
І праступіў ва ўсёй красе.

Тут Салігорск на крылах славы
Узьняў зямлі таемны дар.
Тут водгукам руплівай справы
Стаў велічна палескі скарб.

Тут чуйна к дзеяньням прызваны
Душы сумленнай працаўнік:
Шахцёр, і хімік, і… названы
Найменьнем гордым – будаўнік.

І узьняліся тэрыконы
Пад жаўруковы небасхіл.
Яны, як горы, – векапомны.
Яны – вянец народных сіл.

Дык хай на волі сьпелай нівы
Шуміць наліты каласок!
Няхай палескі скарб пачціва
Праслявіць звонкі галасок!

10 жніўня 2007.

# БАЛАДА ПРА КНІЖКУ ВЕДАЎ

Балада прысьвячаецца дзеячу нацыянальнага адраджэньня, міністру асьветы у 1-м урадзе БНР, выдатнаму навукоўцу, апосталу **Асьветніцтва** Аркадзю **Смолічу***, аўтару вучэбніка «Геаграфія Беларусі» (праз “**о**”), які каштаваў яму жыцьця. **29** верасьня адзначаецца гадавіна зь дня яго нараджэньня (1891-1938).

*“Дам я вам слоўца, братняе слоўца,*
*Шчырае слоўца,– ня знаю другіх, –*
*Сейце на роднай, беднай старонцы*
*Праўду ў думках і ў песьнях сваіх”.*

**Янка Купала**

Анёлы аховы ліцьвінскага краю
Вучоных чыноў у абліччы сьвятым
На ранку **Свабоды** сабраліся раіць,
Як нацыю вывесьці ў сьвет зь цемнаты,
Каб просты народ мог напіцца свабоды
І спадчыну ведамі ўзвысіць з нагоды.

Пачэсную справу – стварыць дапаможнік
Пазнаньня пакутнай старонкі сваёй –
Апосталу ведаў надаў час трывожны,
Які шчэ ішоў баявой каляёй:
Ракою радзімы разліўся рух волі –
Ён надта хацеў… не казённае долі.

Апостал належна трымаўся парадку,
Каб кніжка займела твар праўды ў вачах
Народа сярмяжнага добрых задаткаў,
Якая ўступала ў жыцьцё, й павучаць,
Як збавіцца строю, якім люд спагнаўся
І краем “*тутэйшых*” – агідліва зваўся.

І… кніжка займела ад Геі* павагу –
Прыдала ёй славы сьвятая зямля,
Якую наш продак ад прыкрай зьнявагі
Заўзята адстойваў у жорсткіх баях:
Народу яна ў сьвет шырокі – аконца,
Скуль сьвеціць **Свабоды** нязгаснае **Сонца**.

Хадзіла цудоўная кніжка па весям
І сеяла веды на ніве люцкой.
Яны узьняліся крылатаю песьняй –
Грамацкае думкі бурліў неспакой!
Вірыліся дзёрзкія думкі, дарэчы,
Пакуль ёй зласьлівы анёл – не пярэчыў.

Ды скора ў край зьбегліся чорныя сілы
І крылы раскрыў панаваньня анёл.
Пад маскай аховы ён выт прафесійны
Зьдзяйсьняў над народам ліхім груганём:
Над лёсам кружылі жывыя пачвары –
Гібелі ў брыдотах крылатыя мары…

Судом безразважным прадажная “тройка”
Апосталу ставіла справу ў віну –
“*Саюз вызваленьня Русі Белай*”…Стойка
Ўспрыняў ён вар'ятаў маны навіну…
Але – у чаканьні – таміўся ў зладзеяў
Твор вольны, што ў думках пярэчаньні сеяў.

І, – кніжку узьняўшы, – анёл панаваньня
Прамовіў:*“Твой час, сявец ведаў,– прыйшоў*
*Прызнацца ў справах душы ратаваньня:*
*Ты ж сам палічыў, што да мэты дайшоў,*
*Што сьмердам казёншчына – не да спадобы.*
*Дык знай жа: твой лёс твая кніжка й аздобіць”*

Забілася сэрца апостала ведаў,
Калі небараку вялі на расстрэл.
І… кніжка пакорна ішла за ім сьледам:
Іх фатум магільны – ля дола сустрэў…

* * *

Ды ж воляю лёсу праз бурныя годы
Пра край кніга ведаў – прыждала пагоды!

Верасень 2008

# ІСНАСЬЦЬ МУЗЫ

Акраверш прысьвячаецца апосталу **Духу нацыі** Народнаму паэту Нілу Сымонавічу **Гілевічу (**30**.**09**.**1931**),** змагару супроць бюракратычнага **“**разьвітога **двухмоўя”.** Яшчэ ў **1988г.** на Пленуме праўленьня Саюза пісьменьнікаў СССР была прынята Пастанова ў яго рэдакцыі**: “*мова карэннай нацыі павінна быць у кожнай рэспубліцы дзяржаўнай*”.** Яго мары скора збыліся**: 26.1.1990** быў прыняты **Закон аб мовах**. На жаль, на рэферэндуме **1995** намаганьнямі выраджэнцаў было прынята **дзьвюхмоўе.** З тых пор родную мову **“*прыблуды, манкурты, звыроды амаль даастатку зьвялі*”.** Муза паэта прасякнута болю за будучае нацыі**.**

*“Народ! Калі ты ёсьць народ,*
*А не бязвольны раб дармовы,–*
*Не дай пусьціць сябе на звод:*
*Не выракайся роднай мовы!*
*Яна ня горшая нічуць*
*За мовы іншых слынных нацый.*
*Таму – адрынь, адпрэч, адгудзь*
*Майстроў хлусьні і махінацый!*
*Каб не загналі без пары*
*Цябе ў магілу злыдні-юды, –*
*Загавары, загавары*
*На роднай мове скрозь і ўсюды!”*

(Зь верша Н.**Гілевіча** «***Народ***!»,1995)

**Н**іл Сымонавіч – наш сын Айчыны –
**І**снасьць несьмяротнай музы чынна
**Л**адзіць, каб на ніве роднай мовы
**У**зрасьлі жыцьця жывога ўмовы.

**Г**ібкі верш зман словам выяўляе
**І** ў душы гнеў дзікі распаляе –
**Л**юдзям працавітым, люстрам нібы,
**Е**рась выкрывае ў думках й хібы.
**В**еліч творчай музы, як аснова,
**І**снуе ў сказаньнях роднай мовай,
**Ч**ула дзе расьце дух узвышэньня
**У** варунках краю Адраджэньня.

Верасень 2008

# У ВІРЫ ІНТРЫГ

Верш прысьвячаецца **125-годзьдзю** зь дня нараджэньня апостала **Дзяржаўнасьці,** вучонага, публіцыста, палітычнага і дзяржаўнага дзеяча нацыі **Антона Луцкевіча** (29.01.1884-25.03.1943), які жыцьцё прысьвяціў справе адраджэньня дзяржавы і нявінна, як і сотні тысяч другіх, загінуў у сталінскіх лягерах сьмерці.

*“Ідзеш ў край, які бязбожна,*
*Жыўцом парэзалі на часьці,*
*А брат проць брата стаў варожна*
*І памагае край раскрасьці”*
(Зь верша **Янкі Купалы “***Новы год***”)**

*“Прыціх наш край, ад гутарак аскома…*
*Прыціх наш край, маўчаць, усе маўчаць.*
*Свабодай карыстаюцца сачкомы,*
*Каб тых, хто мысьліць, ў вастрог саджаць*”
(Зь верша **Ул-ра Дубоўкі** “*На ўшанаваньне новага падзелу беларускай зямлі*”/1926/, які каштаваў яму 28 гадоў няволі).

Гісторыя месьціць нямала ўзораў
Служэньня Айчыне, дзе ў гонары доўг,
І маці-краіна ўслаўляецца творам,
Падмурак якой шчэ заклаў князь Міндоўг.

Калісьці мой край слыў магутнай дзяржавай –
Не быў у васалах пад Дзікай Ардой.
Па сьвету хадзіла зь ім звонкая слава –
Яе здабывалі усёй грамадой.

Але дух “*русізма*” з паслугаю здрайцаў
Краіну “*тутэйшай*” у кпінку празваў
І нацыю зганьбіў без права назвацца
Народам, а межы – зусім скасаваў…

Быў час узрушэньня, навеяны смутай,
І воляю лёсу быў зрынуты цар.
З “*заганнага краю*”…бы скінуты путы,
Ды будняў ваенных – быў самы разгар.

За край пачыналіся спрэчныя бойкі –
Ўсё змовы вялі: лях, немец і рус.
А лёс змагара вырашаў вырак “тройкі”:
Яна-то й зьдзяйсьняла жыцьцяператрус.

У гэтым віры праімперскіх інтрыжак
Кірунак трымаў за дзяржаву змагар,
Падобны да лёсу **пакутнага Крыжа**[1].
Ды Волі народу – не даў гаспадар.

За ўзьнёслыя думкі пра лад памяркоўны,
Што **Доўнар-Запольскі** узорам назваў,
Надаў кат Антону зьнявагу раптоўна:
У лягеры скрушным – жыцьця каштаваў.

Вадзіў змагара час шляхамі пакуты –
Глытаў ён там сьлёзы і “*лягерны пыл*”:
“*Вандэеўскі*” край быў інтрыгамі скуты,
Бо слыў кіраўніцтвам занадта тупым…

Не зьнікла душа у прасторах выгнаньня –
Няскораны дух змагара час прыждаў:
Дзяржаўнасьць Айчыны як стыль існаваньня –
**Луцкевіча роздум** – змаганьня прыдаў…

Глядзіцца з “*Навейшай гісторыі*” сёньня
Лёс спадчыны краю, скуль пахне маной
Пра яўныя з’явы, наўмысна замглёных,
Аб долі няшчаснай: сьлязы – ні адной…

* * *

Луцкевіч стаяў і астаўся ў вытоках
Дзяржаўнасьці крэўнай нязломнай душой.
Апостальскі дух яго ўзьняўся высока.
І час услаўленьня яго – надышоў!

Студзень **2009**

---

**1.** Лёс **пакутнага Крыжа** – лёс крыжа Еўфрасіньні Полацкай, сьляды якога зацяраліся ў 1941г. пры перавозке з Гомеля ў Маскву (Гл.”*Народная Воля*” ад **21.11.2008,** артыкул Я.Гучка).

# СЭНС ЖЫЦЬЦЯ

Верш прысьвячаецца слыннаму руплiўцу “адраджэньня родных вытокаў” апосталу **Духу** нацыi Леанiду **Лычу**. У аснову верша пакладзены зьвесткi з нататкi Ул-ра **Содаля** “*Шлях да сябе*”, зьмешчанай у газеце “***Н. Воля***” 6.02 2009г. з нагоды **80**-годзьдзя героя.

*“Нешчасьлiва наша доля:*
*Нам нiчога не дала.*
*Не шукайце кветак ў полi,*
*Бо вясна к нам не прыйшла.”*

**Якуб Колас**

У путах выту i зьнявагi
Iшоў нявечаньня працэс.
Змагар за праўду працiвагай
Жыцьця выношваў скрыты сэнс…

Шукаў яго ён на памежжы,
Дзе панавала ўзьнёсласьць мар,
I ў воiнстве, што вузiў межы, –
Хаваў ад вока праўды твар.

На службе ў органах ГУЛАГа
Спазнаў юнак у першы раз
Сэнс скрыты лёсу бедалага –
Ахвяры выту без прыкрас.

Жыцьцё пакутнае нядолi
Усхвалявала юнака,
Бо зразумеў: бяз вольнай волi
Не ўславiць нацыю ў вяках.

I… прылучыўся ясным тварам
К вытокам старыны юнак:
На душу лёг нямым цяжарам
Скажоны лёс – зьнявагi знак…

З тых пор прафесар слушнай справы –
“Нiць Арыядны” нахадзiць –
Праняўся мэтай: **ведаць правам –**
**Край роднай мовай адрадзiць!**

10 лютага 2009.

# ГАЛАСЫ ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎСКАЙ

Верш прысьвячаецца **Году роднай зямлі,** якім абвешчаны **год 2009,** зямлі, якая кожнага на ёй народжанага грамадзяніна зьвязвае з успамінамі свайго бесклапотнага дзяцінства і юнацтва, якое напоўнена ўзьнёсла-летуценнымі марамі.

“*У век рэнегацтва*
*і гібельнай здрады,*
*калі зрываюцца душы,*
*не справіўшыся з ачмурэньнем,*
*адзіны ёсьць выбар–* ***трымацца***
***бацькоўскай зямлі,***
***як дрэва карэньнем.***”

**Ніл Гілевіч**

З жыцьцёвых продумаў зямлі-красы,
З глыбокіх спратаў памяці адценьняў
Плывуць да сэрца сьцішна галасы
Зямлі пары ўзьнёсла-летуценнай.

Не раз палёт чароўных дум настрой
Дае нырца ва ўспамін улоньне –
Карцінай раскрываецца жывой
Душы замілаванае салоньне.

І поўніць грудзі сьветлая туга,
Калі атуліць сэрца цень былога,
Рашуча як юнацкая нага
Ступае ў сьвет з бацькоўскага парога,

Як не стрымаць палёт зямных надзей
На гонкіх крылах трапяткое думкі,
Каб дзейсна спарадзіць уласных дзей –
Сфарміраваць жыцьцёвыя варункі,

Каб засталіся ў памяці наўсьцяж
Крылатых мар чароўныя зьдзяйсьненьні,
Каб ганарыцца мог нашчадак наш
Зямлі бацькоўскай духа праяўленьнем.

Сьнежань **2008**

# ПАМЯЦЬ У СКРУСЕ

Верш прысьвячаецца ахвярам савецкай таталітарнай сістэмы, якія абвінавачваліся ў “**кулацкіх тэорыях**”, “**нацыяналістычнай абмежаванасьці**”, **“буржуазнай нацдэмаўшчыне**” і “**антыпартыйных поглядах**”**.** За гады бальшавіцкага ліхалецьця ў нашай краіне было рэпрэсіравана каля 1,8 млн. чал. Зьдзек над памяцьцю ахвяр, занядбаньне гісторыі нашага народа сёньня сучаснай уладай, на вялікі жаль, прадаўжаецца

*“Я не чакаў. Я не гадаў,*
*Бо жыў адкрытаю душою,*
*Што стрэне лютая бяда,*
*Падружыць з допытам, з турмою”*
**Міхась Чарот** (згвалтаваны ў 1937г.)

*“Праз пыл руін мы крочылі калонай,*
*З’яднаныя ў адзіную сям’ю…*
*І суджана яшчэ адно было нам –*
*Пакінуць зь песьняй гэтую зямлю.*
*Таму і шлю бяз смутку, без тугі я*
*Ад нас, ад акрываўленых, наказ…*
*Адсюль крычу я ў заўтра:*
*– Дарагія,*
*Крылатыя, не каранўйце нас!”*
**Ізі Харык** (згвалтаваны ў 1937 г.)

Быў час чырвонага разгулу –
Пастпрэд “*русізма*” панаваў.
Народ, як нацыя, агулам
Свае правы на строй здаваў…

На варце тайнай змовы зброда,
Пляліся плёткі, што кругом
Заселі “*ворагі народа*”,
Каб нацыі ўчыніць пагром.

На зьнітаваныя асобы
Фабрыкавалі міф сьпярша.
А каб крывёй спатоліць злобу,
Народ… па квоце вынішчаў.

І кожны, хто быў лёсам скуты,
Заканчваў свой жыцьцёвы шлях.
Таму пытаньне:“***Хто наступны***?”
Прыводзіў небараку ў жах.

У сьценах Дэ-Пэ-Ушнай дрэні
Няспынналяскатаў пістоль.
І рэха пасьлядоўных стрэлаў
Тачыла ў сэрцах прыкры боль.

Хадзіў кагалам люд па сьцежцы
Калоны, што вяла ў Сібір.
Таму, хто прагнуў волі ў сьпешцы,
Стаў покрывам…крывавы жвір.

Спазналі боль тупы і рэзкі:
Кляшторны, Лёсік, Маракоў,
Каваль, Чарот, Дудар, Зарэцкі…
І мно-о-ога слаўных змагароў

За лёс зьнявечанай Айчыны,
За мову родных каранёў,
За ўсьмешку любае дзяўчыны,
За чабаровы пах гаёў…

Пакутны крыж ахвяр нявінных
Быцця блюзьнерскага… паўстаў.
Жаль, гэты факт – неафіцыйны:
Прызнаньня зла – час не настаў.

Не спавядаюцца зладзеі –
Не прызнаюць злачынства зьдзек,
Бо дужа здрадніцкія дзеі
Ўзлажыў на лёс **пакутны век**.

Але ж час прыйдзе пакаяньня:
Над здрайцам будзе Страсны суд!
Яшчэ нямнога намаганьня
І… збудзецца спагнаньня цуд!

20 лістапада 2008

# ДУДАР АНЯМЕЛАГА КРАЮ

**(**Прысьвячаецца В. **Дуніну-Марцінкевічу)**

Верш складзены па матывам гутаркі журналісткі Ірыны Марачкінай з дасьледчыкам даўніны, краязнаўцам Уладзям Содалем, апублікованай у газэце “***Народная Воля***” ад 8 лютага 2008г. у гонар 200-годзьдзя зь дня нараджэньня (4 лютага) *“бацькі”* нацыянальнага пісьменства, класіка айчыннай літаратуры, апостала **Духу нацыі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча** (1808-84).

*“Як сторож, сьмела стаў на варце*
*Радзімых запушчаных гоняў,*
*Стаў сеяць па-свойму ўсё тое,*
*Што мы далей сеем сягоньня.”*

**Янка Купала**.

*“Ваш суд мне ня страшны,*
*хай злосна скавыча*
*У будцы сабака, увагі на пса*
*не зьвярну я.*
*Як раіць пясьняр Сыракомля, пішу я*
*Цяпер, як заўсёды,*
*на мове мужычай...”*

*“Не таго патрэбна славіць,*
*Хто на лёдзе замкі ставіць,*
*Хто спрачаецца, ня дружыць,*
*А таго, хто людзям служыць!”*

(З твораў **В. Дуніна-Марцінкевіча**)

Вось ужо два стагодзьдзі мінула,
Як на Край сеў злавесны туман
І душу нематой агарнула
Цемрашальства, што сее падман…

Шляхціч жыў у той час нетыповы –
Паднімаў анямелым настрой:
Быў на варце мужыцкае мовы –
Да душы прытуляў яе строй!

Адкрываў ён тэатры і школы,
Роднай мовай гаворку там вёў,
Каб дзіця не магло выпадкова
Адцурацца сьвятых каранёў.

Ён у *“шаты эстэтыкі”* моўнай
Музу родных краёў апрануў
І парывамі думкі няўлоўнай
Душу простага люду крануў.

У быліцах, паэмах, баладах
Ён рамантыкі славіў матыў,
Дзе ***“герой часу”*** мог неадкладна
Выпраўляць важных спраў негатыў.

Успрыняў люд яго парываньні
І пранікнуўся духам жыцьця,
Абудзіўся істотна жаданьнем:
Душу вырваць з акоў небыцьця.

Стаў народ лад ламаць панаваньня –
**Каліноўскі** узорам тут быў, –
Ды было не па сілам змаганьне:
Зноў ён волі сабе не здабыў.

Але дух дудара павучаньня
Не пагас. Яго нейчым гасіць!
Надта вабяць яго парываньні –
Лучыць чуйнае памяці ніць!

Вось і сёньня, каб люд анямелы
Змог пазбавіцца пошасьцей зла,
Вінен вокам праніклівым сьмела
Да мінуўшчыны позірк паслаць.

Для сябе ён адкрые, вядома,
Праўду спадчыны – ісьціны сьвет.
Дый абудзіцца духа сьвядомасьць –
З забыцьця ўстане нацыі цьвет.

* * *

Дудара парываньні сьвет вінен прызнаць
І апосталам **нацыі Духа** назваць!
**Хай яны чыстым голасам неба**
**Загучаць у час зорны… як трэба!**

12 лютага 2008

## КРАЙ БЭЗАВАЙ КРАСЫ

Верш прысьвячаецца Бацькаўшчыне, роднай вёсцы **Даманто-вічы**, што на **Капыльшчыне**, дзе прайшлі юнацкія годы.

*“Мой родны кут, як ты мне мілы!…*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыцьцём вясны маёй убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю”*

**Якуб Колас.**

Мой край бацькоўскі бэзавай красы
У сьветлых мроях сьніцца пастаянна,
Як у разлівах срэбраных расы
Я сэрцам піў настой яе духмяны,

Як птушкай лёгкакрылай узьлятаў
Над стрэшкамі маёй любімай вёскі.
І дух мой жыватворны трапятаў
У колерах стракатае вясёлкі.

Мне не забыць красу бацькоўскіх ніў.
Мне не забыць і матчынае ласкі.
Да скону дзён мне душу паланіў
Край бэзавы, дзе палымнеюць краскі.

І дзе б ня жыў я, дзе бы не хадзіў,
Бацькоўскі край мне пастаянна сьніцца:
У сэрцы маем ён жыве заўжды –
Жыцьця духоўнага жывой крыніцай.

8 сакавіка 2009.

## ДУХ ПАКАЯНЬНЯ

Верш прысьвячаецца памяці ахвяр таталітарнага рэжыму бальшавізма. Дзень **29 кастрычніка** лічыцца **Днём Памяці** зьнішчаных сталінскім рэжымам.

*“Ах, мой край каханы, залаты мой край!*
*Не хачу так рана ў песьнях дагараць…*
*Дайце на прывольлі сэрца зь сіньню зьліць,*
*Каб з другімі марыць і другіх любіць”.*
(Зь верша *”Жаданьне”* паэта **Валеры Маракова,**
расстралянага ў Менску ў ноч з 29 на 30.10.1937г.)

*“Так, ёсьць таямнічая сіла ў жыцьці,*
*І мне наканована бачыц прастору:*
*Расквечаны край, разам зь песьняй ісьці*
*Паволі, паціху ступаючы ўгору”.*
*“Засьпявай, мой няведамы лёс!*
*Ці ў сьвятле, ці пад чорнымі хмарамі–*
*Твая песьня мяне аж да сьлёз*
*Закалыша пяшчотнымі марамі”*
(Зь вершаў паэта-эмігранта **Рыгора Крушыны**)

Я мэтай зорнай сэрцам апантаны,
Каб споведзь зла ўзьнялася з забыцьця:
Хачу, каб лёс, што нам наканаваны,
Раскрыў акамянелы твар жыцьця…

Народ нячынны ў сьціплых шэрых шатах
Пазбаўлены жыцьця жывых крыніц:
Не ведаў ён, як доля ў Курапатах
На дол снапамі ўложвалася ніц.

Сьвінцом бязьлітасна зьнішчалі душы.
Сьвяшчэнным стаў для сэрца прыкры боль:
Усхваляваньне радасьцю нарушыў –
Да межаў шчасьця прыхаваў пароль…

А боль цячэ з жаролаў ліхалецьця
І поўніць грудзі гневам трапяткім.

Агмень надзей тужлівых хмелем ўецца –
Шчымлівых мрояў вяжа завіткі.

Я, веру, прыйдзе час: на родных гонях
Расьсеем векавую немату!
І сьветач памяці вякоў – “**Пагоня**”
**Ўзьвядзе дух пакаяньня у статут!**

Чэрвень 2008

## ГОЛАС ПАЭТКІ

Верш прысьвячаецца слыннай паэтэсе Айчыны **Натальлі Арсеньневай***, якой 20 верасьня адзначаецца гадавіна да дня нараджэньня (1903-97). Яе верш *“Малітва”* стаў **Гімнам** беларускага Адраджэньня на музыку **Міколы Равенскага** з назваю *“Магутны Божа”*. У 2000 годзе на еўрапейскім конкурсе духоўных гімнаў ён заняў першае месца.

*“Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,*
*Вялізных сонцаў і сэрц малых,*
*Над Беларусяй ціхай, ветлай*
*Рассып праменьне Свае хвалы..*

*Дай спор у працы будзённай, шэрай*
*На хлеб штодзённы, на родны край.*
*Павагу, сілу і веліч веры*
*У нашу праўду, у прышласьць – дай!*

*Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,*
*Учынкам нашым пашлі ўмалот.*
*Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай*
*Краіну нашу і наш народ!”*

**Натальля Арсеньнева**

*“Ёсьць у мяне зямля,*
*край сьветлых мрояў,*
*Мілейшага –*
*мне не знайсьці другога.*
*Мне ўсе радня там –*
*болей, чым крывёю,*
*Там сэрцу гэтак многа дарагога”.*

**Адам Міцкевіч**

З краёў далёкіх, з высяў сініх
Плыве расчулена да нас
Паэткі голас міласьцівы,
Каб зьнітаваць стагодзьдзяў час.

Ён зорна ходзіць па вакольлі –
Яго жывы на сходках спеў –
І будзіць памяць паднявольля,
І распаляе ў сэрцах гнеў.

Гучыць ён слушнаю малітвай,
Што дух паэткі спарадзіў,
Каб за жыцьцё змог памаліцца
Мой суайчыньнік… не адзін.

Віруе ў плыні Адраджэньня
Паэткі голас трапяткі.
Змагарскі дух ад нараджэньня
Ўваскрэснуў цудам…навякі.

20 верасьня 2008

## ГУЛЬНІ Ў ЗМОРЫ

Балада пра справу фальсіфікацыі **выбараў 2008** у народны парламент*, маркетынг якога асочваўся асабіста аўтарам гэтага твору па лініі **БХК.**

*“Прыгожых сноў ты многа сніла*
*Жыцьцём заціснутая голь!”*
*“Ты скажы мне, цьма глухая:*
*Доўга будзеш ты ляжаць?”*
*“Ідзіце ж к народу, як добрыя дзеці,*
*Ідзіце, злучайце яго*
*І горкую праўду ў вочы скажэце,*
*Чаго ён гарue, чаго?”*
(З твораў **Якуба Коласа**)

Анёл з мандатам панаваньня
На выбарах меў процьму праў,

Даваў урокі выхаваньня, –
Як выбраць “элегантна” ўрад:
*“Пад покрывам маўклівай ночы*
*Падкінуць трэба галасы.*
*А, каб да мэты дзейсна крочыць,*
*У спраты скрынку – не знасіць!”...*

Прыйшлася воляй лёсу дзея –
Асобу ў жальбе напаткаць.
Збылася палкая надзея –
Замову счуць… Бы з малатка
Свой голас волі тэрмінова
Асоба змушана аддаць –
Была працоўная дамова –
Ўзамен кантракт уладкаваць.

І гаспадар паскуднай справы
Стараўся змову груба скрыць:
Раскідваў стосы ўлева-ўправа –
Лічыў *“як трэба”* галасы.
На запытаньне ж: *“Лік скажыце...*
*У стосах, зьлічаных падчас?”–*
Пачуўся выраз: *“Памаўчыце!...*
*Даведка будзе... У свой час”.*

Такім вось быў адказ замглелы…
Кругом стала – натоўп нямы:
Іх змовай зьнітаваны целы –
Такую сцэну бачым мы.
Душа інтрыгаю заслана –
Зусім згубіла воблік свой,
Жыве пад полагам падмана,
Дзе прыкрасьць бзыкае асой…

Як бы між Сцылай і Харыбдай
Народ жыве у скрушны час:
Адзін – ахоплены інтрыгай,

Другі – не ў сілах закрычаць:
*–Даруйце, людзі, мне за здраду,*
*Анёл што хцівы спарадзіў.*
*І ўсё ж даю, браты, параду:*
***На гульні ў зморы – не хадзіць!***

І сапраўды, няма ў нас волі,
Каб сьмела гàлаву падняць
І пракрычаць:***“Цямніць – даволі!***
***Пара Сьцяг Існасьці узьняць!”***
Хай Сьцяг праўдзівасьці асьвеціць
Прастору радасным сьвятлом,
Каб слова праўды па сусьвету
Няслося праведным крылом!

Народ згубіўся пад нядоляй –
Не бачыць *“горкай праўды”* сьвет,
Шукае шчасьце – у няволі,
Адкуль чуць бачыцца прасьвет,
Паўзе бы жаба ў пашчу зьмея –
Ня можа справіцца зь бядой –
І зносіць выт, бо не умее,
Як даць сьвяты бяспраўю бой.

Калі ж, калі час гэты прыйдзе?
Калі абудзіцца народ?
Калі **Свабоды Сонца** ўзыдзе
І высьвяціць да шчасьця брод?

* * *

Жыцьцё шчасьлівым бы настала,
Калі б народ пазбыў маны:
Калі б рука жыцьця прыбрала
Падманны полаг соннай цьмы

Кастрычнік 2008

# ШКОЛЬНАЯ ПАРА

Прысьвячаецца настаўніцы Семяжоўскай СШ, што на Капыльшчыне, **Дарошцы** Сафіі Прохараўне, якая прывіла мне любоў да роднай мовы

Юнацтва школьнага гадзіна
На высьпе памяці парой
Засьвеціцца тугою дзіўна –
Агорне душу думак рой.

Яны ўсплываюць нечакана
Па прыхамаці ціхіх зор.
І абуджаецца затканы
Жыцьцёвым клопатам дакор.

Яго ўспрымаю я маўкліва:
Ён – мой нелітасьцівы лёс,
Бо мы адносімся цярпліва
Да негадзі, што нам занёс.

І ў дні ваеннай завірухі
Ён душу стратамі таміў.
І ў час непрыхаванай скрухі
Ён азначэньня не зьмяніў.

Не збыць тугі пары асьветнай,
Як ў жыцьцё пракладваў шлях.
І не забыць спагады сьветлай,
Што дорыць родная зямля.

І сьвеціцца ўспамін пякучы
На высьпе памяці жывой:
Дух школьнае пары гаючы
Мне налажыў адбітак свой.

І ў сэрцы я нашу нястомна
Спагаду школьнае пары.
Яна мне сьвеціцца, вядома,
Сьвятой тугой, што лёс стварыў.

Верасень 2008.

# СЬВЯТЛО З ЗАВОСЬСЯ

Акраверш прысьвячаецца сусьветна вядомаму паэту-філамату нашай Бацькаўшчыны, апосталу **Духу ліцьвінскай нацыі** Адаму **Міцкевічу***, якому **24 сьнежня** адзначаецца гадавіна зь дня нараджэньня (1798-1855).

Вось тут мы бачым *"…трэшчыны ў багеце*
*У знаёмым да драбніц **Касьцюшкавым** партрэце,*
*Зь ім побач у тым радзе*
*Партрэт **Рэйтана** –сум і роспач у паглядзе*
*За лёс зьняволенага краю…*
*Вунь і **Ясінскі,** прыгажун, пры поўнай зброі,*
*А побач **Корсак**, верны сябра, – два героі*
*Ў акопах Прагі шаблямі сякуць умела*
*Па маскалях, што пруць і пруць асатанела"*

( З паэмы **А Міцкевіча** *"Пан Тадэвуш")*[1]

**А**х, як высока ў неба узьнялося
**Д**ушы сьвятло ліцьвінскага Завосься:
**А**дкрыла спраты таямніц духоўных –
**М**іцкевіча зьмястоўных твораў, поўных
**У**зьнёслых песень рыцараў **Свабоды**.

**М**ігценьне промняў зорнага сьвячэньня
**І**мкнецца духам з выспы азначэньня
**Ц**удоўны край апець і абясьсьмерціць,
**К**аб даўніны было няможна сьцерці…
**Е**ўтэрпа *– муза – творцу апякала,
**В**ячыстай славай вояў авявала
**І** дару творчаму заўжды спрыяла
**Ч**кароўны сказ жыцьця напоўніць змогай
**У** вечнасьць зьвесьці з забыцця зямнога.

20 сьнежня 2008

---

**1.** Тадэвуш **Касьцюшка**, Тадэвуш **Корсак** і Якуб **Ясінскі** – кіраўнікі паўстаньня 1794 за аднаўленьне **Канстытуцыі 3 траўня 1791.** Двое апошніх загінулі пры абароне Прагі – усходняга прадмесьця Варшавы. Тадэвуш **Рэйтан** /1742-80/ – ураджэнец вёскі Грушаўка Ляхавіцкага р-на, дэпутат сойма 1773, які выступіў супроць першага падзелу Рэчы Паспалітай 1772. З-за перасьледу ў 1780г. скончыў жыцьцё самагубствам.

# АПОСТАЛЬСКІ НАКАЗ

Верш прысьвячаецца апосталу **Сумленьня,** Народнаму пісьменьніку Васілю **Быкаву** (1924-2003), якому **19 чэрвеня** адзначалася **85-год** зь дня нараджэньня, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, аднаму зь ініцыятараў стварэньня "**БНФ Адраджэньня**" і Згуртаваньня беларусаў сьвету "**Бацькаўшчына**".

*"Будуць часам ідалы раструшчаны,*
*Сьвет разумны стоміцца ад крыкаў.*
*Васільком ў жыце Беларушчыны*
*Назаўсёды застанецца Быкаў"*

**Рыгор Барадулін.**

*"Даруй, Васіль, за ўсё, што перанёс:*
*За ворагам нанесеныя раны,*
*За брудныя пляўкі з тэлеэкрана,*
*За сьлёзы ўшацкіх ссечаных бяроз.*
*Даруй! За наш нелітасьцівы час,*
*За ціхае кананьне роднай мовы,*
*За ўдзячнасьці запозьненыя словы*
*І ласкі зэканомлены запас..."*

(Зь верша **Генадзя Бураўкіна** ***"Даруй!")***

Васіль даў **Волі** азначэньне:
"*Істота кожная ў сабе*
*Нясе **Свабоду** з нараджэньня*"–
Не можа жыць яна ў журбе.

Апостал чыстага **Сумленьня**
Узважна да нябёс узьнёс
Праўдзівы досьвед пакаленьням –
Зьнявечаны Айчыны лёс...

Вірыць апостала выснова:
Надзеі не губляць прамень!
Трэ жыць у згодзе з роднай мовай! –
Яна паможа стаць з калень.

*Яго кліч: рві, брат, путы рабства!*
*З плячэй ярмо няволі скінь!*
*Дакуль у кратах самаўладства*
*Ты будзеш страчваць твар люцкі!*

19 чэрвеня 2009.

# КРЭДА ПАЭТА

Акраверш прысьвячаецца апосталу **Духу нацыі Яну Чачоту** (1796-1837). **7 ліпеня** адзначаецца дзень яго нараджэньня**.** Першы свой верш паэт напісаў на роднай (ліцьвінскай) мове. Ён і азначыў яго лёс – стаў адным з арганізатараў тайнага таварыства **Філаматаў** і кіраўнікам літаратурнага (блакітнага) аддзела **Саюза Філарэтаў.** Рэакцыя расейскіх шавіністаў – нейпрыманьне свабодалюбівых настрояў ў ліцьвінскім краю і **10 гадоў** турэмнага зьняволеньня паэта-філамата.

Ян *“…песьціўся мовай народа…і заклаў першыя падваліны яе граматыкі”*

**Уладзіслаў Сыракомля**

*“І наступіць год, дзень гэты,*
*Выйдуць, рушаць зь філарэтаў*
*Амярцвелыя сарматы*
*Меч узяць і ўзяць уладу.*
*Выйдуць рушаць, як салдаты,*
*За ўсе крыўды на адплату”.*

(Зь верша **Яна Чачота**)

**Я**н зь легенд і казак зьведаў
**Н**епаўторнасьць мовы роднай –
**У**ладаркі скарбаў kроўных.

**А**сьвятленьне мовы – крэда –
**Н**адало стварыць паэту
**Т**аварыства Філарэтаў –
**О**рган прапаганды ведаў
**Н**атуральнага фармата
**І** … асьветай філамата.

**Ч**уйны ўдзел у жыватворным
**А**сяродзьдзі моўнай нівы
**Ч**ас надаў паэту зорны.
**О**, жыць будзе плён руплівы
**Т**аварыства… годным чынам…
**У** гісторыі Айчыны!

26 чэрвеня 2009

# СОКАЛ ВОЛІ

Верш прысьвячаецца змагару за адраджэньне нацыі, апосталу **Дзяржаўнасьці**, генералу Станіславу **Булак-Балаховічу** (10.2. 1883 -10.5.1940), якому воляю лёсу ў лістападзе 1920 года было наканавана ўтварыць на Палесьсі незалежную Беларускую дзяржаву, праіснаваўшую толькі некалькі дзён. Забіты ў Варшаве савецкімі органамі ДПУ ў пад'езда свайго дома.

*"Наша воля неўміруча, хоць і пад замкамі"* **Мікола Хведаровіч**

*"Дайце мне волю, дайце арлiную,*
*Вырвіце з путаў, акоў!"* **Я.Купала**

*"З народам сваім, я і з лёсам сваім*
*Стаю на вякоў скрыжаваньні.*
*Як ён ува мне, так і я у ім,*
*Над безданьню выжываньня"*
**Васіль Зуёнак**

Над абшарамі Палесься
Сокал Волі славіў вольнасьць –
Узьнімаў да паднябесься
Сакалінай хваткай здольнасьць:

У баях не знаў зьнямогі –
Здабываў народу Волю,
Верыў сьвята ў перамогу –
Вёў змаганьне без патолі!

Ды не доўга вольнасьць славіў
Сокал воляю арлінай –
Скора непагадзі хвалі
Край накрылі журавінны...

Не прыйшло вyратаваньне
Для народа горкай долі:
Не прыходзіць й спачуваньне
Да арлінай… вольнай Волі.

Студзень 2009

# ОДА БРАТЭРСТВУ

Ода прысьвячаецца Грунвальдскай бітве ў сувязі зь яе 600-годзьдзем у годы **Вялікай вайны** (**6.08.1409–1.02.1411**) саюзнага войска Польшчы і ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам, якая адбылася 15 ліпеня 1410г. і завяршылася бліскучай перамогай аб'яднаных сіл над крыжакамі. Ваенныя традыцыі ліцьвінаў праявіліся затым у бітве над крымскімі татарамі пад **Клецкам** (5.08.1506), над маскалямі – пад **Оршай** (8.09.1514) і **Улай** (26.01.1564) у часы **Лівонскай вайны 1558–83** і т.д.

*"І зноў кляліся прадзеды-дзяды:*
*– Сто раз памром, а не пакінем верыць*
*У нашу заўтрашнюю славу-веліч"*

**Ніл Гілевіч**

*"Гісторык грэчаскі эпічна і проста*
*Пра нас даўным-даўно пасьпеў сказаць:*
*– Жыве ў Гіпербарэі люд дзівосны,*
*Якому не балюча паміраць,*
*Калі ў яго забраць жадаюць долю...*
*І родны гай, і залатую волю!"*

**Уладзімер Караткевіч**

Была пара: балючы неспакой
На вольны край няспынна рваўся
І злосна ашалелаю ракой
Па гоням сьмерцю разьліваўся:
Кацілася бяды крыжацкай золь…
Гібела доля ў пашчы зьвера:
Зьнішчалася Хрыстова вера –
Непрыхаваны цісну́ў сэрца боль…

У зорны час той грознае пары
Вяху гісторыі трымалі[1]

---

**1.** Міжусобная вайна за вярхоўную уладу у ВКЛ паміж стрыечнымі братамі Ягайлам і Вітаўтам завяршылася Востраўскім пагадненьнем 1392, на якім апошні быў прызнаны Вялікім князем ВКЛ. Далейшыя падзеі, звязаныя з пагрозай ордэна, вымусілі іх у Бярэсьці 17.10.1409г. прыняць дамову аб сумесным выступленьні супроць крыжакоў, які вырашаў лёс народаў.

Вітаўт зь Ягайлам – лёсу спадары
Дамову ў Берасьці прымалі:
Каб не загінуў шчаснай долі Сьвет
І каб ад болі даць збавеньне,
Яны бяз страху і сумненьня
Рашылі ордэну ўзламаць хрыбет…

І вось настаў той рупны час, калі
Па весям рыцараў зьбіралі.
Жаданьне вояў зраненай зямлі –
Даць прыгавор чужой маралі…
Байцы з бацькоўскіх казачных краёў
Змыкаліся ў рады на бой крывавы…
І ўсе, прызваныя да справы,
Шыхт сталявалі грознаю бранёй.

Як бы на крылах коньніца ў баю
Лавіла лётам зьзяньне шчасьця
І мэту спраўджвала сваю –
Вікторыяй напор вянчаўся:
Са спрытам маладзецкім ваяры
Спраўлялі дзейсныя заходы…
І кроў шаноўнікаў Свабоды
Павагі чырваніла алтары.

О, брацтва дух! У барацьбе сьвятой
За сьветлы лёс дзяцей і ўнукаў
Ты ўстаць гатоў на вычын і на муку,
І на алтар пакласьці гонар свой.
Жыві спрадвечна брацтва запавет
У справах яркім азначэньнем!
Хай непагасны бляск сьвячэньня
Ў стагодзьдзях славіць пераможны сьвет!

* * *

А бітва ў песьнях ажывае –
Па зброі брацтва праслаўляе!

Жнівень 2009

# НАША ПРАРАДЗІМА І ЯЕ ЛЁС

**Літванія** – старажытная назва нашай этнічнай дзяржавы. Яна ўпершыню ў летапісе была прапісана рымскім папай **Інацэнтам 1У** на буле ад 17 ліпеня 1251г., якая давала правы холмскаму біскупу **Генрыху** вянчаць князя **Міндоўга (**1195-1263) – нашчадка полацкіх князёў (Мікола Ўлашчык "Летапісы і хронікі Беларусі", стар. 421, 684; Язэп Найдзюк і Іван Касяк "Беларусь учора і сеньня", стар.32) *"на караля ўсяе Літваніі і ўсіх земляў, якія ён з дапамогаю Божае моцы ўжо вырваў ці вырве ў будучыні з рук нявераных".* ("***Старажытныя акты Палоніі*** /старажытная назва Польшчы/ ***і Літваніі***". Эд. А.Тэйнер, Т.1, Рым, 1860, П.49, № 51, 52). Каранацыя жа была зьдзейсьнена **6** ліпеня **1253г.** Такім чынам, удзельны князь **Міндоўг** паўстае перад нашчадкамі ў якасьці першага і, як вядома, апошняга караля ўтворанай на нашых землях дзяржавы з назвай **Літванія**, як аб'яднаньне княства Наваградскага, што дасталася князю Мяндоўгу ў спадчыну ад бацькі **Рынгольда** ў 1239г. і непасрэдна *"Краіны Мяндогавай",* што згодна *"Хронікі"* Мацея Стрыйкоўскага разьлягалася на землях рэк Верхняга Панямоньня і Ясельды паміж Наваградкам–Слонімам і Менскам–Слуцкам – з захаду на ўсход, Крэвам–рака Вілія і Піньскам–Зьдзітавам – рака Ясельда – з поўначы на поўдзень з рэзідэнцыяй ***"во Роута",*** што на рацэ Рута, і прыслугоўвала Наваградскаму княству. Першай сталіцай утворанай дзяржавы стаў Наваградак. (В.Чаропка *"Імя ў летапісе"* Мінск, 1994, стар. 96-99). Пры княжаньні **Войшалка –** годы праўленьня (1264-67), **Шварна (**1267-70), **Тройдзеня (**1270-82), **Лютавера (**1282-93), **Віценя** (1293-1315) і **Гедзіміна (**1316-41) Літванія ўзбуйнілася ў вялікую дзяржаву з назвай **"*Вялікае княства Літванія*"** (глядзі мапу французскага картографа Гіёма дэ Баплана**,** 1687), якая займала землі ў вярхоўях Панямоньня, Падзьвіньня, Падняпроўя і Прыпяці. У 1323г. Гедзімін перанёс сталіцу

дзяржавы ў Вільню. Пры праўленьні **Альгерда (**1345-77) і **Вітаўта** (1392-1430) Літванія пашырыла свае ўладаньні і, як падаецца ў нашай гістарыяграфіі, займела назву **"Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае"**, якая ужывалася да **1569**г, пакуль Украіна згодна Люблінскай уніі не адышла да Польскай Кароны**.** Тэрыторыя яго разьлягалася ад Зах. Буга да Акі і ад Балтыі да Крыма.

Назва **Літванія** была шырокавядома за яе межамі і, як ні дзіўна, яна не зьнікала з ужываньня замежнікамі ў дачыненьні да нашага краю доўгі перыяд. Напрыклад сапраўдны пачынальнік сучаснай картаграфіі Герард **Меркатар (**1512-95) склаў мапу нашай краіны пад назвай **"*Літуанія*",** якая была зьмешчана ў Атласе, выдадзеным **Е. Хондыусам** у 1595г. у Дуйсбургу (Атлас захоўваецца ў Пантэоне А.Белага ў Ст.Дарогах)). А жывапісец **А. Глотгер** яшчэ ў канцы 19-га ст. прысьвяціў тэме змаганьня ліцьвінаў за незалежнасьць краю шэраг карцін пад агульнай назвай цыкла **"*Літуанія*".** І вельмі прыемна зазначыць, што наш суайчыньнік, вядомы пісьменьнік і драматург, канд. гіст. навук Алесь **Петрашкевіч** у трагедыі "*Прылашчыць і зьнішчыць!"* вуснамі аднаго зь герояў твора Рамана **Скірмунта** – палітычнага і грамацкага дзеяча – ў дачыненьні да свайго сьветапогляду на лёс Айчыны гаворыць:*"Я заўсёды быў і застаюся аддany свайму народу – ягонае месцазнаходжаньне лічу не за Нёманам і Бугам і не на Волзе, а тут… у старажытнай* ***Літваніі!****"*

І, як гэта не парадаксальна, называць краіну сваім імем у часы заганы забаранялася. Не ўжываецца яна і ў сучасны час. Былі спробы называць яе, напрыклад, як: *"Вялікалітва", "Літвінія"* ці *"Крывія"*. Але яна атрымала назву *"Беларусь*" па прыхамаці Кацярыны ІІ, калі ў 1795г. завяршыўся канчатковы падзел Рэчы Паспалітай і наш край поўнасьцю адышоў пад уладу Расеі ў якасьці некалькіх губерняў Паўночна-Заходняга краю. Пры гэтым жамойтам (княству Самагіція, інача́й – Жамойція) была прыўлашчана назва **Летува (**Літва**)**.

Каб азначыць беспадстаўнасьць наданьня нашаму краю назвы ***“Беларусь”,*** то дастаткова прывесьці досьвед Паўла Урбана**,** які пісаў: *”што яшчэ ў 12-м стагодзьдзі Белай Русьсю называлася Растова-Суздальская зямля, а пасьля гэтае імя ўжо носяць Наўгародская і Пскоўская землі, а ў 15-м ужо маскоўскія ўладары тытулююць сябе князямі Белай Русі*” (Гл. П.Урбан *“У сьвятле гістарычных фактаў”,* Мюнхен – Нью-Ёрк, 1972, стар. 64-65). Менавіта з гэтых краёў і распаўсюдзілася на нашыя землі назва *“беларушчына”* І, як сцьвярджае П.Урбан,*“аж да 20-га ст. ліцьвіны лічылі, што Белая Русь – гэта Расея, беларусцамі ў Літве* (трэба ўяўляць – у Літваніі) *называлі ліцьвінаў праваслаўнай веры,* (якія насялялі паўночна-ўсходнюю частку краю), *і гэты тэрмін не быў этнонімам нашых продкаў”.* (Там жа, стар. 67-68)

Пераканацца ў гэтым суджэньні можна, калі ўважліва глянуць на мапу нашай краіны **Г.Баплана,** дзе на ўсёй яе плошчы буйным шрыфтам прапісана назва ***“Магнус Дукатус ЛІТУАНІЯ”*** (**“**Вялікае княства **ЛІТВАНІЯ”**, а не Літоўскае, якое патрабуе напісаньня *Літуансіс*). Пад агульнай назвай мелкім шрыфтам у верхнім правым кутку поля стаіць назва *“Руссіа Алба”* (Белая Русь), а ўнізе такім жа шрыфтам – *“Полесія”.* Гэта яшчэ раз пацьвярджае грунтоўнасьць вываду П.Урбана, што назва *“беларус”* не з’яўляецца этнонімам нашых продкаў, а мянушкай мясцовых ліцьвінаў праваслаўнай (рускай) веры. Аднак атрымалася так, што па міласьці Кацярыны II наш народ пазбавіўся не толькі назвы свайго этнасу, але і назвы сваёй радзімы. Нас проста называлі ***“тутэйшымі”.***

Да таго ж у 1839г. цар Мікалай І і назву *“Беларусь”* ужываць катэгарычна забараніў у сувязі зь ліквідацыяй *“уніяцтва”* і насаджэньнем праваслаўнай рускай веры. Вось тады і вымушаны былі нашыя змагары, такія як Кастусь Каліноўскі і яго паплечнік Валеры Урублеўскі, а таксама апосталы Духу нацыі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч, а затым і песьняры Цётка,

Янка Купала, Якуб Колас і другія, рызыкуючы сваім жыцьцём, зваць народ *“з путаў на свабоду”,* стаць на шлях адраджэньня нацыі і весьці яго *“зь цемры да сьвятла”*. Тут ужо трэ было бараніць не назву краіны, а толькі б магла яна выжыць і заняць*“свой пачэсны пасад між народамі”.* Тым больш, што іх дзеяньні ў пошуках ісьціны былі вельмі абмежаваныя – аніякай даступнасьці да архіўных вытокаў. Ды і само жыцьцё іх находзілася пад нязьменным віжаваньнем. Бо спрадвечная мэта ў змагароў была відавочная – дамагчыся спачатку **Свабоды і незалежнасьці Айчыны.**

Тым не менш архіважна, што праўдзівую гісторыю нашай Айчыны трэба ведаць, бо як гаворыць наш апостал Адраджэньня Зянон **Пазьняк:** *”бязь веданьня праўдзівай гісторыі грамацтва сьлепне”.* Толькі ў гэтым сьвятым і пачэсным дзеяньні пазнаць ісьціну мы можам адрадзіцца як нацыя. Дык дзе ж гэтая ісьціна? Дзе тыя святыя карані, адкуль паходзіць ісьціна?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, то трэба спачатку азнаёміцца з артыкулам Эдуарда **Тобіна** *“Дык адкуль жа наш род і як нас зваць?”,* які быў апублікаваны ў газеце *“Народная Воля”* ад 24 лістапада 2006г., дзе пераканаўча даказана паходжаньне назвы Народа і Краю з пункту гледжаньня лінгвістыкі. З аўтарам трэба згадзіцца, бо довады яго – пераканаўчыя.

Сама назва краіны мусіць паходзіць ад назвы яе этнічнага народа – ***вянедаў,*** якія насялялі землі ад вострава Готланд на ***“Вянедзіка сена”*** (так называлася да н.э. сучаснае Балтыйскае мора, а ў часы Рымскай імпэрыі – Сьвеўскім морам; гл. мапу старажытнагрэчаскага вучонага-энцыклапедыста **Пталамея** пад № 1 у кнізе **Е. Шыраева** *“Русь Белая, Русь Чорная і Літва ў картах”,* а таксама мапу “Рымская імперыя канца 2-га ст.н.э.”, што разьмешчана на стар. 188 гэтай кнігі) да ўпадзеньня ракі Дзясна ў Барысфен (сучасная назва – Днепр). Як бачым, у словах ***“Вянедзіка”*** і ***“вянеды”*** – агульны корань. А гэта

значыць, што карэнным народам на прыбярэжных землях сучаснага Балтыйскага мора з'яўляліся ***вянеды,*** а не *балты,* якія, як мы бачым з гэтых крыніц, насялялі землі ў вярхоўі Волгі і басейнах рэк возера Ільмень. У нашай жа гісторыі прынята лічыць наадварот. Чаму?

У навуковых працах не заўседы можна знайсьці грунтоўныя вывады. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу тым, чые інтарэсы навуковец адстойвае. Калі яны робяцца кан'юнктурна – ва ўгоду ўладзе, што больш верагодна, то яны губляюць сваю навуковасьць. Калі ж навуковец стаіць на прынцыпах навукі падобна Дж. **Бруно**, то ён рызыкуе сваім жыцьцём. Так было ў эпоху інквізіцыі (13-19 ст), так было і ў часы бальшавіцкага тэрору. Вось чаму многія летапісы сфальсіфікаваны. Таму й многія дасьледчыкі і блытаюцца ў сваіх вывадах. Напрыклад, у кнігах па гісторыі нашай краіны можна прачытаць, што ў "невядомай" вайне 1654-67, у якой загінуў кожны другі ліцьвін, маскалі (Расея) вялі вайну з *"Вялікім княствам Літоўскім і Рускім за Беларусь",* што ў бітве 1514 пад Воршай супроць маскалёў змагалася *"беларуская коньніца".* Вось якую лухту нясуць нашыя гора-гісторыкі.

Тут трэба заўважыць, што згодна Люблінскай уніі 1569 Украіна адышла пад уладу Польскай Кароны. Менавіта назва *"рускі"* ў тыя часы адносілася да тэрыторыі сучаснай Украіны. Значыць у 17-м ст. "*Вялікага княства Літоўскага і Рускага*" ўжо не было, а было толькі "***Вялікае княства Літванія***" (у савецкай гістарыяграфіі – Літоўскае), ў склад якой княства Жамойція ўваходзіла ў якасьці аўтаноміі. Дый краіны такой "Беларусь" яшчэ тады не было.

А гаспадар Ворша ў "Каляндары памятных дат беларускай гісторыі на 2007 год", зьмешчанага ў газеце *"Наша СЛОВА"* за 17.01.2007 нават зьдзівіў: у 1432г. у вайне за дынастычную ўладу паміж Сьвідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам – унукамі Вялікага князя ВКЛ Гедыміна – першы зь іх пасьля пазбаўленьня Вярхоўнай улады ў ВКЛ быў вымушаны схавацца

ў Полацку, дзе быў абвешчаны князем *“Вялікага княства Беларускага”*. Во, якое пазнаньне гісторыі!

Трэба тут зазначыць, што словы *“Беларусь” і “беларус”* ў адносінах да нашага краю сталі паяўляцца толькі пасьля 1795г. у сувязі з падзелам зямель Рэчы Паспалітай паміж Расеяй, Германіяй і Аўстра-Венгрыяй.

А калі чытаеш якую-небудзь працу некаторых “дыпламаваных” гісторыкаў, накшталт таго, што на нашыя землі каля 1500 гадоў таму прыйшлі славяне з Балкан і асімілявалі тутэйшых балтаў, то, прызнацца, на душы становіцца маркотна. Якая вучонасьць у нашых гісторыкаў!?

А працэс-то асіміляцыі якраз ішоў наадварот. Аб гэтым сведчаць гістарычныя даведкі аб **перасяленьні народаў** (кніга Буданавай В.П. *“Готы ў эпоху Вялікага перасяленьня народаў”,* М.1990), якія тлумачаць, што:

У 70-х гадах 4-га ст. (заўважце: каля 1500 гадоў) з Прыуральля і Паволжа пачалася масавая міграцыя гунаў – качэўнікаў цюрскаіранскіх і ўграфінскіх плямён на захад. Яны пацясьнілі сарматаў і аланаў на захад, а балтаў зь вярхоўяў Волгі – к берагам Сьвеўскага мора, дзе разьмяшчаліся вянеды. Адбыўся звычайны працэс асіміляцыі балтамі тутэйшага племені. Вялікая колькасьць вянедаў была вымушана рушыць на захад. Яны дайшлі аж да Пелапанеса на Балканах, дзе і расьсяліліся на тэрыторыі ад берагоў Эўкінскага понта (Чорнага мора) і Эгейскага мора да Адрыятыкі, ствараючы ў 5-7ст. новыя свае пасяленьні, у тым ліку і Вянецыю, назва якой, як бачым, паходзіць ад назвы племені вянедаў. Гэтыя перасяленьні суправаджаліся бітвамі (важнейшыя зь іх: бітва каля Адрыянопаля /сучасны Эдырне на Балканах/ ў 378, бітва на Каталаунскіх палях 451 у Галіі на берагах Сены і др). Яны і пасадзейнічалі распаду Рымскай імперыі – з аднаго боку, а з другога – ўтварэньню Візантыі.

Менавіта зь **вянедаў** сталі выдзяляцца **славяне** (як спалучэньне прыстаўкі **сла** /пераклад з лаціны азначае “выхад”/ + **вяне**ды) з прызнакамі мясьцін іх пасяленьня:

крывічы, дрыгавічы, радзімічы, драўляне, паляне, валыняне, вяцічы, славакі, славены, харваты, яцьвягі і др. Тыя вянеды, што пражывалі на берагах рэк і гандлявалі з варагамі, якія плылі па рэкам да грэкаў, займелі ад іх назву "**літвены**"= **літ** /пераклад з лаціны "берег"/ +**"венеды".** Таму–прарадзімай ліцьвінаў можна па праву лічыць была **ВЯНЕДЫЯ.** А яе пераемніцай на нашых землях па праву стала **ЛІТВАНІЯ**, назва якой захавалася ў аналах гісторыі.

Пацьвярджэньнем прынятай думкі з'яўляецца меркаваньне Паўла **Урбана** (гл. кнігу *"Старажытныя ліцьвіны: мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць"*). Ён даказвае, што арэал славян (тоесна: *ліцьвінаў* – ММ) распасьціраецца ад Адрыятыкі паласой ад Рудных гор да вярхоўяў Акі і што насяляўшых нашыя землі славян (выхадцаў зь вянедаў) называлі "***ліцьвінамі***" і іх суседзі – рускія, украінцы, мазуры, палякі, жамойты і інш.народы. І гэта зусім не супадае з думкай аўтара артыкула *"Па сьлядах літвы"* (чытай *"Наша СЛОВА"* за ліпень-верасень 2007). Дасьледчык гісторыі Ззьдзіслаў **Сіцька** сцьвярджае, што *"літва"*, гэта не нацыя, а сацыяльны статус ваяроў, якіх нібыта наймалі на вайсковую службу. На мой погляд, такая думка – памылковая. *Крыжакі* ці *янычары,* якіх наймалі на службу, таксама насілі статус ваяроў. Аднак яны не сталі нацыяй і не стварылі дзяржавы іх імені.

Але размываньне ўсяго нацыянальнага адбываецца не толькі кан'юнктурна, але і рэжымна – з пазіцыі асімілятара. І гэта – вельмі страшна, бо пры такіх адносінах да сваіх нацыянальных сімвалаў, да роднай мовы, мы страчваем і сваю сутнасьць. Вось чаму наш вядомы суайчыньнік, прафесар Леанід **Лыч** мае рацыю сказаць аб валоданьні мовай нашым памяркоўным, цярплівым народам, загнанага цемрашаламі ў кабальныя ўмовы жыцьця: *"Справа дайшла да таго, што ў асноўнай масе карэннае насельніцтва ўжо адлучана ад роднай мовы і ў значнай ступені – ад нацыянальнай культуры, за выняткам яе фальклорных пластоў. Спрэс, ня толькі ў афіцыйным, але*

*і ў прыватным жыцьці, пануюць руская культура і мова, якім адпавядае і дзейнасьць галоўнай у краіне хрысьціянскай канфесіі – праваслаўнай”.* (“Народная Воля” 4.01.2007). І ім ставіцца пытаньне: *“Ці можна ў такой сытуацыі беларусаў называць паўнавартаснай, класічнай нацыяй”.* І даецца адказ: *“Вядома, не, бо не адбываецца іх самасцьвярджэньня праз выкарыстаньне ўласнага нацыянальна-духоўнага матэрыялу”.* І аўтар з крыкам у душы перасьцярагае народ: *“...ратуймася ж усёй грамадой ад такой злыбяды!”* Як і ў Фр. Багушэвіча: *“Не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб не ўмёрлі!”* І сапраўды, трэба крычаць: **Караул! Нацыя гіне!**

І не без засмучаньня чуецца папярэджваньне патрыётаў радзімы да ўсіх тых, хто ўжо згубіўся ў асяродку русізма (г. зн. нахабства – чытай у перакладзе з лаціны: русін – *“нахабны, грубы”*) і страціў твар ужо міфічнай (беларускай) нацыі. Асабліва гэта тычыцца здраднага чынавенства, якое сёньня выгінаецца перад псеўдаўладарамі – ліквідатарамі нацыянальнага зьвязу за адраджэньне нацыі: *“пасьля ліквівідацыі нацыянальнага школьніцтва, роднай мовы і нашай незалежнай дзяржавы ліквідатары маюць намер ліквідаваць і беларускае чынавенства, і беларускіх спэцыялістаў, бо яны – “акасьцянелыя і старыя”* (Янка **Базыль).** Яны проста стануць адпрацаваным прадуктам. Гатоўцеся, здраднікі Адраджэньня да пакараньня! Ганьба вам! Вас чакае сьвятая кара – праклён нашчадкаў, бо адказам на *“паўзучую акупацыю нашай краіны”* імперскашавіністычнай ідэалогіі *западнорусизма,* якая падмацоўваецца і накіроўваецца праваслаўнай царквой Маскоўскай (рускай) патрыярхіі, становіцца **нацыянальная салідарнасьць сьвядомых мас.**

Важна ведаць, што запазычваючы чужую мову, мы прыпадабняемся халуям. І я вельмі згодны з аўтарам артыкула: *“Адновім краіну – адновім і імя яе”.* (Гл. “Народную Волю” за 18 01 2007). Алесь **Заранок**, даючы водгук на артыкул Э.**Тобіна,** катэгарычна заяўляе: *“Нель-*

*га, каб то адна, то другая краіна рабіла сябе гаспадаром нашага лёсу. Спадкаемцам патрыятычнай справы продкаў, лічу, наканавана ў будучым аднавіць спрадвечную назву нашай гістарычнай дзяржавы… Але гэта – справа будучага, калі ў нашай краіне будзе ўладарыць… мова тытульнай нацыі".*

Нельга не згадзіцца і з аўтарам артыкула: *"Гібель Літвы",* які быў апублікаваны ў газеце "Народная Воля" (гл. №№ 167-170 за 6-7 лістапада 2008). Сапраўдны *"спадкаемца патрыятычнай справы"* па адраджэньню нашай нацыі і яе гістарычнай спадчыны Вадзім **Растоў** у сваёй працы прыводзіць пераканаўчыя довады двухвекавога генацыда нацыі ліцьвінаў (так называўся наш народ да 1840 года) сапраўдным яе душыцелем, назва якому "*рускі*" (а на самай справе – татара-угра-фінскі) імперска-шавіністычна-ардынскі дух. Аўтар, спасылаючыся на аўтарытэт пісьменьніка і публіцыста Канстанціна Паўстоўскага (ўражвае яго яскравае выслоўе: *"Сапраўдная любоў да сваёй Айчыны немагчыма без любові да сваёй мовы. Чалавек, які раўнадушны да сваёй мовы,– дзікун"*) робіць каштоўнае суджэньне:*"Ўсё пачынаецца з сваёй мовы, і нежаданьне размаўляць на ёй – прывітае некалі зьверху – азначае нулявую карыснасьць чалавека як грамадзяніна, бо без усьведамленьня каштоўнасьці мовы – няма усьведамленьня каштоўнасьці сваёй нацыі і сваёй краіны. Раўнадушша да мовы азначае раўнадушша да мінулага свайго народа – а значыць, і да яго будучыні. Менавіта гэта у нас стварала канцэпцыя "западнорусизма", выпустошваючы ўсё наша нацыянальнае".*

Менавіта *"брацкая рука помачы рускага народа"*, рэжымна ўкаранёная гэтай канцэпцыяй са школьнай лаўкі ва ўсьведамленьне народных мас і якою сёньня прагматычна прыкрываюцца асімілятары *"русізма",* каб апраўдаць свае шавіністычныя планы па закабаленьню нашага народа, і прывяла назву нацыі нашых продкаў да забыцьця. А калі няма імені нацыі, то няма і назвы

радзімы, якая апрыёры вінна насіць імя народа. А калі ж не будзе роднай мовы, то не будзе і дзяржавы. Таму – галоўнай мэтай адраджэнскага руху з’яўляецца справа па адраджэньню гістарычнай памяці, справа выратаваньня нашага народа ад закабаленьня яго духа *”русізмам”*. Форма дзейства гэтай справы:

**дабіцца *“Правоў дзеля таго,***
***каб карыстацца Свабодай!”***

Менавіта так сцьвярдзіў канцлер Леў **Сапега** ў Статуце ВКЛ 1588 – самай паўнавартаснай кнізе аб найсьвятлейшым жыцьці нашага народа. І яе мы можам зьдзейсьніць толькі тады, калі наш народ будзе размаўляць на роднай мове. Як кажа Народны паэт Ніл **Гілевіч** у сваім вершы:

*”Родная мова! Ты воч не расі!*
*Лёс твой –* ***Свабода.***
*Іменна ты незалежнасьць дасі*
*Духу народа”.*

Дык будзем жа, дарагія суайчыньнікі, выконваць наказы і памкненьні Улад-ра Арлова, Натальлі Арсеньневай, Радаслава Астроўскага, Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Ларысы Геніюш, Ніла Гілевіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вольгі Іпатавай, Улад-ра Караткевіча, Аляксея Караля, Кастуся Каліноўскага, Тадэвуша Касьцюшкі, Барыса Кіта, Улад-ра Коласа, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Расьціслава Лапіцкага, Вацлава Ластоўскага, Леаніда Лыча, Аляксея Марачкіна, Адама Мальдзіса, Анатоля Майсені, Улад-ра Някляева, Зянона Пазьняка, Алеся Пашкевіча, Льва Сапегі, Паўла Севярынца, Вячаслава Сіўчыка, Аркадзя Смоліча, Васіля Супруна, Анатоля Сыса, Анатоля Сідарэвіча, Іосіфа Сярэдзіча, Анатоля Тараса, Алега Трусава, Аляксандара Уласава, Адама Фалькоўскага, Цёткі, Яна Чачота, Васіля Якавенкі і сотні тысяч другіх змагароў за Свабоду і незалежнасьць Айчыны, каб адрадзіць **Дух нацыі**, яе **гістарычную спадчыну і нацыянальную памяць**.

Лістапад 2008

# ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

да паэмы “**СЬВЕТ ПЕРАМОГІ**”

Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага **Альгерд** (1296-1377, годы праўленьня 1345-1377) – ліцьвін паганскай (старай) веры, быў старшым сынам Вялікага князя ВКЛ Гедзіміна /1275-1341/ ад яго першай жонкі Вольгі праваслаўнай веры, у гонар якой і назвалі сына Волігордам па паганскаму звычаю. Ад Вольгі князь меў яшчэ Кейстута /1298 1382/. Астатніх пяцярых сыноў яму нарадзіла другая жонка Еўна: Нарымунт Глеб – правіў у Ноўгарадзе, а затым у Піньску; Карыят Міхаіл – правіў у Наваградку; Любарт – на Валыні; Манівід – у Кернаве і Слоніме; Яўнут – у Ашмянах, Браславе і Вількаміры. Альгерд ад бацькі атрымаў Нальшчаны і Крэва (цяпер – смаргоньшчына), а пасьля сьмерці цесьця Яраслава стаў княжыць і ў Віцьбеску. Кейстут правіў у Трокскім княстве, у склад якога ўваходзілі Жмуйдзія і Аўкштоты (тэрыторыя сучаснай Летувы без Віленшчыны), а таксама Гарадзенская і Берасьцейская землі.

Пасьля сьмерці Гедзіміна вялікакняжацкі пасад і Вільню па завяшчаньню атрымаў яго малодшы сын Яўнут (годы праўленьня 1341-45). Але з гэтым рашэньнем не згодны былі яго старэйшыя сыны. І, пасьля сьмерці Еўны, Кейстут у зговары з Альгердам зьняволіў Яўнута з пасады Вярхоўнага князя і заключыў яго пад стражу (пазьней Альгерд яго вызваліў), а ўладу перадаў Альгерду як старэйшаму і больш вопытнаму ў дзяржаўных справах. Ім абодвум і выпаў лёс трымаць уладу ў вялікай дзяржаве і памнажаць яе славу: Кейстут правіў самастойна ў Трокскім княстве, а Альгерд – на астатняй тэрыторыі ВКЛ: Віленшчына, Наваградчына, Меншчына, Смаленшчына, Случчына, Заслаўшчына, Полаччына, Браслаўшчына, Нальшчаны, Палесьсе, Рагачоўшчына, Пскоўшчына, Валынь і Наўгародчына. З 1359г. пад яго ўладай стала Браншчына, а з 1362г. – Кіеўшчына і Чарнігаўшчына.

У начальны перыяд свайго княжаньня Альгерд не меў поўнай улады над сваім народам паганскай веры, каб воляй Вярхоўнай улады можна было прымусіць народ прыняць хрысьціянства, як таго дамагалася духавенства. Пры гэтым нашаму народу (ліцьвінам паганскай веры) з усходу насаджалася праваслаўная вера, якая распаўсюджвалася зь Візантыйскай імперыі з цэнтрам у Канстанцінопалі і якою былі ахоплены землі Кіеўскай і ўсёй паўночна-ўсходняй Русі з цэнтрам агульнарускай праваслаўнай мітрапаліі (з 1326г.) у Маскве, а з захаду – каталіцкая, якая кіруецца тэаккратычнай дзяржавай – ***Ватыканам*** на чале з папам рымскім і якою былі ахоплены землі Польшчы.

На гэтым гістарычным пераломе веравызнаньня і находзіцца наш край да сучаснага часу. Ён і пакінуў глыбокі сьлед на лёсе нашага краю з пакутамі і генацыдам нацыі і нават са зьнішчэньнем назвы самой дзяржавы. Асабліва гэтая зьява праявілася з распадам Рэчы Паспалітай у 1795г. Па загаду Кацярыны ІІ-й ВКЛ была падзелена на два гаспадарствы: адно – з назвай *“Літва”*– на яе заходніх землях, другое – з назвай *“Белая Русь”* – на ўсходніх (назоў *“Літванія”* ўжываць забаранялася). Назву *“Белая”* далі таму, каб гэтай назвай на слух ”прылашчыць” народ і прыблізіць такім чынам яго землі да Русі, а затым і зусім зьнішчыць этнічную назву народа і край увогуле..

І сапраўды, ў 1839г. расейская ўлада на тэрыторыі краю ліквідавала каталіцкую царкву – на заходняй яе частцы, а грэцка-каталіцкую (т.н. *уніяцтва* – каталіцкую царкву ўсходняга абраду) – на ўсходняй, а вернікаў яе зьнішчалі ці насільна прымушалі перахадзіць да рускай праваслаўнай царквы. Адначасова было забаронена ўжываць як *“беларускую”* (ліцьвінскую) мову, на якой размаўляў “тутэйшы” народ, так і назву самой краіны, якую з гэтага часу сталі называць *“Паўночна-Заходнім краем Расеі”*. Перыяд ад 1839г. да руска-японскай вайны 1904-05г. быў адзін з найжахлівейшых у гісторыі роднага

краю. Таго, хто адважваўся публікавацца на роднай мове, чакала царская кара: шыбеніца ці ссылка ў Сібір. Аднак вернемся да часоў праўленьня Альгерда.

Вось і ў саракавых гадах 14-га ст. паганскія жрацы ўчынілі суд над баярамі за прапаведаваньне хрысьціянства ў Вільні. Верныя свайму ўладару баяры Круглец, Кумец і Няжыла паплаціліся сваім жыцьцём за яго ўвядзеньне. І князь не мог спыніць у той час над імі расправу, бо надта сьвежай паўставала ў памяці расправа сьвятароў паганскай веры над яго бацькам. Калі ў 1341г. Гедымін пажадаў ахрысьціць народ і для гэтай мэты запрасіў да сябе 10 сьвятароў-хрысьціян з Чэхіі, то свае сьвятары ў знак нязгоды зь ім яго ж і атруцілі. Але праз некаторы час ужо за глумленьне над сямёрамі каталіцкімі манахамі ў Вільні князь сурова пакараў зачыншчыкаў. Гэтага патрабаваў час, каб паказаць народу сваю магутнасьць – веліч улады Вярхоўнага князя ВКЛ.

І ўсё ж як ні стараўся Альгерд дагадзіць духавенству, прычыняючы часам пакуты свайму народу, тым не менш дзіўна, што ён быў пахаваны па паганскаму звычаю: яго цела спалілі на вогнішчы, а прах пахавалі ў пабудаванай ім царкве Прысьвятой Божай Маці ў Вільні.

У сваім нялёгкім, але зьмястоўным велічным жыцьці Альгерд праводзіў палітыку аб’яднаньня этнічных зямель у адзіную моцную дзяржаву Літванія, назву якой прыняў яшчэ Мяндоўг з блаславеньня рымскага папы Інацэнта 1У у 1253г., дбаньне аб належным жыцьці народа як на сваёй вотчыне, так і ў суседніх княствах.

Яшчэ ў начале свайго княжаньня пад яго зьверхнасьцю дружыны сыноў князя Карыята – Аляксандара, Канстанціна, Хведара і Юрыя (Міхаіл Карыят даў сваім сынам адметнае выхаваньне і ў воінскай справе) вызвалілі Малае Падольле ад ардынскага ярма. Але пад ганебным цяжарам ардыншчыны стагодзьдзямі знаходзіліся яшчэ землі Паволжа, Пабужжа, Сярэдняга і Ніжняга Паднявроўя і Ніжняга Паднястроўя. Князі Вялікага княства

Ўладзімірскага і Кіеўскай Русі нязьменна зьвярталіся да ВКЛ за помаччу. Трэ было толькі выбраць момант. І вось гэты гістарычны час настаў.

Калі ў 1359г. памёр Вярхоўны правіцель Залатой Арды хан Бардзібек, то началіся за ўладу жорсткія спрэчкі. За 3 гады чатыры разы мяняліся ўладары ў Сараі, што падрывала яе моц . Крымская (хан Кутлубей), Перакопская (хан Кіцібей) і Ямблукская (хан Дзяметр-Салтан) орды, пад уладай якіх находзіліся паўднёва-ўсходнія землі Русі, пазбавіліся дапамогі цэнтральнай улады. І Альгерд рашыў скарыстаць гэту акалічнасьць. Крыжакі ў гэты час не так страшна пагражалі краю – іх націск стрымліваў Кейстут са сваім войскам. З захаду ад палякаў стрымліваў націск яго браценік Любарт.

У паход на *"Дзікае поле"* з Альгердам адправілася войска не толькі зь яго вотчыны – Вільні, Віцьбеска і Нальшчан. Тут таксама былі дружыны Андрэя Полацькага, Міхаіла Заслаўскага, Патрыкія Нарымунтавіча Піньскага і братоў Карыятавічаў (Аляксандара, Канстанціна, Хведара і Юрыя) з Наваградчыны. Непасрэдны ўдзел тут прымалі і харугвы бранскія, гомельскія, тураўскія, а таксама дружыны зь Кіева, Меньска, Мсьціслаўля, Смаленска, Слуцка, Чарнігава, Падольля і Валыні.

Усё войска было разшыхавана на 6 гуфаў (палкоў) і расстаўлена на Уланавым полі ў выглядзе *"падковы"*. Па цэнтру пад камандаваньнем яго сына Андрэя мацаваліся кушы (машыны-самастрэлы), зь якіх кідаліся камяні і металічныя шрубкі. Зь левага фланга аб'яднанымі дружынамі ўпраўляў Уладзімер, які к гэтаму часу ўжо стаў князем Кіеўскім. З правага фланга былі пастаўлены дружыны братоў Карыятавічаў, якія ўжо мелі вопыт змаганьня ў падобных супрацьстаяньнях. Перад імі ставілася задача: манеўрамі коньніцы вытрымаць *"танцы"* (наскокі) татар, а затым, парушаючы іх флангавы строй, загнаць яго загоны ў *"мяшок"* і аб'яднанымі сіламі прымусіць здацца.

Пачэсную і адказную справу, якая садзейнічала ратнаму посьпеху, зьдзейсьнілі збройнікі, якія адзелі воінства ў баявыя дасьпехі – латы, шчыты, шаломы – і забясьпечылі войска зброяй – кушамі, лукамі, стрэламі, дзідамі і мячамі.

Першымі прынялі бой войскі князя Уладзімера. Татары, пасьля няўдалай атакі на яго пазіцыі з ходу, паспрабавалі зайсьці ім з тылу. Але і там ім быў дадзены моцны адпор. Тады татары ўдарылі па другому флангу, якім упраўлялі браты Карыятавічы. І тут іх атака не ўвянчалася посьпехам. Не дала посьпеху і спроба іх прабіцца клінам пасярэдзіне фронту. Чорным воблакам ляцелі стрэлы татар на пазіцыі Альгерда. Але воінаў уратоўвалі іх дасьпехі (шчыты і шаломы), якія сталі ім полагам – варожыя стрэлы воінам ня надта шкодзілі. А шрубкі і камяні, пушчаныя з кушаў воінствам Альгерда, эфектна спраўджвалі мэту – вострыя кромкі лёгка пранікалі праз тонкую адзежу баскака і пазбаўлялі яго жыцьця. І тут не ўдалося татарам раздзяліць фронт. Больш таго: палкі правай і левай рукі насядалі на войска татар з бакоў і, парушаючы іх строй, сталі зажымаць у ціскі.

Бой разгараўся і дасягаў сваёй кульмінацыі. Паветра поўнілася гулам стрэл і звонам мячэй. У жывы клубок сьпляліся коні і людзі. Са звонам і сьвістам сутыкнуліся клінкі татарскія зь мячамі ліцьвінскімі. Гукі і стогны зьліваліся ў безупынны гул. Скора на полі бітвы загінулі ўсе тры царыка татарскага войска. Аднаго зь іх – хана Кіцібея Альгерд загубіў у асабістай схватцы. Вайсковыя рады праціўніка, нарэшце, былі нарушаны. Застаўшыся без сваіх важакоў, баскакі станавіліся лёгкай здабычай добра абучаных воінаў Альгерда. Не бачачы выхаду з становішча татары падаліся наўцёкі. Іх гналі, знішчаючы ў схватках, аж да самага Чорнага мора. Пасьля гэтай паразы татары доўга не маглі аправіцца.

Перамога Альгерда на Сініх Водах дала магчымасьць вызваліць землі Паднястроўя, Пабужжа і Паўднёвага Падняпроўя ад татарскай няволі. З гэтага часу Альгерд пашырыў межы свайго кіраваньня і дзяржава займела назву у нашай гістарыяграфіі як **Вялікае княства Літоўскае** і **Рускае**, а сам Альгерд займеў назву Вялікі князь Літоўскі і Рускі. У тыя часы рускімі іменаваліся землі Украіны (Валынь, Падольле, а таксама Белзскае, Кіеўскае, Львоўскае, Чарнігаўскае і Хелмскае княствы ). Гэтая назва мабыць дасталася ад назвы старажытнай Кіеўскай Русі. Яно існавала аж да 1569г., калі згодна Люблінскай уніі ў сувязі з аб'яднаньем ВКЛ з Польшчай у **Рэч Паспалітую,** каб даць адпор маскалям у Лівонскай вайне 1588-83, ўся Украіна і Падлясьсе адышлі да Польшчы. З гэтага часу тэрыторыя Польшчы і Украіны займела назву Польская Карона. Назва **Рускае** ў дачыненьні да ВКЛ з гэтага часу страцілася.

Перамога на Сініх Водах садзейнічала дальнейшаму вызваленьню паняволеных славянскіх народаў ад чужаземнага ярма, натхніла нашы народы на перамогі ў баях над татарамі на Вожы /1378/, Куліковым полі /1380/ і пад Клецкам /1506/, над крыжакамі пад Грунвальдам /1410/, над маскалямі пад Воршай /1514/ і г.д. І сёньня вячысты сьвет перамогі Альгерда на Сініх Водах паўстае *"сьвятлянай славай"* над краем сваіх продкаў.

Час услаўленьня геранчных подзьвігаў нашых продкаў настаў.

Лістапад 2007

---

Даведка напісана па матэрыялам кніг: Мікола **Ўлашчык** "Летапісы і хронікі Беларусі" (ARCHE-Пачатак, 2010, стар. 447-448); Вітаўт **Чаропка** "Імя ў летапісе" (Мінск, 1994, стар. 230-233); Вольга **Іпатава** "Альгердава дзіда" (Мінск, 2002, стар. 481-607); публікацыі з газет "**Народная Воля**" ад 27 верасьня 2007г. і "**Наша Слова**" ад 17-24 кастрычніка 2007г.

# КАМЭНТАРЫІ

**Стар**. 6 і 29. * Эмблема **“Пагоня”–** сьвятыня нашай нацыі, якая была прынята ў 1296г. Вялікім князем ВКЛ **Віценем** у якасьці дзяржаўнага герба краіны. Гэта – выява коньніка-збройніка, тоесная віцязю пагоні, якая мелася на пячаццы ў князя Мяндоўга. Яна азначае: выгнаньне ворага *“рыцарам-збройнікам”,* у якім увасабляецца бог-вершнік лікам сьвятога Меркурыя Смаленскага на белым /колер Свабоды/ вешчым кані зь мячом і шчытом, на якім зьмешчана выраза шасьціканцовага крыжа Ярылы /божаства сонца, тут ён ідэнтыфікуецца з крыжам **Еўфрасіньні** Полацкай/. Вертыкальны луч /медыятар/ крыжа сімвалізуе коньніка, атаясамляючы яго зь люцкім сьветам, які апякае коньніка і находзіцца паміж сьветам продкаў /ніжні луч/ і нябесным сьветам /верхні луч/, злучаючы іх як сусьветнае дрэва. Коньнік /віцязь пагоні/ з’яўляецца як бы носьбітам жыцьця /сярэдні сьвет/, заступнікам Свабоды /верхні сьвет/ і традыцый спадчыны /ніжні сьвет/. (Кніга Вітаўта Чаропкі “*Імя ў летапісе*”, Мінск, 1994, стар 168-169).

**Стар** 6.* **Эталон** сімвала нашай нацыі – **бел-чырвона-белы Сьцяг –** быў створаны па эскізу палітычнага дзеяча Клаўдзія **Дуж-Душэўскага** (1891-1959). Упершыню наш Сьцяг залунаў увесну 1917 года ў Пецярбургу на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, супрацоўнікам якога з 1916 па 1918 год працаваў аўтар. У Менску ён з’явіўся 12 сакавіка 1917. У гэты дзень паўсюль можна было бачыць белчырвона-белыя сьцяжкі, значкі і кукарды. Тут праводзілася масавае сьвята – **Дзень беларускага значка**. Упершыню ў Беларусі нацыянальны Сьцяг залунаў 19 лютага 1918года на будынку былога губернатарскага палаца, дзе засядаў Народны сакратарыят (цяпер – музычная школа пры Кансерваторыі на Пляцы Свабоды). Бел-чырвона-белы колер Сьцяга, як пісаў гісторык Вацлаў Ластоўскі *“прыгадвае нам нашую белую сьвітку з чырвоным паясом”*. (газ.“Наша Ніва” ад 4 сакавіка 2009)

**Стар**. 20. * **Чало з’язджае** – па колькасьці суіцыдаў (2007г.**:** 36,8 на 100 тыс. чал.) Беларусь займае адно зь першых месц у сьвеце (газ. ”Наша Ніва” за 24.07.2008).

**Стар**. 22. * Пад псеўдонімам *“**Яська** – гаспадар з-пад Вільні”* **К. Каліноўскі** выдаваў газэту *“Мужыцкая праўда”* на простанароднай мове, на старонках якой раз’ясьнялася ідэя сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня народа ад царскага прыгнёту.

**Стар**. 24. * Наглядным прыкладам доказу тэзы **Аляксея Каўкі –** філолага і гісторыка, правазнаўца адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці з'яўляецца факт выбару ўласнай нацыянальнасьці братамі знакамітага вучонага, аўтара першага буквара роднай мовы, аднаго зь піянераў руху за адраджэньне нацыі і дзяржаўную незалежнасьць Вацлава Іваноўскага /1880-1943/, якія *"не адмаўлялі культурнай польскасьці сям'і, але адкідалі польскую нацыянальную сьвядомасць, як не адпаведную іх паходжаньню... Яны здавалі сабе справу зь няпольскага паходжаньня сваіх продкаў, з таго, што яны былі ліцьвінамі ў гістарычным сэнсе"* (Ю.Туронак*"Мадэрная гісторыя Беларусі"*, Вільня, 2006, стар.152-153). У адпаведнасьці са сваёй сьвядомасьцю Юры і Станіслаў называлі сябе палякамі, Тадэвуш стаў літоўцам, а сам Вацлаў, як вядома, называў сябе беларусам. Бацька гэтага многанацыянальнага сямейства Леанард – правадзейны дзяржаўны раднік, нягледзячы на польскае выхоўваньне, называў сябе ліцьвінам. Вось як бязьлікасьць нацыі можа прывесьці да нацыянальнага разброду ў адной сям'і.

**Стар.** 25. * "**Русін"** – пераклад з лаціны: *"сельскі, правінцыйны, грубы, неабчасаны, нахабны"*. Як бачым, гэтае слова – прызнак сацыяльнага паходжаньня, а не назва нацыі. Паходзіць гэтае слова ад фінскага "**ruotsi**" (весляры), якім называліся рабаўнічыя атрады скандынаўскіх варагаў, што прыйшлі на тутэйшыя землі, каб кантраляваць гандаль на шлягу "з варагаў у грэкі", а затым і узначалілі утварэньне Кіеўскай дзяржавы, т.н. Кіеўскай Русі.

**Стар**. 26. * **Маны падлік** – Я, як назіральнік на выбарчым участку, зафіксаваў наступныя парушэньні: ў скрыні датэрміновага галасаваньня **(здрадная скрынка**) замест 880 бюлетэняў аказалася 1250; у спіску выбаршчыкаў было каля 2500 чалавек, а ў справаздачы – сталася 2100; на выбарах прынялі ўдзел толькі 1680 чал. – гэта 2/3 (67.2%) ад усіх выбаршчыкаў, а ў справаздачы іх аказалася 2050 (97,6%). Трэба адзначыць, што выбаршчыкі на участак заганяліся сілай. Так здабывалася ***"элегантная"*** **перамога**, якую сам кіраўнік затым прызнаў сфальсіфікаванай.

**Стар**. 29. * **Рэч Паспалітая –** назва агульнай дзяржавы *"двух народаў"* – ліцьвінаў і палякаў, якіх зьвязваў супольны лёс і супольная гістарычная спадчына як у гады яе існаваньня ад Люблінскай уніі 1569 да канчатковага яе падзелу ў 1795г., так і ў гады рэакцый. Дзякуючы гэтаму саюзу, нягледзячы на імперскія амбіцыі, наша нацыя змагла захаваць сваю вартасьць.

**Стар**. 29. * **Юзаф Пілсудзкі (**1867-1935) – дзяржаўны і ваенны дзеяч, лідэр руху за аднаўленьне польскай дзяржаўнасьці ў пачатку 20-га ст., Маршал Польшчы.

**Стар**. 30. * **Ежы Гедройц –** наш суайчыньнік (паляк па паходжаньню, 1906-2000, заснавальнік літаратурнага Інстытута ў Рыме ў 1946г., а з 1947г.– каля Парыжа), які на працягу паўстагодзьдзя (1947-2000) выдаваў і рэдагаваў часопіс *“Культура”,* на старонках якога асьвятлялася бачаньне ўсходняй палітыкі з усіх бакоў /правых і левых/, як бы таямніча ці яўна, у залежнасьці ад сытуацыі і патрабаваньняў часу, кіруючы сімвалічнай Рэчы Паспалітай чатырох народаў: Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Часопіс застаўся бясцэннай школай дэмакратыі і ўвасабленьнем ідэалаў вольнасьці слова і думкі ў найноўшай гісторыі. У гонар заслуг змагара за Свабоду перад народамі сьвету ўладай Польшчы 2006 год быў абвешчаны годам Ежы Гедройца. На Беларусі заслугі суайчыньніка, як і многіх другіх змагароў за Свабоду Айчыны, уладай не адзначаюцца.

**Стар**. 31. * **Рагнеда** ў 10-м ст. заклала першыя пісьмёны нашых продкаў /вянедаў/ на пергамент. Асьветніцкую справу прадоўжылі князь Ізьяслаў /11 ст./ і князёўна **Прадаслава** /Еўфрасіньня Полацкая, 1102-67/, а **Кірыла Тураўскі** /1130-82/ – царкоўны дзеяч і пісьменьнік – надаў ёй жыцьцёвае асэнсаваньне.

**Стар**. 31. * **Міндоўг** /1195-1263/ – заснавальнік і першы Вялікі князь /першы і апошні кароль/ наваствoранай дзяржавы, якая займела назву **Літванія.** /Падрабязная інфармацыя – у эсэ “*Наша прарадзіма і яе лёс*” на стар. 115/.

**Стар**. 32. * **Рада** – орган мясцовага і дзяржаўнага самакіраваньня, якое мела унівэрсальны характар, г.зн. трактавала і выконвала розныя віды праваадносін, у т.л. і аб’яднаньні зямель, якое ў той час насіла першараднае значэньне, як абарона краю ад іншаземнага захопу.

**Стар**. 32. * **Віцень** /? – 1316/ – Вялікі князь ВКЛ /1293-1316/, у 1296 годзе ўзгадніў герб “**Пагоня**”– нацыянальную сьвятыню дзяржавы. (Падрабязна чытай пра герб на стар. 146).

**Стар**. 32. * Князь ВКЛ **Альгерд** /1296-1377/ заняў пасад Вялікага князя са спагады брата Кейстута. За час яго княжаньня тэрыторыя ВКЛ павялічылася больш, чым удвая. (Пра яго веліч чытай гістарычную даведку да балады “*Сьвет перамогі* ” на стар.125).

**Стар**. 32. * Велічны вобраз Вялікага князя **Віта (Вітаўта** /1350-1430/ як таленавітага валадара, які клапаціўся пра чысьціню

нораваў людзей), стварыў паэт-гуманіст Мікола **Гусоўскі** /1470-1533/ узьнёслай патрыятычнай *“Песьняй пра зубра”,* у якой апяваецца наш край і ліцьвінскі народ. А польскі храніст М.**Мяхоўскі** пра **Віта** напісаў: *“Князь вялікага сэрца і славы шырокай”.*

**Стар**. 32. * Вялікія гетманы ВКЛ Канстанцін **Астрожскі** /1460-1530/, Юрый **Радзівіл** /1480-1541/, Леў **Сапега** (1557-1633) Януш **Кішка** /1568-1654/ і др. адметна баранілі Айчыну ад нападу крыжакоў, маскалёў, турак, шведаў і крымскіх татар.

**Стар**. 32. * Творчая дзейнасьць ліцьвінскіх мысьліцеляў-гуманістаў і асьветнікаў 16-га стагодзьдзя /Мікалая **Гусоўскага і** Францішка **Скарыны/** сталі пралогам адраджэньня нацыі.

**Стар**. 33, * Сымон **Будны** /1530-93/ – дзеяч нацыянальнай культуры, гуманіст-асьветнік і рэфарматар адраджэньня нацыі. Як прадаўжальнік традыцый Скарыны, ён выступаў за роўнасьць перад законам усіх саслоўяў насельніцтва страны і за справядлівасьць правасудзьдзя, якое ў нашай краіне находзіцца ў загане.

**Стар**. 33, * Гуманіст-асьветнік Васіль **Цяпінскі** /1530-1600?/ у 1580г. заснаваў на сваёй вотчыне /Цяпіна ў Чашніцкім раёне/ друкарню, дзе публікаваў Праграмы ведаў, якія былі разлічаны на абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці народа шляхам удасканаленьня школьнай асьветы і замацаваньня роднай мовы.

**Стар**. 33. * Філосаф-рэфарматар Андрэй **Волан** /1530-1610/ у працах *“Пра палітычную, або грамадзянскую свабоду”, “Пра шчасьлівае жыцьцё* або *Найвышэйшае чалавечае дабро”* і інш. распрацаваў **канцэпцыю свабоды чалавека.**

**Стар**. 33. * **Статуты ВКЛ** 1529, 1566, 1588 – выдатныя помнікі ліцьвінскага пісьменства, якія замацавалі праўнае становішча нацыянальнай мовы як дзяржаўнай, падкрэсьліваючы высокую годнасьць і нацыянальную сьвядомасьць ліцьвіна, чаго нельга сказаць аб сучасным становішчы роднай мовы. У іх распрацоўцы прымалі ўдзел выдатныя дзеячы эпохі Рэнесанса: Францыск **Скарына** /1490-1555/, Мікалай **Радзівіл-**Чорны /1515-1565/, Леў **Сапега** /1557-1633/, Астафій **Валовіч** /1520-1587/ і др. А век Фр.Скарыны /16-е ст./ дасьледчыкі гісторыі называюць ***“залатым векам”*** нацыянальнага Адраджэньня – час росквіту навукі і культуры, а Мікалая **Радзівіла –** апосталам **Рэфармацыі.**

**Стар**. 33. * Наша краіна як ВКЛ, будучы раўнапраўнай часткай Рэчы Паспалітай згодна Люблінскай уніі 1569, неаднаразова (войны 1632-34, 1634-37, 1654-67 і др.) падвяргалася нападу войскамі Расеі. У бітвах за нашу незалежнасьць палякі прымалі

непасрэдны ўдзел. Толькі дзякуючы іх помачы мы захаваліся як нацыя. Матывам расейскай экспансіі была /і застаецца!/ шавіністычная канцэпцыя *“вызваленьня заходняй Русі”*(г.зн. нашых зямель) ад каталіцкага прыгнёту, які быццам зыходзіць ад ВКЛ у сувязі з аб’яднаньнем каталіцкай і праваслаўнай цэркваў згодна Берасьцейскай Уніі 1596. На падставе гэтай жа канцэпцыі Унія была скасавана царскім указам толькі ў 1839г. пасьля паразы Паўстаньня 1830-31, калі наша краіна ўжо была захоплена Расеяй пасьля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795г.

Унія 1596 на тэрыторыі ВКЛ была прадыктована гістарычнымі ўмовамі. Паколькі Канстанцінопаль з 1453г. знаходзіўся пад уладай туркаў, то такім цэнтрам на ўсходзе Еўропы на думку клерыкалаў Масковіі павінна была стаць Масква. І ў 1589г. Маскоўская мітраполія была абвешчана патрыярхіяй, якая дзейнічае і па сучасны час /з Сінодам у 1721-1917гг/. У гэтым статусе руская праваслаўная царква намагаецца падпарадкаваць сабе ўсе праваслаўныя мітраполіі незалежна ад таго, у складзе якой дзяржавы яна знаходзіцца. У першую чаргу гэта тычыцца праваслаўнай царквы нашай Айчыны на ўсходніх яе землях, дзе здаўна находзяцца пэўныя сілы, арыентаваныя на Маскву. Яны і сягоньня раздзіраюць сьвядомасьць нацыі на два полюсы. Тым не менш шчырыя патрыёты радзімы, як сьведчаць многія прыклады змаганьня за незалежнасьць, не хацелі і не жадаюць сёньня, каб край яе быў пазбаўлены. І несумненна Берасьцейская Унія адыграла вялікую ролю ў справе абароны краю ад імперскага ярма. Дух яднаньня абодвух народаў /палякаў і ліцьвінаў/ Рэчы Паспалітай паспрыяў выжываньню нашай нацыі, хаця імкненьне за незалежнасьць і каштавала нашаму народу велізарнейшых страт. У выніку гэтых войн наш край быў ушчэнт апустошаны, а больш за палову насельніцтва было вынішчана ці захоплена ў палон. Асабліва вялікі урон быў нанесены у т.н. “невядомай вайне 1654-67” (загінуў кожны другі) і Севернай вайне 1700-21 (загінуў кожны трэці)). У падручніках па *“Гісторыі Беларусі”* аб гэтым цьмяным перыядзе жыцьця нашага народа гаворыцца тлумна. Калі б не гэтыя войны з Расеяй, а затым і імперскае зьняволеньне краю пасьля падзелу ў 1795г. Рэчы Паспалітай і бальшавіцкі генацыд, які зьнішчыў каля 1,8 млн. чал., то ў нашай краіне пражывала бы больш за 35 мл. (чытай эсэ Вадзіма Дзеружынскага ”Потері белорусов: печальная демография” ў альм. “Деды”, вып.1, 2009, с.30; Юры Туронак “Мадэрная гісторыя Беларусі”, Вільня, 2006, с.681

**Стар**. 34. * **Сымон Полацкі** /1629-1680/ – рэлігійны і грамацкі дзеяч, настаўнік брацкай /рэлігійнай абшчыны/ школы, з часу вайны /1654-67/ стаў прыдворным паэтам расейскіх цароў: пісаў вершы ў духу панегірычнай паэзіі, па сутнасьці – здрадзіў нацыі.

Стар. 34. * Дух мецэнацтва, які быў распаўсюджаны сярод багатых магнатаў /асабліва вызначаліся прадстаўнікі роду **Алелькаў і Радзівілаў:** Юрый II Алелькавіч /1530-1578/ – апякун мастацтваў; Сафія III Юр'еўна Алелькавіч-Радзівіл /1585-1612/; Януш УІ Радзівіл /1579-1620/, па загаду якога ў Слуцку быў закладзены кальвінісцкі храм, і пры ім была адкрыта рэфармацкая гімназія, якая дала пачатак адкрыцьцю ў 1617г. Слуцкай гімназіі; Людвіка Караліна Радзівіл /1667-95/, якая рабіла ахвяраваньні цэрквам і для навучаньня ліцьвінаў ва ўнівэрсытэтах Кёнігсберга, Берліна, Оксфорда, Франкфурта-на-Одэры і г.д.

**Стар**. 34. * **Панятоўскі** Станіслаў /1732-98/ – "змоў аматар", кароль Польшчы і Вялікі князь ВКЛ, праводзіў грунтоўныя рэформы: пад яго ўзьдзеяньнем на 4-х-гадовым сойме /1788-92/ была прынята Канстытуцыя 3 траўня 1791 – самая дэмакратычная канстытуцыя сьвету пасьля ЗША і якая дзейнічае сёньня ў Полшчы з 1997г.

**Стар**. 34. * **Саюз** магнатаў Рэчы Паспалітай /Акт Таргавіцкай канфедэрацыі 1792/ быў створаны пры дапамозе Расеі з мэтай скасаваньня рэформ 1791. Гарадзенскі сойм 1793 пад уціскам царскага войска пры нямой згодзе дэпутатаў зацьвердзіў 2-гі падзел Рэчы /1-ы падзел адбыўся ў 1772г./, у выніку чаго большая частка тэрыторыі ВКЛ аказалася пад уладай Расеі. У будучым такая сытуацыя паўторыцца ў 1919г., калі была ліквідавана Беларуская Народная Рэспубліка, і 15.XI.1996г., калі пад узьдзеяньнем дарадцаў з Масквы шклоўскаму дэпутату Аляксдару Лукашэнку ўдалося разагнаць Вярхоўны Савет XII скліканьня і ажыцьцявіць у краіне пераварот, аб чым заявіў старшыня ВС Сямён Шарэцкі ("Народная Воля" ад 13.11.2008).

**Стар**. 34. * На тэрыторыі Рэчы Паспалітай у 1794г. успыхнула нацыянальна-вызваленчае Паўстаньне за аднаўленьне Канстытуцыі 1791 і наданьня свабоды краю (кіраўнікі Паўстаньня: **Тадэвуш Касьцюшка** /1746-1817/ – ураджэнец Брэстчыны, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, і **Якуб Ясінскі** /1761-94/ – ураджэнец Велікапольскага ваяводства). Паўстаньне, як вядома, было жорстка падаўлена войскамі А.Суворава, якому, аднак, як у насьмешку над нацыяй, аддаюцца почасьці ў нашай

краіне ў выглядзе назвы Сувораўскага вучылішча ці захаваньня яму помніка /якое дзікунства!/ у Кобрыне. Паранены Касьцюшка быў захоплены ў палон і зьняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасьць. Паражэньне паўстаньня прывяло да 3-га падзелу Рэчы ў 1795г., у выніку якога Польшча і ВКЛ страцілі сваю дзяржаўнасьць аж да 1918г. Уся тэрыторыя ВКЛ належала Расеі ў якасьці некалькіх губерняў Паўночна-Заходняга краю.

**Стар**. 34. * У Паўстаньні 1863-64 на тэрыторыі Рэчы старшынёй Літоўскага правінцыяльнага камітэту ў 1862г. быў прызначаны **Кастусь Каліноўскі** /1838-64/ – ураджэнец Беласточчыны, які ў выдаваемай ім газэце *“Мужыцкая праўда”* апублікаваў Маніфэст з лозунгамі: ***“Царскае іга – далоў!”, “Беларусі і Літве – самастойнасьць!”*** (У гэты час наша краіна насіла імя Беларусь, якое з 1839г. ўладамі ўжываць забаранялася). Паўстаньне было жорстка падаўлена, а Каліноўскі быў павешаны. Ён, ідучы на сьмерць, даваў народу наказ:*“Я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо ня будзе!”.* Гэтыя прарочыя словы спраўдзіліся: як сьведчыць гісторыя, перыяды з 1839г. да руска-японскай вайны 1904-05 і гады сталінскіх рэпрэсій 1924-53 (у дадатак да войнаў 1654-67 і 1700-21) былі самымі жахлівымі ў гісторыі нашага народа.

**Стар**. 35. * **Эмілія Плятэр** /1806г., Вільня-1831/ –фальклярыстка роднага краю, удзельніца Паўстаньня 1830-31, камандзір сфарміраванага ёю атрада на Гарадзеншчыне, затым ганаровы камандзір польскага войска. Яе імя ў гады Другой сусьветнай вайны насіў жаночы батальён 1-й пяхотнай дывізіі імя Касьцюшкі.

**Стар**. 35. * Міхал **Валовіч** /1805-33/ – нацыянальны герой Айчыны, адзін зь кіраўнікоў Паўстаньня 1830-31, які пасьля яго паразы рыхтаваў новае змаганьне, але царскімі віжамі ён быў высачаны і 21 ліпеня 1833 года ў Гародні – павешаны.

**Стар**. 35. * **Сябры навукі – У** 1817г. у сьценах Віленскага ўнівэрсытэта з мэтай абуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці мас было створана тайнае **таварыства філаматаў** (прэз.– **Юзаф Яжоўскі,** удзельнік вызваленчага руху на тэрыторыі ВКЛ, урадж. Украіны), а ў 1820г.– **Саюз філарэтаў** (прэз.–**Тамаш Зан**, урадж. Меншчыны, паэт-рамантык, удзельнік вызваленчага руху). Аднак ўладамі яны ў 1823г. былі раскрыты, а многія яго ўдзельнікі (Антон Адынец, Ануфрый Петрашкевіч, Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Ал-дар Ходзька і інш. былі падвергнуты ганеньням (выгнаны), а Ян Чачот, Тамаш Зан і Адам Сузін – асуджаны.

**Стар**. 36. * ***“Герой часу”***– У часы царскай заганы ідэі аб свабодзе асобы добра передае мастацкі метад – **рамантызм**, прыхільнікамі якога былі: **ў літаратуры –** Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Баршчэўскі, Юзаф Крашэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Ал-дар Рыпіньскі, Ануфрый Петрашкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Адэля з Устроні, Цётка, Ян Чачот, Янка Купала і інш.; **у жывапісі** – Іосіф Аляшкевіч, Ян Дамель, Валенцій Ваньковіч, Вінцэнт Дмахоўскі і інш.; **у музыцы –** Міхал Агінскі, Міхал Ельскі, Станіслаў Манюшка, Напалеон Орда і інш. Сімвалічны вобраз ***“героя часу”*** ў алегарычнай форме стаў прыкладам у дасягненьні мэты для абуджэньня мас.

**Стар**. 36. * **Прарокам** лёсу Адраджэньня з’яўляецца пясьняр народнага жыцьця **Фр.Багушэвіч** /1840-1900/, які своеасабліва ўлавіў жыцьцё народа і прадказаў лёс Айчыны. Яго запавет:*“Не пакідайце ж мовы нашай, беларускай, каб ня ўмёрлі!”* і сёньня гучыць набатам. Побач зь ім сталі піянер адраджэньня роднай мовы Вінц.Дунін-Марцінкевіч, песьняры Карусь Каганец (Каз. Кастравіцкі), Янка Купала, Якуб Колас, Янка Лучына /Неслухоўскі/ і другія паэты-адраджэнцы, творы якіх з 1906 года выдаваліся суполкай “*Загляне сонца і ў наша ваконца”* і публікаваліся на старонках газет *“Наша доля”* і *“Наша Ніва”* і якія заклікалі ***“зьмесьці навалы змрок”,*** рызыкуючы сваім жыцьцём.

**Стар**. 36. * ***“Гоман” –*** назва першага падпольнага часопіса, які выдаваўся ў Санкт-Пецярбургу студэнтамі-народавольцамі зь Беларусі з 1884г., на старонках якога вялася асьветніцкая работа па нацыянальна-культурнаму адраджэньню краю.

**Стар**. 36. * “***Загляне сонца і ў наша ваконца*****” –** першая легальная выдавецкая суполка па абуджэньню народных мас, якая дзейнічала ў С-Пецярбургу (1906-1914) па ініцыятыве і пад старшынствам Вац. Іваноўскага (1880-1943) пры заступніцтве прафесара Бр. Эпімах-Шыпілы (1859-1934), а з 1909г. і пры ўдзеле Я.Купалы. Дапамагалі матэрыяльна выдавецтву Яз.Драздовіч, Эд-д Вайніловіч, Магдалена Радзівіл і др. Суполка выцягнула з забыцьця і выдала лепшыя творы беларускай літаратуры Х1Х ст. З гэтай пары “*прамень нацыянальнай культуры*” ўсё часьцей зазіраў у вокны беларускіх хатак. Усяго суполкай было выдадзена 38 кніг. (Юры Туронак “Мадэрная гісторыя Беларусі, Вільня, 2006, стар. 110-128).

**Стар**. 36. * **Крылы Адраджэньня** – На ніве роднай мовы *“асядлалі Пегаса”:* Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Канстанцыя Буйло, Зьмітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Лявон

Гмырак, Сяргей Грахоўскі, Іван Дарашкевіч /Янук Д./, Карусь Каганец /Казімер Кастравіцкі/, Кандрат Лейка, Гальяш Леўчык /Л.Ляўковіч/, Алаіза Пашкевіч /Цётка/, Сяргей Палуян /Ясяновіч/, Антон Лявіцкі /Ядвігін Ш./, Сьцяпян Пяцельскі /М.Арол/ і др.

**Стар**. 36. * **Змагары** за адраджэньне нацыі: Надзея Абрамава-Тэадаровіч, Мікола Абрамчык, Антон Адамовіч, Фабіян Акінчыц, Зося і Францішак Аляхновічы, Кастусь Акула, Аляксей Анішчык, Ул-мер Арлоў, Натальля Арсеньнева, Янка Асіпчык, Радаслаў Астроўскі, Алесь Асташонак, Антон Аўсянік, Яўген Афнагель, Адам Бабарэка, Палута Бадунова, Янка Базыль, Мікола Байкоў, Пётар Бакач, Антон Баліцкі, Генадзь Банкевіч, Рыгор Барадулін, Генрык і Антаніна Барановічы, Лявон Баршчэўскі, Ал-дар Баханчык, Анатоль Белы, Аркадзь Блінкоўскі, Васіль Брэль, Янка Брыль, Сяргей Бузак, Галіна Бузук, Станіслаў Булак-Балаховіч, Ал-дар Бурбіс, Васіль Быкаў, Анатоль Бярозка, Рыгор Бярозка, Эдвард Вайніловіч, Міхал Валовіч, Ул-мер Варно, Язэп Варонка, Пётра Васілеўскі, Зоська Верас, Юры Весялкоўскі, Аляксей Вініцкі, Юрка Віцьбіч, Вінцук Вячорка, Вінцэнт Гадлеўскі, Платон Галавач, Гаўрыла, Радзім, Уладзіслаў і Максім Гарэцкія, Улад-ер Гарэлік /М.Латушкін/, Алесь Гарун /Прушынскі/, Ларыса Геніюш, Ян Гелда, Ігар Гермянчук, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Тамаш Грыб, Станіслаў Грынкевіч, Аляксей Грыцук, Людміла Гутар, Барыс Данілюк, Надзея Дземідовіч, Сяргей Дзяргай, Анатоль Дзяркач, Юры Драгун, Язэп Драздовіч, Сяргей Дубавец, Ул-мер Дубоўка, Міхал Дубянецкі, Алесь Дудар, Кастусь Езавітаў, Алесь Емяльянаў, Іван Ермачэнка, Янка Жамойцін, Алесь Жлутко, Жук-Грышкевіч Вінцэнт, Ул-мер Жылка, Аўген Жыхар, Уладзіслаў Завальнюк, Тамаш Зан, Янка Запруднік, Сяргей Запрудскі, Міхась Зарэцкі, Васіль Захарка, Лявон Заяц, Рыгор Зыбайла, Вацлаў Іваноўскі, Пётр Ільючонак, Ал-дар Казулін, Кастусь Каліноўскі, Ал-дар Калодка, Аўген Калубовіч, Кіпрыян Кандратовіч, Ул-мер Караткевіч, Аляксей Кароль, Лявон Кароль, Алесь Кароткі, Алесь Карпюк, Тадэвуш Касьцюшка, Іван Касяк, Вераніка Катковіч, Вітаўт і Зора Кіпель, Адам Кіркор, Барыс Кіт, Навум Кісьлік, Адольф Клімовіч, Тодар Кляшторны, Міхась Кожыч, Якуб Колас, Макар Краўцоў, Пётр Крачэўскі, Рыгор Крушына /Казак/, Майсей Кульбак, Міхал Кукабака, Янка Купала, Францішак і Уладзімер Кушалі, Расьціслаў і Алег Лапіцкія, Іван Ласкоў, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лешчанка, Антон і Язэп Лёсікі, Міхась Лужынскі,

Яўген Лугін, Антон і Іван Луцкевічы, Леанід Лыч, Анатоль Лябедзька, Юрка Лявонны, Максім Ляўкоў, Адам Мальдзіс, Палікарп Манькоў, Уладзімер Маракоў, Алена Макоўская, Аляксей Марачкін, Сяргей Мароз, Вера Маслоўская /Мурашка/, Ян Матусевіч, Ванда Махнач /Чарнецкая/, Аляк-дар Мілінкевіч, Адам Міцкевіч, Аляк-дар Мех, Андрэй Мрый /Шашалевіч/, Сяргей Мурзо, Павал Навара, Юзэфа і Язэп Найдзюкі, Расьціслаў Нарушэвіч, Сьцяпан Некрашэвіч, Янка Нёманскі /Пятровіч/, Янка, Зянон і Галіна Пазьнякі, Алесь Петрашкевіч, Марьян Пецюкевіч, Зяма Піваварaў, Зьміцер Прышчэпаў, Язэп Пушча, Аляксей Пысін, Барыс Рагуля, Міхал Радзеўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кастусь Рамановіч, Мечыслаў Рачыцкі, Леапольд Радзевіч, Юры Сабалеўскі, Мікола Савіцкі, Генадзь Сагановіч, Юліян Саковіч, Ядвіга Сарачынская, Барыс Сачанка, Язэп Сашыц, Павал Севярынец, Ян Серада, Вячаслаў Селях-Качанскі, Аляк-дар Сівец, Вячаслаў Сіўчык, Раман Скірмунт, Яўхім Скурат, Аркадзь Смоліч, Адам Станкевіч, Стангіслаў Станкевіч, Іван Станкевіч, Антон Сокал-Кутылоўскі, Дзьмітры Стэльмах, Васіль Супрун, Барыс Суравы, Алег Сурскі, Анатоль Сыс, Пётра Сыч, Ал-дар, Віктар і Зыгмунт Сянькевічы, Масей Сяднёў, Брачыслаў Тарашкевіч, Міхаліна Татарыновіч, Сяргей Тарасаў, Юлій Таўбін, Алег Трусаў, Алесь Умпіровіч, Усевалад Фальскі, Мікола Хаўстовіч, Люцыян Хвецька, Аляк-дар і Іван Цьвікевічы, Васіль Цыкуноў, Ізі Харык, Вітаўт Чаропка, Міхась Чарот, Аляк-дар Чарнушэвіч, Ул-мер Шакуцін, Макар Шалай, Фабіян Шантыр, Мікола Шкялёнак, Мікола Шчаглоў, Мікалай Шчорс, Ніна Шыдлоўская, Мікола Шыла /Шчасны/, Янка Юхнавец, Канстанцін Язавітаў, Васіль Якавенка, Алесь Яцкевіч /Ваяр/ і др.

**Стар**. 36. * Факел **Волі** – Зьдзейсніўшаяся **лютаўская рэвалюцыя** 1917 адкрыла шлях для рэалізацыі сва2бод. У многіх кутках краіны адчыняліся дзьверы школ і гімназій з абучэньнем на роднай мове. Збываліся мары “***загнанага***” народа. (Чытай баладу “**Шчасьце Купальля**” на стар.67). **У сакавіку 1918г.** была створана **Беларуская Народная Рэспубліка.** Мова нацыі атрымала статус дзяржаўнай. Але далейшыя падзеі, якія былі зьвязаны з распаўсюджаньнем ідэй бальшавіцкага перавароту 1917 і стварэньнем БССР /1.1.1919/ дзякуючы здрадзе /ўжо ў каторы раз!/ чынавенства пад эгідай КПСС, сталі пагібельнымі не толькі для кіраўнікоў нацыі, але і для ўсяго народа. *“Над краем кружылі жывыя пачвары – гібелі ў брыдотах крылатыя мары”* (Чытай “**Баладу пра кніжку**” на

стар. **79**). Яго зьнішчэньне прадоўжылася аж да верасьня 1991г. А мову народа, як адзначае Народны паэт Ніл Гілевіч *"прыблуды, манкурты, звыроды амаль да астатку зьвялі"*.

**Стар**. 37. * **Замець –** Зьнішчэньне нацыі пачалося зь першых дзён устанаўленьня савецкай улады. У перыяд масавых рэпрэсій /1917-53/ ахвярамі сталі каля 1,8 млн жыхароў краіны (Ю.Туронак "*Мадэрная гісторыя Беларусі*" Вільня, 2006, стар. 681), у той час як ахвярамі нацысцкага генацыду было 1409225 (альм. "Деды", вып.1, 2009, с.37). Гэта толькі 1/6 частка жыхароў краіны, а не кожны чацьвёрты і, нават ужо не кожны трэці, як падаюць нам сёньня дзяржаўныя СМІ страты ад фашысцкай навалы, якія былі агалошаны вуснамі высокапастаўленай асобы. Але ж *"напасьці золь-туман расьсеецца ў час крочны, тады й раскрыецца падман жыцьця парою змрочнай"*.(Чыт. верш **"Пошасьці быцьця"** на стар.20)

**Стар**. 37. * Тапталі **Волі сьвята** – Масавае зьнішчэньне народа: Баравая, Благаўшчына, Ваньковічы /парк Чэлюскінцаў/, Дразды, Зацень, Кальварыя, **Курапаты,** Лошыца, Сьляпянка, Сьцяпянка, Тарасава, Трасьцянец, Цагельня, Цівалі – ўрочышчы пад Менскам; урочышчы пад Ваўкавыскам і Гомелем; на Віцебшчыне вёскі Паляі, Берасьнёўка ля Бягомля, Беразвечча ля Глыбокае, Кабыляцкая Гара – ўрочышча пад Воршай і Мікалаева ля Улы; пад Магілёвам – Пячэрскі лес; **Цаглянка –** ў Чэрвені, Чарнагубава і Выня – на Капыльшчыне і інш., дзе ў 20-50-х расстрэльвалі за вальнадумства па квоце, якая даводзілася ўладай да кожнага раёна. Паводле раскопак, праведзеных у 1988-89-х па ініцыятыве грамацка-асьветніцкага таварыства *"Мартыралог Беларусі"* /першы старш. Рады – Зянон Пазьняк, сучасны кіраўнік – Васіль Шаранговіч/ ахвярамі сталінскіх рэпрэсій толькі ў Курапатах сталі каля 200 тыс. чалавек. На гэтым месцы сіламі прыхільнікаў *"Адраджэньня"* БНФ абсталяваны *"Мемарыял памяці ахвяр сталінізму **20-50**-х гадоў"*. Мільёны жыхароў краіны загінулі ў турмах НКУС і лагерах ГУЛАГа– таталітарнай савецкай сістэмы масавых рэпрэсій. Не зьлітавалася ўлада і над 240 тыс. вайскоўцаў, захопленых у палон у верасьні 1939г. пры *"вызваленьні Заходняй Беларусі"* згодна пакту Рыбэнтропа-Молатава. Зь іх *"у красавіку-траўні 1940г амаль 22 тыс. палякаў, беларусаў, украінцаў і яўрэяў – польскіх грамадзянаў, якіх утрымлівалі ў розных лагерах і турмах, былі расстраляныя. **Катынь,** адно зь месцаў (пад Смаленскам) масавых расстрэлаў, стала імем назоўным для абазначэньня ўсіх загіблых"*. (Газ.***"Наша Ніва"*** № 20, 2008, арты-

кул Віталя Тараса *"Гульня ў вайну"*).

**Стар**. 37. * **Гедройц-**палітык – чытай даведку на стар. 148.

**Стар**. 37. * **"Рух Чайкі":** Апостал **Навуковасьці** (ў нашым творы – паэт і краязнавец Васіль **Супрун** /н.1926/, які выявіў і дасьледаваў больш за 200 археалагічных помнікаў і аб'ектаў Слонімшчыны розных гістарычных эпох і перыядаў), як змагар за адраджэньне нацыі ў пачатку 1946г., будучы дырэктарам школы ў Глоўсевічах (яго Бацькаўшчыне) Слонімскага раёна, разам зь сябрамі (М.Ракевічам, М.Чыгрынам, А.Гардзейкам і др.) стварыў у Слоніме патрыятычную арганізацыю "**Чайка**" з мэтай зьдзяйсьненьня барацьбы з гвалтоўнай каланізацыяй, русіфікацыяй і вульгарызацыяй краю, абуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, абарону традыцыяў і гістарычных сьвятыняў. Падпольле было створана ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Берасьцейскім чыгуначным тэхнікуме і настаўніцкім асяродку Слонімшчыны. Для агульнага кіраўніцтва быў створаны падпольны цэнтр Беларускага Вызвольнага Руху, які ўзначаліў В. Супрун. У 1947г. падпольны патрыятычны рух ужо меў свае арганізацыйныя адзінкі ў тагачасных Баранавіцкай, Берасьцейскай, Маладзечанскай і Пінскай абласьцях. Аднак справа арганізацыі неўзабаве была правалена. Супруна, як арганізатара, асудзілі на 25 гадоў зьняволеньня. Вызвалены ён быў у 1956г. Але педагагічнай працы ён быў пазбаўлены.

**Стар**. 37. * **Ліст прамоўцы**: Апостал **Мужнасьці** (ў нашым творы – змагар за адраджэньне незалежнай Беларусі) Расьціслаў **Лапіцкі** /1928-50/– сваяк сьвятара Мік. Лапіцкага /1907-76/, – будучы навучэнцам Смаргоньскай школы, апантана распаўсюджваў са сваімі сябрамі па духу сярод жыхароў Мядзельскага і Смаргоньскага раёнаў улёткі, у якіх раскрываліся ідэі аб нежыцьцяздольнасьці савецкага ўкладу жыцьця: непамерных падатках, калгасным прымусе, закрыцьці храмаў і інш. Але іх дзейнасьць была неўзабаве раскрыта. Яго, як арганізатара Супраціву, за «варожыя пралетарыяту погляды» і за адказ супрацоўнічаць з органамі НКУС расстралялі. Гісторык Міхась **Чарняўскі** апісаў жыцьцё змагара ў кнізе **"Як пошуг маланкі",** якая пабачыла сьвет у 2007г. у серыі **"Нашыя славутыя землякі".** Гэтаму ўчынку змагара я прысьвяціў верш **"Апантанасьць",** які зьмешчаны ў 2-й кнізе **"На скрыжалях часу".**

**Стар**. 37. * **Рух народны** – Першыя акцыі за незалежнасьць і свабоду сталі зьдзяйсьняцца з 1984г. згуртаваньнямі: "Спадчы-

на” /стваральнік – Анатоль Белы/, “Дыярывуш”, “Паходня”, “Талака”, “Нашчадкі”, “Майстроўня”, “Узгор’е” і інш. А ў 1988г. Зянон Пазьняк /лідэр руху/, Васіль Быкаў /Народны пісьменьнік/, Рыгор Барадулін /Народны паэт/, Сяргей Навумчык і тысячы іншых патрыётаў Радзімы заснавалі Беларускі Народны Фронт /БНФ/ “Адраджэньне” і павялі змаганьне за незалежнасьць Айчыны, якой дабіліся ў 1991г. Гэта ў значнай меры пасадзейнічала і распаду СССР. Затым заявілі аб сваім заснаваньні згуртаваньні:“Зубр”, “Малады Фронт”, “Моладзь БНФ”, “Пагоня”, “Перспяктыва”, “Погляд”, “Партнёрства”, КАР “Салідарнасьць”, “Разам”, “Ініцыятыва”, “Трэці шлях”, “Супольнасьць”, “Вока”, “Вясна”, “Маладыя дэмакраты”, “Маладая Беларусь”, БХК, БУНТ, “Паветра-кропка-НЭТ”, “Правы альянс” і др.

**Стар**. 37. * **Бурліла кроў** ад радасьці: **25 жніўня 1991г**. дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня надалі **Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі** статус **Канстытуцыйнага закона.** Гэты **дзень** – акт гістарычнага значэньня – з’яўляецца сапраўдным **Днём незалежнасьці Беларусі.** Вось што нам паведаў Зянон Пазьняк: *“**25 Жніўня 1991 года** ажыцьцявілася двухсотгадовая мара цэлых пакаленьняў беларускіх змагароў з расейскім заборам. У гэты гістарычны дзень пад напорам дэпутацкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і пры падтрымцы тысячаў людзей на плошчы перад парламентам была спынена дзейнасьць КПСС у нашай краіне і канстытуцыйна аб’яўлена незалежнасьць Беларусі. Ад часоў падзелу Рэчы Паспалітай і ліквідацыі Вялікага Княства Літоўскага – нашай магутнай дзяржавы – гэты дзень, 25 Жніўня, ёсьць рэальна найвялікшай датай нашай двухсотгадовай гісторыі змаганьня за волю і незалежнасьць. Ад гэтага часу незалежная Беларусь рэальна ёсьць, існуе як незалежная дзяржава, знаная ў сьвеце. Ужо дзеля дасягненьня аднаго гэтага варта было жыць. Засталося зрабіць завяршальны крок вялікай беларускай барацьбы – усталяваць у Беларусі ўладу народа.*

*У гэтым сутнасьць змаганьня з антыбеларускім рэжымам. Вораг залез у наш дом. Барацьба ўнутры. Будучыня, жыцьцё і сьмерць нацыі, існаваньне дзяржавы і незалежнасьці залежыць ад зыходу гэтай барацьбы, ад таго хто вынясе трупы.*

*Перад кожным пакаленьнем беларусаў, народжаным у ілжы, стаіць вызваньне – зразумець, што ў змаганьні зь імпэрскай Расеяй не было, няма і ня будзе ні кампрамісу, ні паловы, ні міру: альбо яна нас зьнішчыць, альбо выйдзем на вольны шлях і*

*зробімся незьнішчальнымі. Гэты шлях пачаўся адразу ў 1794, пасьля рэалізацыі змовы Эўропы (немцаў) з Расеяй – г. зн. пасьля ліквідацыі ВКЛ і забору Беларусі. Гэты шлях праклаў Тадэўш Касьцюшка; па ім ішлі 197 гадоў. Ён вымашчаны мільёнамі ахвяр, палеглых за свабоду і волю, але бязь іх не было б* ***25 Сакавіка*** *1918-га, а без Сакавіка не настала б* ***25 Жніўня*** *1991-га.*

*Характэрнасьць беларускага гістарычнага змаганьня супраць злачыннай і магутнай імпэрыі за волю і аднаўленьне дзяржавы палягае ў тым, што гэта заўсёды была барацьба авангарду. Таму паражэньні яго мелі страшныя вынікі для нацыі, а перамогі (Сакавік-1918, Жнівень-1991) успрымаліся як цуд, у які многія не маглі паверыць".* ("Народная Воля" ад 30 жніўня 2011).

**Стар**. 37. * **Зянон Пазьняк** /н.1944/– грамацка-палітычны дзеяч, мастацтвазнавец, археолаг, старшыня сойма БНФ *"Адраджэньне"* і КХ партыі БНФ, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ ў 1990-95, аўтар паэмы *"Вялікае Княства"* і мностваў кніг і артыкулаў палітычнага зьместу, арганізатар і супрацоўнік выданьня за мяжой часопіса *"Беларускія Ведамасьці",* газеты *"Беларуская Салідарнасьць",* Беларускага адраджэнскага Інтэрнэту і інш. З 1996г. у эміграцыі. Зь яго імем зьвязана адкрыцьцё Курапатаў.

**Стар**. 38. * **Васіль Быкаў** /1924-2003/ – адзін з заснавальнікаў БНФ, за ім лічыцца членскі білет Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі за №1, акрылёны Прарок Адраджэньня, стаў **апосталам Сумленьня** нацыі.

**Стар**. 38. * **Гуртоўцы сьвету** – У 1990г. намаганьнямі **Яўгена Лецкі** было заснавана Згуртаваньне беларусаў сьвету **"Бацькаўшчына"** (першы прэзідэнт – Васіль **Быкаў,** затым: акадэмік Радзім **Гарэцкі,** гісторык Анатоль **Грыцкевіч**, скульптар Алесь **Марачкін,** а з 19. **07**.2009 – Алена **Макоўская),** якое выконвае задачы адраджэньня нацыі, развіцьця і захаваньня яе спадчыны.

**Стар**. 38. * 15 студзеня 1994г. **Біл Клінтан /прэзідэнт ЗША/** знаходзіўся з афіцыйным візітам у Беларусі, наведаў **Мемарыял** у **Курапатах,** дзе пакінуў гранітную лаўку (аўтар мемарыяльнага знака – мастак Алесь **Шатэрнік**) з памятным надпісам для нашчадкаў Айчыны: ***"Ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі народу Беларусі дзеля памяці".*** Гэта – каштоўны напамін для ўсіх суайчыньнікаў, каб згубу край не паўтарыў і ніколі не сьціраліся на высьпе памяці сьляды яго гісторыі.

**Стар**. 38. * Народны паэт **Ніл Гілевіч** у заключным фрагменце аднаго з артыкулаў кнігі *"Толькі мы самі"* зрабіў палымяны

зварот да суайчыньнікаў: *“Людзі зямлі беларускай! Заклікаю вас: ня слухайце лжэпрарокаў, палітычных прайдзісьветаў і авантурыстаў, якія абяцаюць вам рай у чужым шалашы! Не дайце ўвесьці сябе ў зман, каб не страціць найвялікшай сьвятыні, а перш за ўсё,– нашу Богам дадзеную мову! Верце толькі тым і ідзіце толькі за тымі, да каго свабода і незалежнасьць Беларусі даражэй за ўсё на сьвеце!”* Гэты зварот сёньня гучыць набатам і сугучны з клічам, сказаным яшчэ Фр. Багушэвічам.

**Стар**. 38. * **Час адкату** – Калі ў жніўні 1991г. рухнула ***“жалезная заслона***” і Савецкі Саюз распаўся, Беларусь дабілася незалежнасьці. **Дэкларацыі** аб суверэнітэце краіны, прынятай 27 ліпеня 1990г., быў нададзены статут **Канстытуцыйнага закона** ў жорсткай барацьбе з прыхільнікамі савецкага вобразу жыцьця **25 жніўня 1991г**. дэпутатамі Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня (“за” прагаласавала 253 дэпутаты з 265 зарэгістраваных у зале). Але ў ноч на 12 красавіка 1995г. шклоўскаму “дэмакрату” А.Лукашэнку у выніку здрады партакратаў /паўтараюцца гісторыі 1793 і 1919/ удалося пры падтрымцы маскоўскіх дарадцаў разагнаць парламент, а затым падманам правесьці праз рэферэндумы 1995 і 1996 увядзеньня дзьвюхмоўя і новай рэдакцыі Канстытуцыі, спарадзіць***“данайскі дар”*** /па ўзору траянскага каня зь “***Іліады***” Гамера/ і зьдзейсьніць **14.11.1996** дзяржаўны пераварот (сілай выдвараюцца з кабінетаў ЦВК В.Ганчар, С.Шарэцкі і ген. пракурор В.Капітан), усталяваўшы ў краіне таталітарны рэжым. З таго часу дэмакратыя жыве толькі ў вуснах народа, а ў дзеяньнях чыноўнікаў вертыкалі і апрычнікаў у створанай дыктатарам дзяржаве яна існуе як манархія.

**Стар**. 39. * Адвечная мара зьняважанага беларуса: заняць *“пачэсны свой пасад народаў між”* была сфармулявана Я.**Купалам.**

**Стар**. 39. * **Баль** – Каб расчысьціць шлях на прэзідэнцкіх выбарах /яны павінны былі адбыцца ў 2001г./ да станоўчага для шклоўскага кандыдата выніку (для дзеючага прэзідэнта рыхтаваўся імпічмэнт) па загаду д’ябла былі зьнішчаны нядаўнія яго саратнікі: Юры **Захаранка** (7.05.1999)**,** Віктар **Ганчар** і Анатоль **Красоўскі** (16.09.1999) і Дзіма **Завацкі** (7.07.2000)**.** Пры загадкавых абставінах адышоў у другі сьвет Генадзь **Карпенка.** Беспадстаўна былі асуджаны пазьней Ал-дар **Казулін,** Міхаіл **Чыгір** і інш.

**Стар**. 39. * **За мяжой –** у выніку татальнага перасьледу змагароў за Свабоду і незалежнасьць Бацькаўшчыны многія зь іх вымушаны былі шукаць шчасьце за мяжой. Адбываецца масавы

выезд іх за граніцу: штогод выязджае больш за 10 тыс. чалавек.

**Стар**. 39. * **Сходы зорак** – У 1995г. над **В.Быкавым, З.Пазьняком, С.Навумчыкам** і іншымі патрыётамі Радзімы навісла рэальная пагроза іх фізічнага зьнішчэньня. Але дзякуючы сябрам-аднадумцам ім удалося яе пазьбегнуць і выехаць за мяжу.

**Стар**. 40. * **Спадчыну Айчыны множаць:** Алякс-дар **Надсан**– апостальскі візітар, заснавальнік*"Беларускай вёскі"* з царквой і Скарынаўскай бібліятэкай у Лёндане і інш.; Барыс **Данілюк –** сакратар кансісторыі Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў ЗША, фундатар беларускай газеты *"Навіны з роднае Сьвятыні";* Барыс **Кіт –** гуманіст-асьветнік, вучоны ў галіне касманаўтыкі, ганаровы грамадзянін Наваградка, заснавальнік беларускай калоніі ў Саўт-Рыверы штата Нью-Джэрсі ў ЗША, беларускага радыё ў Аўстраліі, фундатар многіх беларускіх выданьняў у эміграцыі і іншае; Вітаўт **Кіпель** – грамацкі дзеяч беларускай эміграцыі, дырэктар Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, сааўтар з Зорай **Кіпель** бібліяграфіі*"Беларуская дзяржаўнасьць"* і др.; Янка **Запруднік –** гісторык і паэт у эміграцыі, рэдактар (псеўд. Павал **Янкоўскі**)' газеты "Беларусь", кіраўнік *"Камітэта вязьняў сумленьня ў Беларусі"* (прыклад: абарона дысідэнта Міхаіла Кукабакі), аўтар кнігі *"Беларусь на скрыжаваньнях"* і шэрагу публікацый аб праўдзівым адлюстраваньні рэалій на Беларусі. Яго вершы /як паэта Сяргея **Ясеня/** прасякнуты верай у адраджэньне Духу нацыі. Ён упэўнены ў тым, што кроўныя браты *"Сустрэнуць новы дзень на беларускіх гонях.*

*І шчасьце прынясуць у родныя куты.*
*Бо зброя ў іх – магутны меч Пагоні".*

**Стар**. 40. * **Бюлетэні** – чытай зноску "**маны падлік**" да стар.26.

**Стар**. 40. * **Запуск БелКі** – Запуск у космас /патрэбнага для піара/ спадарожніка, які каштаваў нямалых сродкаў, закончыўся катастрофай: плакалі грошыкі народа.

**Стар**. 40. * **Абраз-рашэньні** ўлады: аднаўленьне абарончых збудаваньняў па мяжы 1939г., т.н. лінія Сталіна, перайменаваньне пр. Скарыны і Машэрава, перадача калектыўных гаспадарак другому ўладару і інш.

**Стар**. 41. * Абаронцы **Волі** – У адкрытым змаганьні за лепшую долю значацца: **А.** –Абадоўскі Сяргей, Абрамава Інга, Азаранка Наста, Акаловіч Леанід, Аляхновіч Андрэй, Алфер Сяргей, Андрэева Вольга, Андросік Ларыса, Анісім Алена, Аніська Сяргей, Антончык Сяргей, Антусевіч Сяргей, Анташкевіч Іван, Арлоў

Леанід, Арлоў Ул-мер, Арэстовіч Алесь, Арэшка Вацлаў, Астроўскі Алесь, Астрэйка Мікола, Атрошчанкаў Ал-дар, Аўтуховіч Мікола, Афнагель Яўген; **<u>Б</u> – Б**агачова Тамара, Багданкевіч Станіслаў, Базыль Янка, Багдановіч Раман, Бандарэнкі Антон і Зінаіда, Банцыр Ігар, Бакур Юрка, Баразенка Ал-дар, Барбарыч Гена, Бародка Зьміцер, Бартосік Зьміцер, Баршчэўскія Вадзім і Лявон, Баркун Юры, Басін Якаў, Басалыга Міхась, Батуеў Павел, Бахун Сяржук, Бачышча Юры, Белахвостаў Ул-мер, Беленькі Юрась, Берніковіч Яраслаў, Богдан Ільля, Бондар Аляксей, Борыс Анжаліка, Бойка Яўген, Браніцкая Эніра, Більдзюк Аляксей, Броўка Віталь, Бугай Мікола, Буйвал Валеры, Букас Анатоль, Булавацкі Міхась, Булгакаў Валеры, Булдык Валеры, Бурак Мечыслаў, Бусел Мікола, Буткевіч Сяргей, Бухвостаў Ал-дар, Бялясін Яўген, Бяляцкі Алесь; **<u>В</u>** – **В**ажакоў А, Вазьняк Сяргей, Валабуеў Алесь, Валахановіч Анатоль, Валчанін Аляк-дар, Ваніна Тацьцяна, Варанец Міхась, Вардамацкі Андрэй, Варынец Адам, Васільеў Ал-дар, Ваўчок Леанід, Вінаградавы Павел, Зьміцер і Сяржук, Волчак Алег, Вольскія Артур і Лявон, Вячоркі Вінцук і Франак; **<u>Г</u>** – **Г**аліцкая Кася, Гаравыя Леанід і Марат, Гарановіч Віталь, Гарбачоў Віктар, Гарохавік Сьвятлана, Гарэцкія Барыс і Радзім, Гаўрыленка Мікалай, Гатоўчыц Анатоль, Гермянчук Іван, Гілевіч Ніл, Гладкая Аліна, Глінскі Сяржук, Гнеўка Анатоль, Голубеў Валянцін, Гразнова Людміла, Грамыка Алег, Грахоў Кастусь, Грышчэня Яраслаў, Грушавы Генадзь, Губарэвіч Юрась, Гудзеў Ул-мер, Гулак Алег, Гулякевіч Вольга; **<u>Д</u>** –**Д**абравольскі Аляк-дар, Дайнэкі Павел і Сяргей, Дарашкевіч Юля, Дашкевіч Віктар, Дашкевіч Зьміцер, Дашукі Віктар і Максім, Дашчынскі Алесь, Дземідзенка Мікола, Дзьмітрук Георгій, Дзячкоў Алег, Дранчук Цімафей Друшчык Ігар, Дубавец Сяргей, Дубскі Арцём, Дынько Андрэй; **<u>Е</u>** – **Е**лавая Тацьцяна; **<u>Ж</u>** – **Ж**абароўскі І, Жалезьнічэнка Зьміцер, Жлутко Алесь, Жукаў Дзьмітры, Жукоўскі Кастусь, Жэгалава Тэрэса; **<u>З</u>** – **З**авацкі Андрэй, Заблоцкі Ул-мер, Залеская Алена, Зарамбюк Алесь, Звазскоў Барыс, Зелко Тацьцяна, Зорка А, Зьмітровіч Анатоль, Зяньковіч Юрась; **<u>І</u>** – **І**вашкевіч Віктар, Ігнатовіч Андрусь, Ільініч Натальля, Іпатава Вольга, Істомін Юры; **<u>К</u>** – **К**абанчук Вадзім, Казуліны Ал-дар і Вольга, Калей Віктар, Калінкіна Сьвятлна, Калінін Ал- дар, Каліноўскі Антось, Каліта Алесь, Калуцкі Алесь, Калякін Сяргей, Камінская Ірына, Камоцкія Алесь і Кася, Камароўскі Ал-дар, Каралёнак Сяржук, Карноў Дзяніс, Кароль Аляксей, Карповічы Сяргей і

Яна, Карняенка Віктар, Карпенка Зьміцер, Карэтнікаў Юры, Касьцюковіч Пятро, Касьцяневіч Марат, Касьцян Сяргей, Кацора Ул-мер, Кацуха Ар-ур, Кашкурэвіч Арлен, Кім Андрэй, Кісьляк Раман, Кішкурны Антон, Класкоўскі Ал-дар, Клімаў Андрэй, Кліменценка Сьвятлана, Клюеў Сяргей, Козел Кастусь, Койпіш Антон, Коктыш Марына, Колас Ул-мер, Копцік Юрась, Корбан Алег, Краснова Кацярына, Крук Іван, Круткін Алесь, Крываль Віктар, Крываў Міхаіл, Крывіцкі Леў, Кудзінаў Ул-мер, Кузьняцовы Віктар і Ігар, Кукабака Міхаіл, Куксюк Юры, Кулажанка Ул-мер, Кулік Яўген, Купава Мікола, Курзо Зьміцер, Курцаў Глеб, Кур'яновіч П., Кухарчук Вячаслаў, Кухлей Зьміцер; Кучынсая Тацьцяна; **Л** – **Л**абковіч Вадзім, Лагвінец Алесь, Лагодзіч Мікола, Лазарэнка Валянцін, Лапіцкі Алесь, Ларын Ул-мер, Леванеўскі Валеры, Лемяноўскі Мікола, Лепешаў Іван, Ліцьвіна Жанна, Лукашоў Канстанцін, Лукашук Ал-дар, Лындова Ал-дра, Лыч Леанід, Лябедзька Анатоль, Ляўковіч Анатоль; **М** –**М**ажэйка Павал, Мазынскі Валера, Майсеня Людміла, Мальдзіс Адам, Макаеў Ал-др, Макарэвічы Алена і Генадзь, Малочка Віктар, Мальчык Сяргей, Манаеў Алег, Маракоў Леанід, Марачкін Аляксей, Марголін Леў, Маркевіч Мікола, Марозаў Алесь, Мархель Ул-мер, Мархотка Леанід, Марчук Хрысьціна, Марчык Віктар, Масакоўскі Ул-мер, Майсюк Алесь, Маслоўскі Ігар, Машэрава Натальля, Мельнікавы Андрэй, Мікола і Эдуард, Мех Ал-дар, Мілінкевіч Ал-дар, Міхайлавы Анатоль і Іван, Міхалевіч Алесь, Мядзьведзевы Алена і Ганна; **Н** – **Н**авасяд Ул-мер, Навіцкі Леанід, Навумчык Сяргей, Назаранка Віктар, Насановіч Ларыса, Нямковіч Вацлаў, Няроўны Сяргей; **П** – **П**аганяйла Гары, Падаляк Міхаіл, Падгол Ул-мер, Падойніцын Ал-дар, Падчаненкаў Віктар, Пазьнякі Галіна і Зянон, Палажанка Наста, Палякоў Васіль, Палякоў Віктар, Палявікова Валянціна, Панамароў Сяргей, Панкавец Зьміцер, Папкоў Вячаслаў, Парсюкевіч Сяргей, Пастухоў Міхась, Паўлаў Анатоль, Пахабаў Мікола, Пахомаў Арсен, Пашкевічы Алесь і Міхаіл, Печанко Сямён, Піванос Антаніна, Плотнікаў Ул-мер, Працька Тацьцяна, Пуцікі Валеры, Пушкін Алесь, Пяткевіч Аляксей, Пятроўскі Генадзь; **Р**– **Р**авякі Руслан і Тацьцяна, Радзівонаў Алесь, Раманцоў Улад-мер, Раманчук Яраслаў, Роман Іван, Русіна Натальля, Рыбчанка Валеры, Рымашэўскі Віталь, Рынкевіч Ігар; **С** – Саверчанка Іван, Савіцкі Мікола, Сагановіч Генадзь, Садоўскія Пётра і Дзяніс, Сазонаў Віктар, Сакалоў Зьміцер, Салаўёва Кацярына, Салаўян Ал-дар, Самой-

лавы Галіна, Ул-мер і Хрысьціна, Салашы Дзяніс і Сяргей, Саньнікаў Андрэй, Сасім Мікіта, Саранчукоў Вадзім, Сармант Надзея, Сацук Сяргей, Севярынцы Павал і Тацьцяна, Сідарэвічы Анатоль і Зьміцер, Сіліцкі Віталь, Сімкін Ал-дар, Сінькевіч Надзея, Сечка Леанід, Сёмуха Алеся, Сілівонец Міхаіл, Сіліцкі Віталь, Сіўчык Вячаслаў Скакун Натальля, Скарабагаты Арцём, Скрабец Яўген, Скрабец Сяргей, Содаль Ул-мер, Сом Лера, Старасьціна Натальля, Стасюк Іван, Статкевіч Мікола, Стральцоў Алесь, Стэфановіч Валянцін, Стужынская Вольга, Субач Міхаіл, Сувораў Яўген, Судаленка Леанід, Суднік Станіслаў, Сухаверхі Андрэй, Сьвецік Лявон, Сьвяцкая Валянціна, Сьцепаненка Ал-дар, Сьцешык Яраслаў, Сырэц Віктар, Сядзька Алесь, Сякера Ул-мер, Сяргеенкі Мікола і Сяргей, Сяргееў Уладзімер, Сяргяйц Максім, Сярэдзіч Іосіф; **Т** –**Т**амковіч Ал-дар, Тарасевіч Зінаіда, Таўстыка Алесь, Тобін Эдуард, Трафімчык Зьміцер, Трусаў Алег, Туміловіч Генадзь, Тычына Алег; **У**– **У**давічэнка Анатоль, Улевіч Алег, Ухналёў Валеры; **Ф** –Фамін Сяргей, Філіповіч Валеры, Фінькевіч Артур, Фядыніч Генадзь, Фядута Ал-дар; **Х** –**Х**адановіч Андрэй, Хадарэнка Ірына, Хадыка Юры, Халіп Ірына і Ўлад, Хамайда Барыс, Ханяўка Вадзім, Хашчэвацкі Юры, Хведарук Зьміцер, Хома Тацьцяна, Хоміч Віктар; **Ц**– **Ц**ацура Ал-дар, Церашковіч Павал, Церашкоў Андрэй, Ціхановіч Віталь, Цішкевіч Тацьцяна, Цумараў Яўген, Цыркуноў Алесь, Цянюта Андрусь, Цярпіцкі Віталь; **Ч** –**Ч**аранкоў Юры, Чарнаус Мікалай, Чарняўскі Алесь, Чарнышоў Алесь, Чахольскі Алесь, Чыгір Алесь; **Ш** – **Ш**абетнік Алег, Шалайка Ал-дар, Шалкевіч Віктар, Шапавалаў Анатоль, Шапуцька Тацьцяна, Шаравар Мікола, Шарэнда Андрэй, Шатэрнік Алесь, Шацікава Хрысьціна, Шкірманкоў Фелікс, Штыхаў Георгій, Шлындзікаў Васіль, Шумкевіч Ал-дар, Шумчанка Анатоль, Шушкевіч Станіслаў, Шчарбакоў Аляксей, Шчукін Валеры, Шыдлоўскія Аляксей і Ніна, Шылы Улмер і Іван, Шэга Іван, Шэін Аляксей; **Ю** – **Ю**ркевіч Юрась, Юркін Васіль, Юркоў Андрэй, Юхневіч Павал, Юхо Улмер; **Я** – **Я**зерская Элеанора, Якавенка Васіль, Янукевіч Аляксей, Янушкевіч Аляксей, Янушэўскі Аляксей, Янчурэвіч Віктар, Ярашук Ал-дар, Яскевіч Ірына, Яськова Алена і др.

**Стар**. 41. * Стрымаць **падман** – Такую праблему бачыў для Айчыны яшчэ на заранку Адраджэньня паэт Мікола Гусоўскі, каб людзі верылі ў лепшае жыцьцё.

**Стар**. 41. * **Ліцэй** – З навучэнцамі Беларускага гуманітарнага лі-

цэя заняткі праводзяцца не ў будынку, адкуль іх улады нахабна выкінулі, а на прыродзе ці на кватэры.

**Стар**.41. * **Білі ў набат** і змагаліся за шчасьлівую долю: Адамовіч Алесь, Арсеньнева Натальля, Фр.Багушэвіч, Багдановіч Максім, Брыль Янка, Быкаў Васіль, Булак-Балаховіч Станіслаў, Булахаў Дзіма, Валовіч Міхал, Гадлеўскі Вінцук, Ганчар Віктар, Гарэцкі Максім, Геніюш Ларыса, Гермянчук Ігар, Гроднікаў Васіль, Грыб Тамаш, Дудар Алесь, Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт, Зан Тамащ, Завацкі Дзіма, Захаранка Юры, Іваноўскі Вацлаў, Каліноўскі Кастусь, Карпенка Генадзь, Касьцюшка Тадэвуш, Колас Якуб, Корсак Тадэвущ, Красоўскі Анатоль, Краўцоў Макар, Кулік Яўген, Купала Янка, Лапіцкі Расьціслаў, Ластоўскі Вацлаў, Лебяда Тодар, Лёсік Язэп, Луцкевіч Антон, Майсеня Анатоль, Міцкевіч Адам, Навуменка Іван, Невяроўскі Альгерд, Некрашэвіч Сьцяпан, Палякова Яна, Плятэр Эмілія, Рагойша Антось, Рэйтан Тадэвущ, Скірмунт Раман, Смоліч Аркадзь, Сыс Анатоль, Станкевіч Адам, Сыракомля Ўладзіслаў, Ткачоў Міхась, Улашчык Мікола, Цётка, Цьвікевіч Алякс-дар, Чачот Ян, Шантыр Фабіян, Чаркасава Вераніка, Юхо Язэп, Ясінскі Якуб і др.

**Стар**. 42. * **Рупліўцы** – У цяжкіх умовах таталітарнага рэжыму наладзілі справу захаваньня роднай мовы яе рупліўцы стварэньнем*“Таварыства беларускай мовы”* **(**Старшыня: **Трусаў** Алег **)** і выданьнем часопісаў *(“Паміж”, АРХЭ, “Дзеяслоў”)* і газет *(“Народная Воля”, “Наша СЛОВА”, ”Наша Ніва”, “Новы Час”* і інш.*)* – духоўныя сябры Народных пісьменьнікаў Васіля **Быкава** (1924-2003, які ішоў да праўды шляхамі вайны і станаўленьня нацыі) і Янкі **Брыля** (1917-2006, былога жаўнера польскай арміі, абаронцы горада Гдыні ў верасьні 1939г., партызанаразьведчыка Вялікай Айчыннай вайны): Абламейка Сяргей, Акудовіч Валянцін, Акулін Эдуард, Анісім Алена, Анціпенка Алег, Арлоў Ул-мер, Арочка Мікола, Астравец Сяргей, Аўраменка Мікола, Аўрамчык Мікола, Бабіна Наталка, Багдановіч Ірына, Бадак Алесь, Бакшанская Наста, Барадулін Рыгор, Бароўскі Анатоль, Баршчэўскі Лявон, Бічэль Данута, Блакіт Валянцін, Белая Сьвятлана, Белы Анатоль, Буднік Іван, Булгакоў Валер, Бураўкін Генадзь, Валадашчук Віктар, Васючэнка Пятро, Воранаў Віталь, Вішнёў Віктар, Вярцінскі Анатоль, Гарэцкі Радзім, Гілевіч Ніл, Гіль Юрась, Голуб Юрка, Давыдчык Ціна, Далідовіч Генрых, Дзіцэвіч Людміла, Дранько-Майсюк Леанід, Дубавец Сяргей, Дынько Андрэй, Жук Алесь, Жуковіч Васіль, Задаля Валер,

Законьнікаў Сяргей, Зуёнак Васіль, Івашчанка Анатоль, Іпатава Вольга, Казько Віктар, Кароль Аляксей, Карпечанка Міхась, Карамазаў Віктар, Кірвель Анатоль, Клышка Анатоль, Колас Зьміцер, Кручкоў Сяржук, Кудравец Анатоль, Леаненя Віктар, Ліс Арсень, Лозка Алесь, Лойка Алег, Ліцьвінка Васіль, Лыч Леанід, Майсяёнак Андрэй, Мальдзіс Адам, Марачкіна Ірына, Масарэнка Алесь, Мацяш Ніна, Мілаш Леакадзія, Мімрык Алена, Мінкін Алег, Наварыч Алесь, Нюнька Хведар, Някляеў Ул-мер, Панізьнік Сяргей, Пашкевіч Алесь, Петрашкевіч Алесь, Піскун Людміла, Пташнікаў Іван, Пяткевіч Аляксей, Пятровіч Барыс, Рагойша Вячаслаў, Рагуля Аляксей, Разанаў Алесь, Рублеўская Людміла, Рыбак Алесь, Савік Лідзія, Сагановіч Генадзь, Сакалова Вольга, Севярынец Павал, Сьвірка Юрась, Сінькова Людміла, Сіпакоў Янка, Сітніца Рыгор, Сіўко Франц, Сіўчыкаў Ул-мер, Скобла Міхась, Скурко Андрэй, Сьлінко Віктар, Содаль Ул-мер, Суднік Станіслаў, Сьцяпан Ул-мер, Сьцяцко Павел, Анатоль Сыс, Тарасы Валянцін і Віталь, Трафімчык Зьміцер, Трусаў Алег, Федарэнка Андрэй, Фядута Ал-дар, Хадановіч Андрэй, Харэўскі Сяргей, Хатэнка Антаніна, Хурсік Віктар, Цьвірка Кастусь, Чаропка Вітаўт, Чыгрын Сяргей, Чыгрынаў Іван, Шатэрнік Алесь, Шаян Ул-мер, Юхо Язэп, Яжэвіч Алесь, Якавенка Васіль, Ялугін Эрнест, Янушкевіч Андрэй, Янушкевіч Язэп і інш.

**Стар**. 42. * Звон **Свабоды** – У дзень /19 сакавіка 2006г./ прэзідэнцкіх выбараў падуладны прэзідэнту ЦВК аб'яўляе вынікі галасаваньня, фальсіфікацыю якіх прызнаў і сам прэзідэнт. У знак пратэсту на цэнтральнай плошчы Менска ўпершыню зазваніў **Звон Свабоды (**аўтары: скульптар Аляксей Марачкін і пісьменьнік Алесь Шатэрнік). Звон, які дэкараваны арнаментам з выявай "Пагоні" уладай быў арыштаваны. Мітынгуючых праз 5 дзён разагналі, а многіх – пазбавілі волі.

**Стар**. 45. * Калінойскага "**Воля"** – гэта алегорыя распаўсюджанай ў часы Паўстаньня 1863-64 газеты *"Мужыцкая праўда"*, якую рэдагаваў Кастусь Каліноўскі.

**Стар**. 48. * Змагары за **Свабоду –** Палітычнымі вязьнямі свабоды за апошнія 15 гадоў адзначаны: Мікола Астрэйка, Мікола Аўтуховіч, Юры Бандажэўскі, Эніра Браніцкая, Ал-дар Васільеў, Валянцін Голубеў, Зьміцер Дашкевіч, Цімафей Дранчук, Арцём Дубскі, Генадзь Дылеўскі, Алесь Жлутко, Віктар Івашкевіч, Вадзім Кабанчук, Ал-дар Казулін, Андрэй Кім, Антон Кішкурны, Андрэй Клімаў, Іван Крук, Ул-мер Кудзінаў, Вадзім Лабковіч,

Валеры Леванеўскі, Канстанцін Лукашоў, Юры Лявонаў, Аляксей Марачкін, Павел Мажэйка, Мікола Маркевіч, Міхаіл Марыніч, Валянціна Палявікова, Сяргей Парсюкевіч, Мікола Разумаў, Мікола Савіцкі, Кацярына Садоўская, Павел Севярынец, Вячаслаў Сіўчык, Міхаіл Скрабец, Мікола Статкевіч, Артур Фінькевіч, Юры Хадыка, Міхаіл Чыгір, Аляк-дар Шалайка, Аляксей Шыдлоўскі, Язэп Янушкевіч і інш.

**Стар**. 48. * Рух ***"За Свабоду!",*** які са сьнежня 2008 года ўжо носіць легальны характар, быў арганізаваны адразу ж пасьля вулічнай акцыі 25 сакавіка 2006 года экс-кандыдатам у прэзідэнты Ал-дарам **Мілінкевічам.**

**Стар**. 48. * **Вацлаў Ластоўскі** /1883-1938/ – грамацка-палітычны дзеяч Айчыны, адзін зь першых ініцыятараў нацыянальнага і культурнага адраджэньня ў пачатку 20-га ст., выдатны вучоны: этнограф, гісторык, філолаг, літаратуразнавец, пісьменьнік, публіцыст. Напісаная ім *"Кароткая гісторыя Беларусі"* – гэта першая папулярная гісторыя пра наш край. Яго, як і многіх змагароў за адраджэньне нацыі, спасьцігла такая ж трагічная доля. Ён стаў ахвярай таталітарнага рэжыму, які, на вялікі жаль, прадаўжаецца ў нас і сёньня.

**Стар**. 49. * **Гудзела зямля** – Маецца на ўвазе рэвалюцыя 1905-07 у Расеі, якая пачалася з расстрэлу рабочай дэманстрацыі 9 студзеня ў Пецярбургу, т.наз. "Крывавая нядзеля", падзеі якой і былі пакладзены ў аснову верша Цёткі ***"Хрэст на Свабоду".***

**Стар**. 49. * **Паладзін –** рыцар **Свабоды** сярэдніх вякоў.

**Стар**. 49. * **Батлейка –** вандроўны народны лялечны тэатр Ігната Буйніцкага, зь якім Цётка ў якасьці артысткі сустракалася з народам, бо ўладай непасрэдна праводзіць сходкі забаранялася.

**Стар**. 49. * ***"Лучынка" –*** Першы часопіс для дзяцей і моладзі на роднай мове, які быў заснаваны у 1914г. Яго рэдагавала **Цётка**.

**Стар**. 49. * **Хмары нягоды** – Набліжалася Першая сусьветная вайна 1914-1918.

**Стар**. 53. * **Фальсіфікацыя выбараў** – 23 лістапада 2006г. падчас прэс-канфэрэнцыі для ўкраінскіх журналістаў А.Лукашэнка сам раскрыў сакрэт Палішынеля:*"Так, мы сфальсіфікавалі мінулыя прэзідэнцкія выбары. Я ўжо заходнікам гэта сказаў".*

**Стар**. 55. * ***"Элегантная перамога"***– чытай даведку на стар.147

**Стар**. 61. * У выступленьні на БТ 10 ліпеня 1996г. наш прэзідэнт казаў: *"Я своё государство за цивилизованным миром не поведу!",* дзе сьвядома абмяжоўваецца жыцьцё народа ***чаркай са шкваркай***

**Стар**. 62. * **Майдан-гарадок –** У дні правядзеньня мнагадзённага мітынгу-пратэсту на цэнтральнай плошчы Менска мітынгуючымі быў раскінуты палатачны гарадок, які ў ноч з 23 на 24 сакавіка ўладай быў бязьлітасна разьмецены. Больш як тысяча змагароў за **Свабоду** папоўнілі засьценкі турмы на Акрэсьціна, дзе ўжо знаходзіліся іх сябры па змаганьню. Арганізатар мітынгу **Вячаслў Сіўчык** арышту сумеў пазьбегнуць.

**Стар**. 62. * БУНТ – маладзёвая арганізацыя, якую ўзначальвае змагарка за Свабоду Тацьцяна **Елавая**, якая з-за перасьледу вымушана прадоўжыць вучобу за мяжой

**Стар**. 67. * **Радаслаў Астроўскі –** грамацка-палітычны дзеяч, актыўны змагар за нацыянальную самасьвядомасьць, пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 – камісар Слуцкага павета, удзельнік Слуцкага паўстаньня 1920, "дэман карысьлівай дзейнасьці" (дырэктар Віленскай беларускай гімназіі і Беларускага Банка, Старшыня Таварыства Беларускай Школы і Беларускага Дабрачыннага Таварыства), адзін з арганізатараў Усебеларускага Кангрэса 1944, кіраўнік Беларускай Цэнтральнай Рады ў эміграцыі. Дзякуючы яму ў ліпені 1917г. былі адчынены дзьверы першай у краіне беларускай гімназіі ў Слуцку, дзе стаў яе дырэктарам. На базе гэтай гімназіі ў верасьні 1917г. Марк Асьвяцімскі (1886-1938), Алесь Аніхоўскі (1897-1950-я г.), Андрэй Бараноўскі (1895-1938), Сяргей Бусел (1901-пасьля 1940), Улас Дубіна (?-?), Аляксей Каўпак (?-?), Васіль Русак (1896-1950-я г), Янка Ракуцька (?-?, першы старшыня аб'яднаньня), Фабіян Шантыр (1887-1920) і др. адкрылі культурна-асьветніцкае аб'яднаньне *"Папараць-кветка"* з філіямі ў вёсках Старыца ("Зарніца"), Засялоньне, Ісерна, Ліпнікі, Заградзьдзе, Грозава і Сухая Міля, якое існавала да 1920г. Дзейнасьць аб'яднаньня і паслужыла сюжэтам для балады.

**Стар**. 68. * Дзень **Свабоды** – Маецца на ўвазе Лютаўская рэвалюцыя 1917, якая зрынула манархію /здані яе і сёньня паўсюдна праяўляюцца ў жыцьці нашай краіны/ і прынесла свабоду народам Расейскай імпэрыі, якою вельмі ўдала скарысталася толькі Фінляндыя. Яна ў параўнаньні з нашай краінай за гэты ж перыяд сяганула да самых высокіх вяршынь, якія нашаму народу толькі сьняцца. Вось вам і зьдзяйсьненьне прарочаства Кастуся Каліноўскага, які прадказваў, што *"толькі тады зажывеш шчасьліва, Народзе, калі над табою маскаля ўжо ня будзе"*. Свабода для нас, аднак, пакуль яшчэ – мара. І жыве яна толькі ў вуснах простага люду і ў снах змаганцаў за яе.

**Стар**. 69. * **Сявец** – Гэта алегорыя постаці бальшавіка, які пасьля кастрычніцкага перавароту 1917 пасеяў на нашай зямлі пачварную заразу /рэпрэсіі, войны, генацыд, імпэрскі прыгон і др./, ад якой народ яшчэ не апрытомнеў і знаходзіцца да сучаснага часу ў стане зомбі /быццам у коме/, у якім жыцьцё толькі цепліцца, бо сапраўднага жыцьця ён яшчэ ня зьведаў і ня хоча яго займець, бо цісьне душу настальгія пра "цудоўнае жыцьцё з чаркай і шкваркай" пры Саветах, якое нам апявалі ў песьнях тыпу*"Я другой такой страны не знаю…"* Дастаткова толькі прызначыць, што пад бальшавіцкім вытам мы не толькі не маглі акрэсьліцца як нацыя, але і страцілі сваё аблічча, сваю нацыянальную годнасьць. Напрыклад, мала хто знае, што наша нацыя – гэта нацыя *"ліцьвінаў"*. Ліцьвінамі называлі сябе такія знатныя нашыя суайчыньнікі, як нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і США Тадэвуш **Касьцюшка** (чытай кніжку" ***Нарадзіўся** я ліцьвінам…*", Я. Юхо і У.Емельянчык, Мінск, 1994), паэт нацыі Адам **Міцкевіч**, бацька творцы нацыянальнага Адраджэньня Вацлава Іваноўскага – правадзейны дзяржаўны раднік Леанард **Іваноўскі** і многія другія. З часоў імперскай заганы з 1795г. (асабліва пасьля 1839) ужываць сваё нацыянальнае паходжаньне народу забаранялася (нас проста называлі*"тутэйшымі"* ці *"беларусцамі"*), чаго нельга сказаць у адносінах да насельніцтва, якое пражывала побач і некалі адносілася да ВКЛ. (Па дадзеных статыстыкі, ў 1917г. у Цьвярской губерні пражывала 125 тыс. ліцьвінаў, якія, безумоўна, паходзілі ад цьвярскіх крывічоў (В.Чаропка "***Імя ў летапісе***", Мінск, 1994, стар.238**)**. Падобных зьвестак па нашай краіне мы не ведаем, таму што іх публікацыі несумненна процістаяць палітыцы асіміляцыі карэннага народа, якая стагодзьдзямі праводзіцца ў інтарэсах імперскай Расеіі і якая сёньня поўна падтрымліваецца прадажнай уладай. Каб займець палітычныя і эканамічныя дэвідэнты, яна ўзаконіла рускамоўе, а пры дапамозе адурманенай рэжымам здраднай чыноўніцкай вертыкалі на тэрыторыі краю паступова ліквідуецца родная мова. Нацыя губляе сваю адметнасьць. А можа сутнасьць зьявы злачынства перад народам Айчыны чыноўніцтвам асэнсуецца і сьвядомасьць абудзіцца? Тым не менш я веру, што ўсьведамленьне зьявы асіміляцыіі яе вынікаў народам яшчэ адбудзецца. Толькі трэба скарыстаць канстытуцыйны статус дзяржаўнасьці роднай мовы.*"На агрэсію асімілятараў трэба адказаць цьвёрдасьцю пазіцыі ў адстойваньні сваёй нацыянальнай годнасьці"* (гл. нататак*"Асіміляцыя – злачынства супраць*

*чалавецтва”,* які зьмешчаны ў інфармацыйным лістку №**57** за красавік 2007 “*Беларуская Салідарнасьць*” Кансерватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ). Гэтую справу ўхваляе КХП-БНФ:*“Пашана людзям, што не страцілі нацыянальнай годнасьці, што не ўгінаюцца перад чужынцам, што не гнуцца перад абставінамі!”* Вялікую патрыятычную справу па захаваньню роднай мовы праводзіць *“ТБМ імя Фр. Скарыны”* пад старшынствам гісторыка Алега **Трусава.**

**Стар**. 70. * ***“Век пакутны”*** **–** так азначыў ХХ век пісьменьнік Васіль **Якавенка** ў трылогіі *“Пакутны век”*.

**Стар**. 71. * **“Здрадная скрынка”** – чытай даведку на стар.147.

**Стар**. 73. * **Крыж –** крыж Еўфрасіньні Полацкай. Тут маецца на ўвазе, што смяротна паранены баец Слуцкага Збройнага Чыну /гл. выяву змагара выяўленчага твору, што разьмешчаны на франтоне музея Анатоля **Белага** ў Старых Дарогах, які сваім парывам згадвае справу выратаваньня нацыі ад бальшавіцкай заразы/ у руцэ трымае ўзор крыжа Еўфрасіньні Полацкай, які быў зроблены полацкім ювелірам Лазарам Богшам яшчэ ў 1161г. па заказу асьветніцы і які з’яўляецца помнікам нацыянальнага пісьменства 12-га стагодзьдзя. Як вядома такой жа ўзор шасьціканцовага крыжа зьмешчаны на шчыце *“рыцара-збройніка”* на белым кані, узгодненага князем ВКЛ Віценем у 1293г. у якасьці герба “Пагоня”, што даказвае сваё паходжаньне да Крыжа Еўфрасіньні. А гэта яшчэ раз пацьвярджае палажэньне, што першыя князі /Міндоўг, Войшалк і др./ наваўтворанай на нашых землях дзяржавы з назвай **Літванія** былі нашчадкамі полацкіх князёў, г.зн. славянскіх /а дакладней – ліцьвінскіх/ каранёў, а не балцкіх, чаго дамагаюцца даказаць прыхільнікі балцкага паход-жаньня князёў нашай дзяржавы. У нашым выпадку важна зазна-чыць, што нацыянальныя сьвятыні, як гордасьць спадчыны, павінны быць не толькі захаваны, але і ўсхвалёны. Але лёс распарадзіўся так, што і Крыж Еўфрасіньні Полацкай і герб “Пагоня” спасьцігла незайздросная доля. У 1941г. крыж трапіў у Маскву, дзе дзякуючы зацятаму сталіністу П.Панамарэнку згубіў свае сьляды /Чытай артыкул Яўгена **Гучка** *“Высьвятляйма, шукайма”,* зьмешчанага ў газ. *“Народная Воля”* ад 21 лістапада 2008г./ А другая нацыянальная сьвятыня – герб “Пагоня” разам з бел-чырвона-белым сьцягам сёньня забаронены дыктатарскай воляй, а на іх носьбітаў чыніцца перасьлед. Тут трэба ўзгадаць завяшчальны надпіс, які быў зроблены Богшам на крыжы прыкладна такога зьместу: *той, хто асьмеліцца ўчыніць над святыняю зьдзек, то на ім будзе вісець*

*праклён – яго напаткае доля Іуды, які прадаў Хрыста.* І на самай справе: крыж, які спрабуе выратаваць баец Слуцкага Збройнага Чыну ад згубы, быў бальшавікамі падвергнуты асьмяяньню, то ў скорасьці бальшавізм і загінуў, пакрыўшыся ганьбай. Праклёны ювеліра Богшы ці прарочаствы К.Каліноўскага, як мы бачым, збываюцца! Тое ж самае чакае і таго, хто надругаўся над гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сьцягам і ў найноўшай гісторыі. Гэта тычыцца як кіраўніка дзяржавы, так і былога кіраўніка прэзідэнцкімі справамі І.Ціцянкова, які публічна зьняважыў дзяржаўныя сімвалы. За сьвятыні зганьбаваньне – не мінуе час спагнаньня!

**Стар**. 79. * **Аркадзь Смоліч** (1891-1938)– дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэньня, вучоны, адзін зь ініцыятараў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, народны сакратар асьветы у 1-м ўрадзе, аўтар вучэбнага дапаможніка "Географія Беларусі"(праз ***о***), які вытрымаў 5 выданьняў. Кніга адкрываецца эпіграфам:*"Каб Беларусь перастала быць краем невядомым для саміх беларусаў".* Менавіта землі і яе абшары, апісаныя ў кнізе, ўскосна выкрывалі імперскія амбіцыі Масквы па захвату тэрыторый сумежнай дзяржавы. Гэты досьвед і быў галоўным дакорам аўтару пры абвінавачаньні ў "нацдэмаўшчыне" і асуджэньню яго па сфабрыкаванай справе як аднаго зь кіраўнікоў т. наз. "Саюза адраджэньня Беларусі". Двойчы аўтар /ў 1930 і 1937/ арыштоўваўся, а ў 1938г. быў расстраляны. Гісторыя стварэньня твора вельмі прыцягальная. Два гады таму знаёмаму мне журналісту Міколе Малышчыцу прысьніўся сон, у якім я яму паведамляў, што пішу пра А. Смоліча паэму. Якое ж было яго зьдзіўленьне, калі я, прачытаўшы ўзятую ў яго кнігу (вучэбнік "Географія Беларусі", 1919, распавядаў пра нашыя землі ў межах этнічнай Беларусі, хаця ў першыя годы яе існаваньня пад бальшавіцкім гнётам яе тэрыторыя складала толькі трэцюю яе частку, шэсьць паветаў), сказаў, што пішу пра яе баладу. Вось ён мне пры вяртаньні кніжкі і расказаў пра свой сон. Выяўляецца, што напісаць твор пра А. Смоліча мне было наканавана Богам, якога ўяўляю як сусьветнае інфармацыйнае поле.

**Стар**. 79. * **Гея –** ў грэчаскай міфалогіі – багіня зямлі, зь якой узьніклі горы, моры і першае пакаленьне багоў.

**Стар**. 92. * **Натальля Арсеньнева (1903-97) –** руская дваранка па нараджэньню (паходзіла з роду М.Ю Лермантава) з раньняга дзяцінства злучыла свой лёс з нашай Айчынай, сэрцам успрыняла дух беларускасьці, сьпеўнае слова якога назаўсёды пасялілася ў яе душы. Дарэчы, па зьвестках ЮНЭСКА беларуская мова

па сваёй пявучасьці і мяккасьці гучаньня – на другім месцы пасьля італьянскай. У яе жыцьці ў сувязі з служэньнем нашай Бацькаўшчыне, перапляліся і шчасьце, і трагедыя, і казка. Шчасьце яна зьведала, калі спасьцігала таямніцы беларускага слова ў Віленскай гімназіі (скончыла ў 1921г.), дзе яе ўлюбёным настаўнікам быў Максім Гарэцкі, а дырэктар – Браніслаў Тарашкевіч. Трагедыю – калі дзяліла ссылку свайго мужа Франка Кушаля (быў афіцэрам Войска Польскага, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны – адзін з арганізатараў Беларускай Крайовай Абароны) зь дзецьмі ў Казахстане, а затым перасьлед з боку сталінскага рэжыму і вымушаная з 1944г. эміграцыя. Нарэшце, казку, якую яна тварыла сама пад небам Пегаса на беларускай мове. Максім Танк, які быў закаханы ў яе паэтычны талент, прысьвяціў ёй свой верш з радком: *"Песьня твая зацьвіла зачараванай казкай"*. Дух паэткі сёньня лунае пад нашым небам духоўным гімнам, зь якім пачынаюцца і заканчваюцца рознага кшталту сходкі пад знакам Свабоды.

**Стар**. 93. * На адбыўшыхся 28 верасьня 2008г. выбарах у парламент РБ улада дэманстратыўна сфальсіфікавала іх. (Гэты факт зафіксаваны назіральнікамі Маніторынгу па выбарам, які праводзіўся БХК. На гэтай аснове Еўрасаюэ выбары не прызнаў. Асабістыя ўражаньні пры назіраньні за выбарамі пакладзены ў аснову твора ***"Гульні ў зморы"***, дзе прататыпамі "гульцоў" з'яўляліся асобы, зь якімі я кантактаваў).

**Стар**. 97. * **Адам Міцкевіч (1798-1855) –** сусьветна вядомы паэт ліцьвінскага паходжаньня, грамацкі дзеяч і публіцыст, адзін зь лідэраў тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў, за дзейнасьць у якіх адбываў ссылку у Расеі, а затым вымушаны быў жыць у Рыме, Парыжы, Швейцарыі, дзе і пісаў свае творы на польскай мове (у гэтыя часы і асабліва пасьля указа 1839г. цара Мікалая I пісаць і выдаваць творы на роднай /ліцьвінскай/ мове ўладай забаранялася), поўныя настальгічнага смутку і любові да сваёй Айчыны, якой для яго была Літва (сучасны назоў – Беларусь). Усе яго творы (паэмы, балады, вершы, санеты, песьні) пранікнуты рамантычным духам Свабоды і прарочаствам у вызваленьні краю ад царскага прыгнёту. У апошнія гады свайго зямнога жыцьця ён, як рыцар Свабоды, якога праслаўляў у сваіх творах, выехаў у Турцыю, дзе зьбіраў сваіх суайчыньнікаў-эмігрантаў у атрады, каб рушыць затым у зьняволены Край для яе выратаваньня ад рускага засільля. Але неўзабаве ў Канстанцінопалі яго напаткала раптоўная сьмерць. Ёсьць меркаваньні, што яго атруцілі, бо "хвароба" трывала ~ 15 гадзін. (Час."Спадчына", №5,1993, стар. 63-69).

**Стар**. 97. * **Еўтэрпа**: у грэчаскай міфалогіі - муза лірычнай паэзіі

# ФАТАГРАФІІ



Сябры БНФ Яўген Скочка, Андрусь Лапановіч і Сяржук Ільюшчыц усталёўваюць крыж на адной з магіл масавага захараненьня нявінных ахвяр сталінізму ў масіве Курапаты, дзе бальшавікамі было зьнішчана каля 200 тыс. чалавек.(Фота 2003)




**16** жніўня (кожны месяц гэтага дня – ў дзень зьнікненьня бізьнесьмена Анатоля **Красоўскага** і палітыка Віктара **Ганчара** 16.09 1999г) 2010г. каля Акадэміі навук у Менску адбыўся пікет, на якім 200 чал. патрабавалі рассьледаваньня фактаў, прыведзеных у фільмах "Хросны бацька", які дэманстраваўся па тэлебачаньню на каналах Расеі. (Фота з газ. "Наша Ніва"

# ЗЬМЕСТ

Карта **«Римская империя»** у канцы 2-га ст. н.э.

**(**Умоўныя граніцы Беларусі на абшарах разьмяшчэньня вянедаў, якія сталі раданачальнікамі славянскіх плямён, у тым ліку і ліцьвенаў /беларусаў/)



*Літаратурна-мастацкае выданьне*

**Мілаш** Мікола

На хвалі Адраджэньня

*Паэтычныя творы, гістарычныя эсэ.*

Выданьне 2-е, выпраўленае і дапоўненае.

Рэдактар: М.Даман

Вёрстка: М.Тоўскі

Карэктар: М Ваяр

Падпісана да друку 14.01.2012г. Фармат 84х100 1/32

Папера афсетная. Гарнітура Тімез.

Ум. друк. 8,30 арк. Ул.-выд. 6,30 арк.

Наклад 100 паас. Замова № 13

Выдавец**: ГА фонда ім. Фр Скарыны клуба "Посах"**

Адрас: г. Смаленск, вул. Сьвярдлова, 24

Надрукавана ў друкарні ТДА **Новы сьвет**

з арыгінал-макета заказчыка.

Адрас: г. Смаленск, вул. Смалянінава, д.1.

## МІКОЛА МІЛАШ

Нарадзіўся 26 сьнежня 1936г. ў вёсцы Домантавічы на землях Капыльшчыны, якія яшчэ ў 13 ст. належалі *Краіне Мяндогавай*, а потым – пад назвай *Літванія* – ў складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай, затым – у складзе Расейскай імперыі пад назвай *Паўночна-Заходні край*, нарэшце – ў *Беларускай Народнай Рэспубліцы*, а потым – у складзе СССР пад назвай *Беларуская ССР*, а ў сучасны час – як суверэнная дзяржава з назвай *Беларусь*.

Да літаратурнай плыні далучыўся яшчэ ў гады навучаньня ў тэхнічных установах (тэхнікуме, які закончыў з адзнакай, і Акадэміі). Вершы пісаў па-руску. На роднай мове стаў пісаць, калі пераканаўся ў яе патрыятычнасьці і зачараванасьці. Менавіта такой бачыць аўтар спадчыну сваёй пакутнай Бацькаўшчыны, гісторыю якой крэмзалі, нішчылі, тапталі і так цемрашалы яе сфальсіфікавалі, што народ нават забыў назву не толькі сваёй нацыі, але і назву сваёй Айчыны. Размаўляць на роднай мове у сваёй большасьці народ грэбуе і не жадае, бо для гэтага ўладай не ствараюцца умовы. Аўтар справядлівы ў сваім шчырым выказваньні:

***“Калісьці нас ліцьвінам звалі.***
***Тутэйшым – нас празваў “русін”.***
***Вой, “беларусам” мы ўжо сталі.***
***А ў хуткім часе ?– Будзем кім?”***

Кніга “На хвалі Адраджэньня”– першая проба аўтара свабодна выказаць у стылі Васіля Быкава свае думкі і погляды да сучаснага становішча нашага народа, які стагодзьдзямі ў віры маны заганяўся бізуном насільля ў ціну здрады і балота абывацельшчыны і які (ў каторы раз!) зноў паўстае зь яго, нібы фенікс з попелу, дзеля прадаўжэньня роду сваіх продкаў. Лёс ліцьвінскай нацыі з назвай “беларус” і яе сімвалаў вельмі хвалюе сапраўднага спадкаемца фарміраваньня нацыянальнай самасьвядомасьці.

Каб зьнітаваць стагодзьдзяў плыні Адраджэньня аўтар усьвядомлена скарыстоўвае ў сваіх творах у якасьці эпіграфаў і выслоўяў выказваньні адначасова некалькіх славутых дзеячаў розных эпох, зробленых імі ў сваёй пагодзе часу, каб перанесьці чытача ў думках на выспу абставін, зь якіх ён мог бы ацаніць сучаснае становішча народа, пераканацца ў фальшывасьці свайго існаваньня пад крылом РПЦ і прылучыцца да ўдзелу абуджэньня народных мас. Гэта па-сапраўднаму вельмі адказна і патрыятычна, што прыдае твору гістарычную важнасьць, а аўтару – упэўненасьць у сваёй дзейнасьці і веру ў будучыню Бацькаўшчыны.

Вельмі слушны аўтар сваім сцьвярджэньнем, што ўзьняты сёньня змагарамі за адраджэньне нацыі штандар **“За Праўду! За Справядлівасьць! За Свабоду!”**, які стаў пераемнікам штандара “Фронта” 90-тых 20-га ст. **“Свабода! Вольнасьць! Адраджэньне!”** і штандара змагароў сярэдзіны 19-га – **“Свабода! Роўнасьць! і Братэрства!”**, пра якія ішла размова ў паэме **“Свабода ў пагодзе часу”,** і на самай справе *“адкрые ісьціну народу, расьсее дух маны і жах!”* (чытай “Эпілог” паэмы).

Ёсьць меркаваньні, што кніга займее попыт і прынясе карысьць у справе адраджэньня Духу нацыі і яе гістарычнай памяці.

Мікола **Малышчыц**